М.В. Абабурка

# Дыялектызмы ў творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў

## кароткі слоўнік – даведнік

М. В. Абабурка

# ДЫЯЛЕКТЫЗМЫ Ў ТВОРАХ БЕЛАРУСКІХ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

## Кароткі слоўнік-даведнік

Мінск
«Вышэйшая школа»
1979

## УВОДЗІНЫ

Сучасная беларуская мова, адна з маладых і высокаразвітых нацыянальных моў Савецкага Саюза, якая, як і многія іншыя нацыянальныя мовы, выступае ў дзвюх разнавіднасцях — літаратурнай і дыялектнай. Літаратурная разнавіднасць (беларуская літаратурная мова) — гэта ўнармаваная і адшліфаваная пісьменнікамі, публіцыстамі, вучонымі, дзеячамі культуры і асветы вышэйшая форма камунікацыі і інфармацыі, прызначаная для агульнанароднага карыстання ў вусным і пісьмовым выглядзе. Дыялектная разнавіднасць (беларуская дыялектная мова) — неўнармаваная, тэрытарыяльна і ў некаторай ступені сацыяльна абмежаваная, беспісьмовая форма беларускай нацыянальнай мовы, уласцівая пераважна вясковаму насельніцтву і прыгодная толькі для штодзённа-бытавога карыстання. Абедзве ўказаныя разнавіднасці на сучасным этапе знаходзяцца ў цеснай узаемасувязі і ўзаемадзеянні. Асабліва выразна гэта праяўляецца ў арыгінальных творах беларускіх пісьменнікаў, дзе заканамерна пераплятаюцца разнастайныя агульнанародныя і вузкамясцовыя моўныя асаблівасці.

Сучасная беларуская мастацкая літаратура з'яўляецца адной з багацейшых славянскіх літаратур як у сэнсе тэматыкі, так і ў сэнсе моўна-выяўленчых сродкаў. Таму мова яе ўяўляецца ўзорам, на які трэба раўняцца пры адборы ў літаратурную мову розных выяўленчых сродкаў. Праўда, мова беларускай мастацкай літаратуры яшчэ дасканала не вывучана, але нават павярхоўны аналіз твораў паказвае, што ў іх сінтэзаваны і арганічна злітаваны лексічныя асаблівасці як літаратурнай, так і дыялектнай разнавіднасці беларускай нацыянальнай мовы. Адзначанае, можна сказаць,— працяг і ўдасканаленне традыцый старажытнай беларускай літаратуры, у якой «праявілася тэндэнцыя да збліжэння мовы твораў мастацкай літаратуры, асабліва публіцыстычных, з жы-

вой народнай гаворкай, і ў гэтай справе старажытная беларуская літаратурная мова выпрацавала своеасаблівыя прыёмы пісьма, заснаваныя на выкарыстанні моўных сродкаў жывой гаворкі, што надзвычай узбагачала сістэму выяўленчых сродкаў літаратурна-пісьмовай мовы і вызваляла яе ад незразумелых народу старaславянізмаў і іншых традыцыйных кніжных элементаў, якія сваімі вытокамі ішлі яшчэ ад часоў агульнарускай пісьменнасці і станавіліся яўнай архаічнасцю» [1].

У сучаснай беларускай філалогіі тэрмін «дыялектызм» тлумачыцца як «слова, ужыванне якога абмежавана пэўнай гаворкай» [2], «слова або словазлучэнне, уласцівае якой-небудзь гаворцы, але не ўжываемае ў літаратурнай мове» [3], «слова і выраз, які ўжываецца толькі ў данай мясцовасці і не адпавядае ўстаноўленым нормам літаратурнай мовы» [4], «слова або моўны зварот з якога-небудзь дыялекту, ужыты ў літаратурнай мове» [5]. Існуе меркаванне, што «дыялектызмы — гэта словы мясцовых гаворак, якія, будучы ўжытымі ў мастацкім творы, значэннем, граматычнай будовай ці гучаннем адрозніваюцца ад слоў агульнанародных, літаратурных. Дыялектызмы не ўваходзяць у склад лексікі літаратурнай мовы» [6]. Ёсць імкненне размежаваць тэрміны «дыялектнае слова» і «дыялектызм»: «Словы і выразы, якія ўжываюцца ў пэўнай гаворцы ці мясцовым дыялекце і па сваму гукавому саставу або значэнню адрозніваюцца ад слоў агульнанародных, літаратурных, называюцца дыялектнымі.

---

[1] *Шакун Л. М.* Аб мове паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».— У зб.: Труды по языкознанию. Мінск, 1958, с. 115.

[2] Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія. Мінск, 1961, с. 179.

[3] *Юрэвіч А. Л.* Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў. Мінск, 1962, с. 64.

[4] *Макарэвіч А. А.* Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. Мінск, 1963, с. 43.

[5] *Баханькоў А. Я., Гайдукевіч І. М., Шуба П. П.* Тлумачальны слоўнік беларускай мовы, выд. 2-е. Мінск, 1972, с. 114.

[6] *Камароўскі Я. М., Мяцельская Е. С.* Беларуская мова. Дапаможнік для абітурыентаў. Мінск, 1974, с. 34—35.

Калі гэтыя словы трапляюць у літаратурную мову, іх называюць дыялектызмамі»[7]. Са сказанага вынікае, што «дыялектнае слова» і «дыялектызм» паняцці не тоесныя.

Пад дыялектнай лексікай увогуле разумеецца сукупнасць слоў, якія ўжываюцца ў пэўнай гаворцы ці дыялекце і сваім гукавым складам або значэннем, сваімі граматычнымі ці фразеалагічнымі асаблівасцямі адрозніваюцца ад літаратурных. Трапіўшы ў літаратурную мову па адпаведнай прычыне, дыялектныя словы ў залежнасці ад сваіх асаблівасцей супрацьпастаўляюцца літаратурным нормам і называюцца фанетычнымі, акцэнталагічнымі, лексічнымі, семантычнымі, словаўтваральнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі і фразеалагічнымі дыялектызмамі.

Беларускія савецкія пісьменнікі актыўна выкарыстоўваюць у сваіх творах дыялектызмы пераважна як моўную характарыстыку дзейных асоб, але ў апошнія дзесяцігоддзі некаторыя з іх (асабліва пісьменнікі малодшага ўзросту) нават у сваёй, аўтарскай, мове стараюцца выкарыстаць усе магчымыя сродкі выражэння сучаснай беларускай мовы. Таму зараз і ў паэтычных творах шырока наглядаецца так званая «дыялектызацыя». Напрыклад, у чатырохрадковым вершы Р. Барадуліна «Існасць» выкарыстаны фанетычны, марфалагічны і акцэнталагічны дыялектызмы:

Хоць век твой — *краец* веташка,
Шлях людзям знач ты, *жыцьмеш* покі,
Каб не разбіцца, як *машка*,
Аб ветравое шкло эпохі!

*(«Полымя», 1976, № 1, с. 81)*

Выдзеленыя дыялектныя словы адэкватныя літаратурным нормам *акраец, будзеш жыць, мошка* і *машкара*.

Дапаможнік гэты прапануецца як слоўнік-даведнік, у які ўключаны найбольш арыгінальныя і шырокаўжывальныя ў мове мастацкай літаратуры лексічныя, семантычныя і словаўтваральныя дыялектызмы. Крытэрыямі аднясення такіх лексем да дыялектызмаў з'яўляюцца, па-першае, стылістычная памета *абл.* (абласное) у «Руска-беларускім слоўніку пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі (М., 1953), «Беларуска-рускім слоўніку» пад рэдакцыяй К. Крапівы (М., 1962) і «Тлу-

---

[7] *Гурскі М. І., Булахаў М. Г., Марчанка М. Ц.* Беларуская мова, ч. 1. Мінск, 1969, с. 58.

мачальным слоўніку беларускай мовы», падрыхтаваным супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства АН БССР (т. 1—5); па-другое, адсутнасць выбраных слоў у літаратурных слоўніках і наяўнасць іх у абласных; па-трэцяе, тэрытарыяльная абмежаванасць сферы ўжывання гэтых слоў, вызначаная лінгвагеаграфіяй.

Крыніцай фактычнага матэрыялу з'яўляюцца ў асноўным празаічныя творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Гэта тлумачыцца тым, што ў прозе значна часцей сустракаюцца разнастайныя дыялектныя асаблівасці і ў ёй дыялектызмы могуць выконваць не толькі эстэтычную, але і назыўную ці інфармацыйную функцыю, таму што ў многіх выпадках яны выступаюць спецыфічнымі мясцовымі назвамі агульнавядомых ці невядомых на значнай тэрыторыі прадметаў, з'яў, дзеянняў, працэсаў і звязаных з імі розных прыкмет, акалічнасцей і інш. Ілюстрацыі-прыклады з паэтычных і іншых жанраў прыводзяцца толькі ў адзначаным плане ці для больш поўнай характарыстыкі значэння дыялектнага слова ў літаратурна-мастацкім творы.

Дыялектызмы пададзены строга ў алфавітным парадку. Усе яны размеркаваны па лексіка-граматычных разрадах (часцінах мовы), на што ўказвае пэўная памета (*наз.*— назоўнік, *прым.*— прыметнік і г. д.). Акрамя гэтага, змяняльныя часціны мовы суправаджаюцца паметамі, якія паказваюць на род, лік, зборнасць, трыванне. Калі слова выкарыстана пісьменнікам у пераносным сэнсе ці мае стылістычную афарбоўку, яно суправаджаецца таксама неабходнай паметай (у канцы кнігі прыводзіцца спіс умоўных скарачэнняў і поўных назваў граматыка-стылістычных памет).

Кожны дыялектызм тлумачыцца апісальна ці літаратурным адпаведнікам у цеснай сувязі з кантэкстам, у якім яго выкарыстаў той ці іншы пісьменнік. Калі гэта зрабіць немагчыма, на дапамогу падключаюцца разнастайныя лексікаграфічныя працы, дзе маецца адпаведнае тлумачэнне. У некаторых выпадках тлумачэнне поўнасцю запазычваецца з дакладнай пашпартызацыяй крыніцы. Кожнае тлумачэнне абавязкова падмацоўваецца адным ці некалькімі прыкладамі, узятымі непасрэдна з літаратурна-мастацкага твора з указаннем яго назвы і аўтара. Мнагазначнасць слоў перадаецца пералікам і нумарацыяй у адным артыкуле розных значэнняў слова, якія таксама суправаджаюцца прыкладамі-ілюстрацыямі з мастацкіх тэкстаў. Аманімічныя дыялектызмы змяшча-

юцца асобнымі артыкуламі і маюць свае спецыфічныя граматыка-стылістычныя паметы. Усе прыклады-ілюстрацыі ўзяты з пасляваенных выданняў.

Варыянты выкарыстанага пісьменнікамі таго ці іншага дыялектнага слова (фанетычныя, акцэнталагічныя, марфалагічныя і арфаграфічныя) змяшчаюцца адзін за адным, напрыклад: *адале, адаля* і *адылі, аддудураны* і *аддудыраны* і г. д. Памяншальныя формы ў асобныя артыкулы не вылучаюцца і паметамі не суправаджаюцца.

Асабліва важнае значэнне надаецца заключнай частцы слоўнікавага артыкула, дзе пасля паметы *парайн.* падаюцца словы з жывой беларускай народна-дыялектнай мовы, аднайменныя і аднакарэнныя, раўназначныя і блізказначныя выкарыстаным пісьменнікамі. Асноўная задача такіх матэрыялаў — даказаць, што «вылушчанае» слова не прыдумана пісьменнікам, а запазычана ім з народнай (пераважна роднай) гаворкі ці ў іншага пісьменніка і літаратурна апрацавана, г. зн. мэтанакіравана ўведзена ў літаратурны ўжытак (агульнавядома, што пісьменніцкія неалагізмы сустракаюцца шмат у якіх творах). Акрамя гэтага, параўноўваючы некаторыя літаратурныя нормы, літаратурныя апрацоўкі і прыведзеныя дыялектныя факты, чытач (у першую чаргу студэнт, навучэнец) можа самастойна выявіць пэўныя адрозненні літаратурнага слова ад дыялектнага ці наадварот, а таксама «ўбачыць» пісьменніцкую працу над дыялектным матэрыялам. Усе пададзеныя лексічныя і лексікаграфічныя працы дакладна пашпартызаваны для найбольш зручнага карыстання імі.

# А

**Абало́нка** *наз., ж.* Шкло ў акне; шыба.

Праз малюсенькае, у адну абалонку, акенца на гарышчы свяціла сонца. (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *(а)балонка* — шкло ў акне (*БРС-62, 21,* 116); *абалонка* — шыба ў акне (*Сцяшковіч,* 6).

**Абапіня́нка** *наз., ж.* Вялікая хустка, якая завязваецца зверху галаўнога ўбору.

А вось і маці. Па доўгай чорнай спадніцы, хустцы-абапінянцы і па нагах, абкручаных анучамі, яе адразу пазнаў Лёнька. (*М. Капыловіч.* У ружовым тумане)

Параўн.: *опинянка, апінянка* — вялікая хустка (*Сакалоўская,* 301; *Янкоўскі,* I, 33); *абапнуцца* — завязаць фартух (*Шаталава,* 5).

**Абгало́ціць** *дзеясл., незак. Перан.* Зрабіць голым, абабраўшы да ніткі.

А-а-а? Сам ад сябе хаваць буду? Рады абгалоціць бацьку? (*П. Галавач.* Кнак)

Параўн.: *абгылаціць* — абабраць да ніткі (*Бялькевіч,* 20).

**Абе́наж** *прысл.* Абедзвюма нагамі; вярхом.

Яшчэ той галуза, што ўчапіўся быў за Хомчыны калёсы пад'язджаць, сеўшы абенаж на жэрдцы, ухапіўшыся за наклеску, каб не зваліцца... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *абенаж* — вярхом (*Бялькевіч,* 22).

**Абса́ц** *наз., м.* Набойка на падэшве абутку пад пяткай; абцас.

Чайная лыжачка саскочыла на падлогу і ўгадзіла пад абсац. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *обсацъ, абсац* — абцас (*Насовіч,* 353; *Сцяцко,* 11).

**Аглабіно́** *наз., н.* Верхняя частка драбін (у возе).

Ён нацягнуў лейцы і перакінуў нагу цераз аглабіно.. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *аглабіна* — частка воза (*Янкоўскі,* I, 27); *аглабіна, аглабня* — аглобля (*Шаталава, 8*).

**Аглабцы́** *наз., мн.* Кузаў у павозцы; драбіны.

Я сам накошваў поўныя аглабцы дзятлавіны, пхаў пад яе хамут і клаўся спаць ... (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *оглобина, глабинки* — 1) кузаў калёс ці саней; 2) борт-рашотка ў калёсах (*Масленікава,* 166).

**Ада́ле, Ада́ля** і **Ады́лі** *злучн.* А потым, а пасля.

Я то сяду, але думаў, дагоніць мяне наша сельсавецкая працаўніца. Я яе чакаў на паўстанку, адале пайшоў... (*К. Чорны.* Спатканні з аспаватым чалавекам) Нават нейк добра робіцца, калі яна [рука] так лёгка падае. Адале — стома, як пасля вялізнай работы. (*Я. Скрыган.* Наталя) Вось пражывяце якога з паўгода, адаля Рыгор забярэ вас да сябе ... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Галілей ... разгублена трос сваёю барадзёнкаю, адылі цмыгнуў у дзверы і знік, нібы і не было яго тут. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *адыли* — а далей, а потым (*Насовіч,* 3); *адале* — але потым, але пасля (*Янкоўскі,* I, 28); *дале* — пасля (*Хрэстаматыя,* 333).

**Ада́ля** гл. *Ада́ле.*

**Адва́ранкі** *наз., мн.* і **Атва́ранка** *наз. ж.* Адвараная цэлая (не патоўчаная ці не парэзаная) бульба.

Падышла маці і пачала пытацца: стаўчы камякі з бульбы ці няхай будуць адваранкі. (*П. Пестрак.* Серадзібор) У хаце пахла гарэлай бульбай... недзе на загнетку сыходзіла гарачай парай атваранка. (*І. Чыгрынаў.* Сонца на косах)

Параўн.: *адваронкі* — бульба, звараная ў «мундзірах» (*Сцяцко,* 12; *Сцяшковіч,* 19).

**Аддуду́раны** і **Аддуды́раны** *дзеепрым.* Адтапыраны.

Зосін бацька сустрэў Андрэя ў новай кашулі, зашпіленай на ўсе гузікі, і ў хромавых ботах з аддудыранымі халявамі. (*І. Пташнікаў.* Трэція пеўні) Адзін быў... з жорстка аддудыранымі вусамі. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *отдудуреный* — адтапыраны (*Насовіч,* 373); *аддудыріный* — 1) адтапыраны, 2) адстаўлены, выцяг-

нуты ўбок (*Юрчанка,* 22); *аддудураны* — адтапыраны (*Жыдовіч,* III, 11).

**Аддуды́раны** гл. *Аддуду́раны.*

**Аддуды́рвацца** *дзеясл., незак.* Адтапырвацца.

Твар у яе [Веры] робіцца дужа цікавы і троху смешны: вусны збіраюцца ў шчыльную складку і аддудырваюцца, як у дзіцяці. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *отдудурвацьца* — выдавацца ўперад (*Насовіч,* 373); *аддудырвацца* — адтапырыцца (*Юрчанка,* 22); *аддудурівацца, аддыдуріцца* — адстаўляцца дудкаю, адтапырвацца (*Бялькевіч,* 43).

**Ады́лі** гл. *Ада́ле.*

**Ажарга́ць** *дзеясл., зак.* Сесці вярхом.

У таго, што ажаргаў сядло і ўзяў у дзве рукі руль, была высокая фуражка з вузкім белым арлом і бліскучым чорным брылем. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *ажыргаць* — асядлаць (*Сцяшковіч,* 23), сесці вярхом (*Шаталава,* 10).

**Акрутні́** *наз., мн.* Прыстасаванне для прымацавання аглабель у санях; заваратні.

Трашчаць аглобні з намёрзлымі пяньковымі акрутнямі, калі ўпіраюцца ў палазы і выгінаюцца на павароце. ( *І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *акруцень* — супоня (*Сцяшковіч,* 25).

**Ане́гдай** *прысл.* Нядаўна; аднаго разу.

Анегдай пасля смажонага селядца я паўкухля квасу выжлуктаў... (*М. Гарэцкі.* Панская сучка)

Параўн.: *анагдась* — нядаўна, на днях (*Насовіч,* 6); *негды, негдысь* — некалі, калісьці (*Насовіч,* 343); *аногды* — часамі, іншы раз (*Бялькевіч,* 53); *анегды* — аднойчы, нядаўна (*Сцяшковіч,* 18); *анегдачкі* — нядаўна (*Шаталава,* 12).

**Апасты́рыць** *дзеясл., зак.* Зганьбіць, увесці ў сорам.

Не, дружа, рамана не кручу, дый не думаю з парабчанкай! Каб апастырыць усю радню! Не! (*П. Галавач.* Загубленае жыццё)

**Апіво́шына** *наз., аг. Асудж.* П'яніца.

Я напішу бацьку на завод, ён яму пакажа гэтыя п'янкі. Дажыўся, апівошына, што з работы выгналі. (*В. Дайліда.* Вясна, хлопцы, вясна)

Параўн.: *апівош, апівоша* — той, хто многа п'е не за

свой кошт, хто «апівае» людзей (*Янкоўскі*, III, 10; *Сяцко*, 16).

**Апо́лец** *наз., м.* Вялікі кавалак сала.

Энзэ і сапраўды грунтоўны,— аполец сала, бохан хлеба, пара каўбас, кошык бульбы і яблыкі. (*Я. Брыль.* На Быстранцы)

Параўн.: *аполяц, аполец* — кавалак сала (*Сцяцко*, 17; *Сцяшковіч*, 30).

**Арта́чыцца** *дзеясл., незак.* Не згаджацца; супраціўляцца.

«Ды я і лавіць гэтымі днямі не думаю»,— артачыўся Міхалка. (*З. Бядуля.* Салавей) Волька нешта артачыцца цяпер, злуецца. (*А. Кулакоўскі.* Нявестка)

Параўн.: *артачыцца* — наравіцца (*Бялькевіч*, 58).

**Асве́р** *наз., м.* Калодзежны журавель; прылада (прыстасаванне), з дапамогай якога дастаюць ваду з калодзежа.

Вецер стогне над студняй, рыпае асверам. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Жыццё вёскі прачыналася — за сценамі хаты скрыпелі калодзежныя асверы, спявалі пеўні, мыкалі каровы... (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) Потым доўга рыпеў асвер, лілася вада, і казак цярпліва насвістваў каню. (*М. Лобан.* На парозе будучыні) У кожнага на двары нехта быў: папраўляў вароты, скрыпеў асверам. (*І. Пташнікаў.* Тартак) Сотнікаў знясілена і без мэты цягнуўся ў ім [тумане] на ватных нагах, пакуль не ўбачыў ля плота калодзеж з вядром на асверы. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

**Асво́лак** *наз., м.* Падоўжаная перакладзіна, на якой трымаецца страха хлява ці адрыны.

Днём вэндзяцца [кумпякі] на сонцы, а нанач падвешваюцца на прутках пад страхою, ля самага асволка. (*У. Дамашэвіч.* Звяруга)

Параўн.: *асмолак* — тоўстая жэрдка, да якой прымацоўваюцца кроквы (*Жыдовіч*, I, 17).

**Асянчу́к** *наз., м.* Народжаны восенню (звычайна пра дамашнюю жывёлу, птушку).

Колькі ў яе [Тацяны] цяпер тае гаспадаркі: асянчук-кабанчык, ды дзве курыцы з пеўнем. (*А. Васілевіч.* Карэспандэнтка)

Параўн.: *асянчук* — свойская жывёліна, якая нарадзілася ўвосень (*Сцяцко*, 18; *Янкоўскі*, III, 12).

**Атвáранка** гл. *Адвáранкі.*

**Ахáйваць** *дзеясл., незак.* Абгаворваць.

Не едзь да яго радні, вярніся назад. Я не ведаю яго, не ахайваю, але я цябе буду вельмі любіць і паважаць. Ты ж яго не любіш... (*Г. Далідовіч.* Дамашанская каралева)

Параўн.: *зняхаяць* — зганіць, абгаварыць (*Янкоўскі,* III, 48); *ахаяць* — абгаварыць (*Шаталава,* 15).

**Ацéслы** *прым.* Сыры, недапечаны (пра хлеб).

Мікіта не даў сябе ўпрошваць — адно перакуліў у рот наперад усіх сваю шклянку і, кусаючы на хаду ацеслы хлеб, спехам падаўся да парога... (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *ацесліва (БРС-62,* 110).

**Ацяты** *дзеепрым.* **1.** Абсечаны.

Каля маста Астап выскачыў з воза і падбег да двух карчоў, угледзеўся, абмацаў рукамі. Абодва мелі форму танклявых спіцукоў, абсечаных, ацятых дарэшты... (*Ц. Гартны.* Прысады)

**2.** *Перан.* Агорнуты.

Васіль нездаволена ківаў галавою. Ацяты клопатам, ён непрыкметна для сябе дайшоў у канец вуліцы... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *цяць* — секчы (*Насовіч,* 689); *ацяцца* — згубіць жаданне (*Сцяцко,* 19).

## Б

**Бадня** *наз., ж.* Самаробнае вядро.

Пачнецца доўгая белая зіма, замяце, закруціць, навіхурыць гурбы снегу ля платоў, прыйдзецца кожнага дня абсякаць ля калодзежа, каб выцягнуць бадню вады... (*Г. Далідовіч.* Дажджы над вёскай)

**Бáйбас** *наз., м. Гарэзл.* Лодар; вялікі ростам.

Фэлька прыгарнуў Стасюка да сябе, смеючыся сказаў: «Эх, ты, сынку... Байбас ты свавольны». (*К. Чорны.* Вераснёвыя ночы)

Параўн.: *байбось* і *байбусь* — 1) высакарослы, 2) лаянкавае слова на малога (*Насовіч,* 75); *байбус* — дурань (*Сцяцко,* 20), вельмі нехлямяжы чалавек (*Бялькевіч,* 80).

**Балэ́бус** *наз., м. Асудж.* Гультаяваты дзяцюк.

Кіпела ўсярэдзіне ад таго, што Сцяпан, тулячыся ля акна, упоцемку ужо, сляпіў вочы пры кніжцы: здароваму гэтаму балэбусу як і не было клопату, што бацьку пятлю зацягваюць. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *балабос* — балбатун (*Каспяровіч,* 10).

**Баро́кацца** *дзеясл., незак.* Мерацца сілай, дужацца.

Каля дзвярэй крычалі людзі, барокаліся з Сымонам. (*З. Бядуля.* Салавей)

Параўн.: *барухацца* — няўстойліва стаяць на нагах, хістацца (*Крамко,* 98).

**Баху́рчык** *наз., м. Іран.* Дзіця, падростак.

Вы ведаеце? Пракламацый яму ў кішэню бахурчыкі напхалі і гэта — павятовы начальнік паліцыі! Сорам! (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *бахурка* — распусніца (*Бялькевіч,* 38); *бахур* — байструк (*Сцяшковіч,* 49).

**Бе́ганка** *наз., ж.* Валтузня, беганіна.

«Эге! — пачуліся галасы,— паляшук не даецца». І пачалася беганка. Лабановіч выкручваўся кожны раз, калі Тамара Аляксееўна, здавалася, вось-вось схопіць яго за вуха. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *бегі* — гулі, беганіна (*Сцяцко,* 22).

**Бе́гацца** *дзеясл., незак.* Указваць сваімі паводзінамі на неабходнасць пакрыцца (пра карову).

Пастухі казалі на яе — бык: Чарнавуха, калі я гнаў яе на пашу ў Азярышча, пускаючы сліну ляцела за чужымі каровамі і чаплялася на каторую — яна бегалася за весну ўжо трэці раз. (*В. Адамчык.* Два злоты)

Параўн.: *бегаць* (пра карову) (*БРС-62,* 121); *бегацца* — бегаць (*Шаталава,* 20).

**Бе́йбус** *наз., м.* гл. *Ба́йбас, Балэ́бус.*

Злосць яго [Глушака] на Яўхіма змянілася здзіўленнем і крыўдай: «Абкруціла! Узяла! Галадранка, а абкруціла як!.. І рукі, і ногі звязала бейбусу такому». (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *бэйбус* — байбус (*Бялькевіч,* 99), лянівы чалавек (*Жыдовіч,* III, 24).

**Бірба́ты** *прым.* Кароткі; абрэзаны.

Цыбрыкавы нямазаныя колы ляскаталі, а наравістая Аса раз-пораз узмахвала бірбатым хвастом і трэсла галавою. (*В. Дайліда.* Радасць)

Параўн.: *бірубалка* — драўляны гузік (*Шаталава*, 21).

**Блы́ндаць** і **Бры́ндаць** *дзеясл., незак.* Бадзяцца без справы.

Яны [хлопцы] пайшлі блындаць па гораду. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі) Во, дзетка маё, які ты: мы тут непакоімся, плачам, а ён сабе недзе брындае. (*А. Асіпенка.* Жыта)

Параўн.: *блындаць, брындаць* — хадзіць без заняткаў, нічога не рабіць (*Каспяровіч,* 40; *Бялькевіч,* 93).

**Блэ́нгаць** *дзеясл., незак. Іран.* Бразгаць, ляпаць.

Выпусцілі кабылу блэнгаць зубамі па выгане. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *брэнкаць* — бразгаць (*Жыдовіч,* III, 23).

**Бо́жкацца** *дзеясл., незак.* Бажыцца.

Вольскі часта божкаўся, моршчыў лоб, рабіў шчырыя і жаласлівыя вочы. (*З. Бядуля.* Салавей)

Параўн.: *божканне* (*Насовіч,* 29); *божкацца* — бажыцца (*Шатэрнік,* 34); *бошкаць, божкаць* — вохкаць (*Сцяцко,* 24; *Бялькевіч,* 89).

**Брыж** *наз., м.* Месца ў рыдлёўцы, на якое пры капанні наступаюць нагой.

Тады Чубар, як са злосці, вырваў з рук у селяніна рыдлёўку і моўчкі, націскаючы ботам на загнуты брыж, пачаў капаць зямлю проста ў жыце... (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *брыж* — востры край, руб чаго-небудзь (*Бялькевіч,* 92—93).

**Бры́ка** *наз., ж.* Драбіны для перавозкі сена, саломы і інш.

Увесь дзень Коля тросся ў пустой дрогкай брыцы цераз поле пад параснікі, затое адтуль, седзячы на высокім возе са снапамі, важна ехаў у вёску на сваё гумно... Коля ўпраўляўся няблага, брыка толькі хілілася... (*В. Быкаў.* Сотнікаў) Ты мяне не глядзі. Унька, сваю брыку падымай. Маеш цяперака работкі. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *брыка* — фура (*Насовіч,* 729), від павозкі (*Каспяровіч,* 43), прыстасаванне для перавозкі сена, саломы; павозка (*Бялькевіч,* 92).

**Бры́ндаць** гл. *Блындаць.*

**Буды́ль** *наз., м.* Сцябло сухой расліны.

На палянку выйшлі нейкія два абадранцы — адзін здаравенны, мардаты, другі сухі і тонкі, як будыль. (*А. Бажко.* Позняе ворыва) За акенцамі рос крывы, ужо амаль данізу ссохлы будыль сланечніку. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Вецер мяце сухі снег на сухія бадылінкі, і здаецца, што дзесьці адчышчаюць ржавыя нажы наждачнаю шкуркаю ці сыпкім жвірам. (*М. Лужанін.* Дванаццаць вячорных вогнішчаў)

**Бурдэ́нц** *гукаперайм., часц.* Бух, бах, шусь.

Поп другі раз тупнуў — і людзі за ім. Потым бацюшка бурдэнц на падлогу — і ўсе мужыкі паселі... (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

Параўн.: *бурдынц* — аддзеяслоўная часціца, якая выражае падзенне з грукатам (*Насовіч,* 39); *бурдык* — бух, шась (*Бялькевіч*, 95).

**Бу́рак** *наз., м.* Валёнак не фабрычнага вырабу.

У яе чорная матчына хустка, старая фуфайка, «нацягнутыя» кортам, на нагах буркі, пашытыя з суконак, на бурках бахілы. (*І. Пташнікаў.* Алені) Сцягно яго пакутна балела, ступні ён ужо не адчуваў нават, мокры ад крыві бурак змёрз і закасцянеў, другі, не да канца надзеты, загнуўся на палове халявы... (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

Параўн.: *буркі*, адз. *бурка* — цёплы абутак (*БРС-62,* 135).

**Буса́йла** *наз., м.* П'яніца, гуляка.

Бусайла-гарадчанін перацягнуў Петрыка па плячах сукаватаю папірашкаю і распаласаваў яму крамны чорны пінжак. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *бусаць* — буйна весяліцца, п'янстваваць (*Бялькевіч*, 95).

**Бы́дта** і **Бы́тта** *злучн., часц.* Быццам.

Чуўся нізкі сыраваты грукат цягніка, раптоўны крык гусей і тоўсты голас з рэпрадуктара, быдта гаварыў нехта высокі, велічынёю да неба. (*В. Адамчык.* Дзікі голуб). Ну, бытта. Шэсцьдзесят год пражыў, а пад старасць на такое дзела... Не-е, не па мне гэта. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

Параўн.: *бытто, бытта* — быццам (*Сцяцко,* 28; *Жыдовіч*, I, 26).

**Бы́тта** гл. *Быдта.*

**Бэ́лдас** *наз., м. Лаянк.* Боўдзіла; доўбня (пра чалавека).

«Зараз жа даведацца і прыслаць яго [вінаватага] сюды. У-у, бэлдасы»,— зусім выходзіў князь з раўнаважнасці. (*М. Гарэцкі.* Панская сучка)

Параўн.: *аболтус* — асталоп (*Шаталава,* 6).

**Бэ́лькаць** *дзеясл., незак.* Бэкаць.

Цапы на гумнах ужо не цупалі, ляскаталі недзе ў полі калёсы, паблізу, мусіць, на суседнім двары, бэлькалі авечкі. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *бэкаць* (*Янкоўскі,* II, 36).

**Бягу́н** *наз., м.* Частка варот.

У некага ў двары рыпеў бягун, нехта злосна, ядрана вылаяўся... (*Б. Сачанка.* Варэйка золата)

Параўн.: *бягун* — слупок у варотах, на якім «бегаюць» яны (*Янкоўскі,* I, 45); *бегун* — слупок, на якім трымаюцца вароты ў шуле (*Бялькевіч,* 83).

**Бязу́ля** *наз., аг.* Гультай(ка).

Яна [графіня] паглядзела на крэсла, пераняла позірк на запыленае распяцце на сцяне: «Ах, божа ж мой, ізноў гэтая бязуля Тэрэза не працерла ног Хрысту»... (*М. Лынькоў.* Аб чалавечым сэрцы)

Параўн.: *бязульнік (-ніца)* — свавольнік (-ніца) (*БРС-62,* 139).

**Бярно́** *наз., н.* **1.** Бервяно, прызначанае для пабудовы хаты, хлява і інш.

Ты лепей не бацьвінне крышы, а бёрны сабе на хату абчэсвай. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

**2.** Бервяно ў сцяне пабудовы.

...Хата яе з прыходу самая першая. І тапары ў іх [немцаў], і пілы. Раскідалі па бярне і перацягнулі на плячах да ракі. (*І. Пташнікаў.* Тартак) Хто на лаву сеў, а хто на бёрны... (*П. Панчанка.* Кінамеханік).

Параўн.: *бярно* — бервяно (*Каспяровіч,* 49; *Бялькевіч,* 100.)

## В

**Ва́га́** *наз., ж.* Рухомая частка калодзежнага жураўля.

Скрыпае да студні снег. Запела, захрыпела, як папсаваная дудка, замерзлая вага. (*М. Гарэцкі.* Зіма)

Параўн.: *вага* — рычаг (*Каспяровіч,* 51), журавель пры калодзежы (*Шатэрнік,* 41), перакладзіна, якая служыць для даставання вады са студні (*Юрчанка,* 48).

**Вазганіна** *наз., ж.* Валтузня; важданіна.

Гэтае іх вазганіны ніхто не прыкмячаў, бо кожны меў сваю справу. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Хаім Крокес абярнуўся назад і пахіліўся да Вінцуся Шавеля: «Таварыш Шавель, кінь ты з гэтым млінам... Навошта, слухай, табе гэтая вазганіна з ім». (*Ц. Гартны.* Свае блінцы)

Параўн.: *вазголінне* — важданне (*Юрчанка,* 48).

**Ва́лен** і **Вэ́лён** *наз., м.* Вясельны убор, фата нявесты, вэлюм.

Глядзела [Акіліна] на сваю дачку ў вясельным валене. (*В. Вітка.* Познія палыны) Прыбіралі, як да шлюбу, ў белю і вэлёны. (*Я. Купала.* Бандароўна)

Параўн.: *валянт* — вясельная сукня (*Сцяцко,* 30); *валён* — вянок (*Сцяшковіч,* 112, 75); *вэлян* — вэлюм (*Жыдовіч,* I, 34).

**Валі́зка** *наз., ж.* Чамадан.

Пасажыры, якія паспелі нагаварыцца, паспаць, стаміцца за дарогу, даўно ўжо чакалі гэтае хвіліны, пабралі цяпер свае валізкі, сумкі, клумкі і падаліся да дзвярэй. (*Г. Далідовіч.* Сустрэча)

Параўн.: *валіска* — чамадан, дарожная сумка (*Сцяшковіч,* 73; *ЛГБГ,* 277).

**Валюха́цца** і **Валюха́ць** *дзеясл., незак.* Перавальвацца з нагі на нагу; калывацца.

Сяргей, валюхаючыся, выйшаў з хаты, за ім музыкі, хлопцы, дзяўчаты... (*П. Галавач.* Кнак) Па вуліцы па пяску папаўзлі з фермы, валюхаючыся, белыя гусі. (*І. Пташнікаў.* Лонва) ...Ён [конь] зноў абыякава валюхаўся з боку на бок. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка) Па зжатым полі, па калючым іржышчы валюхалі спакойна вароны. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *валюхацца* (*Жыдовіч,* I, 27).

**Валюха́ць** гл. *Валюха́цца.*

**Варыўня́** *наз., ж.* Кладоўка для захавання гародніны, бульбы і інш.

Відаць, што тут ён быў першы раз, бо, зачыніўшы веснічкі, пастаяў трохі, агледзеў двор — хату, хляўчук, свіронак, асабліва спыніўся вачыма на варывеньцы.

(*Я. Скрыган.* У Кірылы на Хутары) Дзядзька Антось прыносіў з варывенькі вязку лыка, парыў у ночвах, садзіўся на калодцы і плёў лапці. (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі) А на селішчы стаяла варывенька, студня, хлеў... (*І. Пташнікаў.* Лонва) Алесь ірвануў назад, кінуўся ў дзверы варыўні, зачыніўся з сярэдзіны і замкнуўся на жалезную засаўку. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы) К поўдню выраслі вялікія кучы навыбіранай бульбы. Мужчыны прыязджалі, насыпалі паўнюткія вазы, везлі ў варыўню. (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі) На варыўні мірна буркавалі галубы. (*А. Бажко.* Перад вераснем) Яна ўспомніла, як, прачнуўшыся на дрывотні ля варыўні, з-за вугла страляў з аўтамата кутузавец, малады зусім. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *варевня* (*Насовіч,* 51); *вароўня* — курная хата для захавання гародніны (*Каспяровіч,* 54); *варывня* — уцепленая пабудова для захавання прадуктаў харчавання (*Корань,* 132); *варывенька* — кладовачка (*Шатэрнік,* 43; *Сцяшковіч,* 77).

**Варэ́йка** *наз., ж.* Гаршчок.

[Базыль] убачыў ЯЕ — аплеценую дротам і засмоленую смалою і воскам варэйку, хутчэй падобную на круглы палявы камень-дзікар, чым зробленую чалавечымі рукамі варэйку. (*Б. Сачанка.* Варэйка золата)

Параўн.: *варэйка* — гаршчок (*Бялькевіч,* 105), маленькі гліняны гаршчок (*Шаталава,* 27).

**Васьміклі́нка** *наз., ж.* Шапка, пашытая з васьмі кліноў матэрыі.

Сам Міхлік быў маленькага росту і вельмі нязграбны. Вочы чорныя, масляныя, як у крата. Вялікая шэрая шапка-васьміклінка з амаль вылупленым гузікам на макаўцы... (*Б. Сачанка.* Антось Міхлік) Толькі праз два дні знайшлі людзі на краі хліпкай багны пакамечаную, утаптаную ў гразь яго сінюю васьміклінку. (*А. Кудравец.* Іваніха).

**Весянчу́к** *наз., м.* Народжаны вясной (звычайна пра дамашнюю жывёлу, птушку).

Ля плота паважна, з гонарам расхаджваў рыжы певень-весянчук і згукваў да сябе курэй... (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *вяшняк* — вясновае парася (*Жыдовіч,* III, 32).

**Вірла́ты** *прым.* Вірлавокі, лупаты.

Броўкі тыя — якія яны ў яго яшчэ! — а ўжо чорныя-чорныя, вочкі вялікія, вірлаценькія. Ну выліты Гога... (*А. Кудравец.* Марута і Зіна)

Параўн.: *вірла* — вока (*Каспяровіч,* 58); *вірлы* — вочы (*Ралавец,* 68); *вірлач* — вірлавокі (*Сцяцко,* 31; *Янкоўскі,* III, 19).

**Віша** *наз., ж.* і **Вішай** *наз., м.* Перастаялая, няскошаная ў пару і пакінутая зімаваць на корані трава.

Шалясціць віша на балотах... Віша — гэта трава, якую не паспелі скасіць у часе. (*М. Лужанін.* Дванаццаць вячорных вогнішчаў) Учора ў абед вязу гэта я настрамачак вішаю, аж ідзе [Банэдык Гатальскі]. Паздароўкаўся лагодна, нібы здзекуецца, і ўшчаў. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *віш, віша, вішар* — зазімавалая на корані (няскошаная) трава (*Янкоўскі,* I, 50); *вішар* — сена, скошанае на лёдзе (*Шатэрнік,* 47), гнілое сена (*Шаталава,* 30).

**Вішай** гл. *Віша.*

**Во́бмельгам** і **Во́мельгам** *прысл.* Мігам, вельмі хутка.

Вобмельгам запіхваў яго [паўлітэрка] у кішэню штаноў і зноў паволі, ні на каго не гледзячы, сунуўся ў лес. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга). Дзяўчына вомельгам зляцела ўніз і пабегла ўздоўж вала. (*М. Ракітны.* Паранька)

Параўн.: *вомигом* — моцна, злосна (*Насовіч,* 66); *комельгом* — хутка, вельмі хутка (Там жа, 243).

**Во́йсце** *наз., н.* Уваход.

Агляну́ліся і падышлі да войсця ў Сівулінскую вуліцу; патрошку перайшлі да жартаў і непрыкметна некалькі згладзілі ўражанне ад арышту. (*Ц Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *войсці* — увайсці (*Насовіч,* 63).

**Во́мельгам** гл. *Во́бмельгам.*

**Вот** *часц.* Вось; вось так.

Мішка выйшаў у сені, пастаяў, падумаў, што вот астатні раз стаіць у сваёй хаце, паглядзеў на цёмную дзірку ў столі... (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *вот* (*Бялькевіч,* 112).

**Вуда́р** *наз., м.* Рыбак, які ловіць рыбу толькі вудай.

Пад столлю, у самым кутку, напяў свае цянёты, у якіх матляліся сухія мухі, маленькі чорны павучок, а

сам, падабраўшы пад сябе ножкі, прытоена, бы рыбак-вудар, сядзеў на столі — чакаў свайго ўлову. (*М. Капыловіч.* У ружовым тумане)

Параўн.: *вудак* (*Янкоўскі,* III, 20).

**Выбіра́ць** *дзеясл., незак.* Капаць (бульбу).

Пахла свежай узаранай зямлёю і дымам. Выбіралі бульбу каля дарогі. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Абапал усіх дарог, на ўсіх палосах — заклапочаныя постаці: і старыя, і малыя, усе, хто можа рабіць. Падкопваюць, выбіраюць картоплю, зносяць у кучкі ці кашы на вазах. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *выбіраць* — капаць бульбу (*Сцяшковіч,* 92).

**Выбіра́чка** *наз., ж.* Капальніца; жанчына, якая капае бульбу.

Пусціліся з гарода мяжой па паспешцы адна за адной выбірачкі. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *выбіральшчык* — той, хто выбірае бульбу (*Сцяшковіч,* 92).

**Вы́біць** *дзеясл., зак.* Выкасіць рэшткі ці невялікія лапіны травы сярод куп'я, карчоў і інш.

[Бацька] выбіў у Чортавым Лузе латку травы і, добра было б, каб я з'ездзіў і падвярнуў пракосы. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха) Учора выбіў каляснік на Залючыне. (*М. Капыловіч.* Пустальга)

**Вы́вухрыць** *дзеясл., зак.* Вывучыць, вымуштраваць (*Бялькевіч,* 116).

Ну, каб, барані бог, мне такая жонка, я ж ба яе вывухрыў, на век жыцця закаялася б фокусы выкідваць. (*М. Гарэцкі.* Зіма)

**Вымышля́ць** *дзеясл., незак.* Быць пераборлівым.

«Сала? — адказаў дзед.— Еш, што ёсць. Павык на ласункі. Сала яму. Не бачыў, мусіць, гора, калі не ясі, што даюць. Вымышляеш». (*К. Чорны.* Вясна)

Параўн.: *вымудраць* — мудрагеліць (*Бялькевіч,* 120).

**Выпе́ндрывацца** *дзеясл., незак.* Хітраваць; насміхацца

«Даволі! — аж крыкнуў Пётра, ускочыўшы з лавы. Сківаны яго захадзілі ад злосці.— Хопіць выпендрывацца! Досыць здзекавацца з людзей, досыць абліваць іх брудам». (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

**Вы́пруціцца** *дзеясл., зак.* Памерці; стаць нерухомым і прамым, як прут.

А каб ты выпруціўся! (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні) Ты думаў каго чапаў? Ды ён жа цяпер выпруціцца, а дамагацца будзе, каб цябе выключылі са школы. (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *выпруціцца* — выцягнуцца (*Каспяровіч,* 66); *вы(у)пруціцца* — выцягнуцца як прут (*Варава,* 112; *Янкоўскі,* III, 24).

**Выстарча́ць** *дзеясл., незак.* Хапаць, мецца ў наяўнасці (*Сцяшковіч,* 98).

Рыгор... я ведаю, што ты глядзіш на мяне іначай ад ранейшага. Я заслужыла: імкнуся ды не выстарчае сілы. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Даўно неяк збіраўся Сяргей напісаць ліст. Ёй. Усё нейк не выстарчала часу. (*М. Лынькоў.* Талісман) Часу зусім выстарчала для таго, каб не спяшаючыся прыйсці ў тэрмін на ўмоўленае месца. (*Я. Колас.* Дрыгва) Усё ніяк не выстарчае часу, таму і не заходзіць да яго. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга)

Параўн.: *выстарчыць* — хапіць (*Сцяцко,* 37).

**Вы́старчыць** *дзеясл., зак.* Дагадзіць, знайсці, дастаць.

Па мне, як сабе хто хоча, а я дык скажу кожнаму ў вочы проста і адкрыта. Чорт яго тут усім выстарчыць. (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *выстарчаць* — стараннем, клопатамі даставаць, *выстарчацьца* — клапаціцца аб чым пры недахопе, *выстарчивацьца* — выстарацца, знайсці (*Насовіч,* 97); *выстранчаць* — дагаджаць, забяспечваць (*Бекіш,* 96); *выстранчыць* — вельмі дагадзіць ва ўсім (*Гуліцкі,* 136).

**Вы́ступкі** *наз., мн.* Лёгкі абутак.

У покуце пад іконаю стаіць мулкі тапчан, каля яго — столік, фанерны куфэрак з бялізнаю і старыя дзіравыя выступкі на драўлянай падэшве. У гэтых выступках Юзя ходзіць толькі у касцёл. (*А. Бажко.* Перад верасием) Чуваць ненадакучлівы голас экскурсавода і асцярожнае шарганне абутых у музейныя выступкі ног... (*Я. Брыль.* Роздум і слова)

Параўн.: *выступкі* — лёгкі жаночы абутак (*Сцяшковіч,* 98).

**Высцяга̀ць** *дзеясл., незак.* Паказваць фокусы, вычвараць.

Поп самлеў, на зямлі высцягае, гаворыць нешта, за ім бабы ў плач: змілуйся багародзіца. (*П. Галавач.* Яўленая)

Параўн.: *высьцігоўы* — гоначны (веласіпед) (*Сцяцко,* 38); *высьцігі* — спаборніцтвы па бегу (*Крамко,* 85).

**Вытрэ́нчвацца** *дзеясл., незак.* Старацца; дагаджаць.

Чаго, сватoк, ужо так вытрэнчвацца? Няхай жывуць на здароўе. Венчаныя ж яны, венчаныя, муж і жонка ўжо. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *выстрэнчваць* — дагаджаць (*Жыдовіч,* III, 30).

**Выцілі́ньгваць** *дзеясл., незак.* Спяваць, ціўкаць.

«Ха-ха! Ну і праўда ж, здорава выцілiньгвае пра Цімоха!..» — смяяліся хлопцы, прыслухоўваючыся да песні дразда. (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

**Вэ́лён** гл. *Вáлен.*

**Вязьмó** *наз., н.* **1.** Перавясла.

Уздоўмецца галава ў белай намётцы, бліснe на плячы гібінка сярпа, тонкія рукі круцяць вязьмо. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь) І ён, Піліп, нешта не вытрымаў. Схапіў вязьмо і папусціў у яе. (*У. Кузьмянкоў.* Споведзь)

2. *Перан.* Тое, што гняце, прыносіць вялікія душэўныя перажыванні.

[Карызна] трапечацца, напінаецца ў адчайных патугах, і яму часам нібы ўдаецца на момант расхінуць праклятае вязьмо, але з тым большаю сілаю звінаецца яно ў наступную хвіліну. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *вязьмо* — перавясла (*Насовіч,* 106; *Каспяровіч,* 69; *Зубрыцкі,* 136; *Бялькевіч,* 127).

**Вярстá** *наз., ж.* Дровы, падрыхтаваныя для паліва і складзеныя ў касцёр ці пад страху будынка.

Ля варыўні параскіданы з вярсты дровы. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *вярста* — капа сена (*Жыдовіч,* III, 32).

**Вярэ́нька** *наз., ж.* Каробка.

Пад вечар... на вялікі брукаваны двор казармы... увайшоў невысокі дзядок з берасцянай вярэнькай за плячыма. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *варэнька, вэрэня* — сплеценая з лазы або лубу сумка (*Цыхун,* 188).

**Вяша́к** *наз., м.* Вешалка.

Стары сярмягу з вешака сарваў, накінуў хутка... (*М. Танк.* Журавінавы цвет)

Параўн.: *вяшак* — вешалка насценная (*Сяцко,* 40), вешалка ў адзенні (*Сцяшковіч,* 105; *Жыдовіч,* III, 32), пятля для вешання адзення (*Жыдовіч,* I, 35), жэрдка ў лазні, на якую вешаюць бялізну (*Шаталава,* 36).

## Г

**Галава́шка** *наз., ж.* Частка калёс; вузгалаўе.

Як заўсёды, бацька адчапіў вяроўку з задка калёс, прывязаў кола за спіцу да галавашкі, каб яно не круцілася. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *(з)головяка, головашэчка* (*Масленікава,* 188); *гылываші* — узгалоўе (*Бялькевіч,* 144).

**Галу́за** *наз., м.* **1.** Гарэза, свавольнік.

Яшчэ той галуза, што ўчапіўся быў за Хомчыны калёсы пад'язджаць, ухапіўся за наклеску. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

**2.** Галавешка.

Агонь амаль зусім патух, чырванее толькі невялічкая кучка вуголля ды збоку дыміць адна-адзінюсенькая галузка. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) Крыж, што стаяў у пяску на разгалку дарог, абгарэў, счарнеў быццам галуза... (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *галуза* — жэўжык, балаўнік (*Бялькевіч,* 131), неслух, свавольнік, гарэза (*Юрчанка,* 62), з кароткімі валасамі, нагола астрыжаны (*Сцяцко,* 41); *галуска* — галінка (*Сцяшковіч,* 109).

**Галузава́ць** і **Галузда́ць** *дзеясл., незак.* Марна траціць час.

Нічога выдатнага не забягала на местачковыя вуліцы, на якіх галузавалі толькі жэўжыкі Моўшы, Янкі, Іцкі, Язэпкі... (*М. Лынькоў.* Гой) Дзядзька часта мяне настаўляў, каб не браў кепскага прыкладу з яго дзяцей, якія галуздаюць і ніякай ахвоты не маюць да навукі. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *галузаваць* — свавольнічаць (*Насовіч,* 108).

**Галу́званне** *наз., н.* Свавольства; марная трата часу.

У задуме глядзіць Хомка на галузванне і дуронства малых... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *галузованьне* — лодырнічанне, свавольства (*Насовіч,* 108).

**Галуздáць** гл. *Галузавáць.*

**Гальнíк** *наз., м.* Дзяркач; венік без лісця.

Замятай толькі за імі [курамі], стой з гальнікам у руках і не адыходзься, калі не прагоніш з двара на гарод, у бульбу, дзе яны капаюцца пад каліўем... (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *галень, гальнік* — дзяркач, галёнка (*Юрчанка,* 61 — 62); *гальнік* — стары змецены венік (*Бялькевіч,* 192).

**Гарахавíнне, Гарашэ́нне, Гарóхавінне** і **Гарóхаўе** *наз., н.* Гарохавая салома, гарашыны.

Кастусю ж чамусьці прыйшло ў галаву ратаваць гарахавінне, пасланае ў ложку. (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі) Усе разам кінулі мяне ў вазок на гарохавінне. (*В. Адамчык.* На крыжовых дарогах) «Пабілі, а памятаеш, ці даўно, як стол была»,— адказаў другі, падгортваючы пад сядзенне растрыбушанае жоўтае гарашэнне. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) У яго было поўнае падпашша немалочанага гарохавіння. (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык) Над галавой пад шчытамі ў хляве, дзе былі пазатыканы гарохаўем дзіркі, шастала і шастала, кораценька і суха: шась! шась! (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *гарахвінне* (*Шатэрнік,* 65); *гарахвянік, гарахаўнік* — гарохавая салома (*Янкоўскі,* II, 49); *горохвиньнне, арахавенне* — сцябліны гароху (*Клімчук,* 29; *Сцяшковіч,* 112); *гарохыўя* — 1) гарохавая салома, 2) гарох (*Бялькевіч,* 133); *гарохаўе* — сцяблы гароху (*ДАБМ,* карта № 278, с. 862).

**Гарашэ́нне** гл. *Гарахавінне.*

**Гарбáч** *наз., м.* Гарбаты чалавек, гарбель, гарбун.

Я, калі хочаце, той гарбач у казцы «Царэўна — чырвоная краска», які не пакланіўся царэўне. (*Я. Колас.* У палескай глушы) Яны, вядома ж, смяюцца — і той начальнік, і гарбач... (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды) Увечары да нас прасіўся начаваць стары... гарбач з суседняй вёскі, несусветны манюка Серафім. (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *гарбачаный* — скарабачаны (*Юрчанка,* 63); *гарбацець* — станавіцца, рабіцца гарбатым (*Янкоўскі,* III, 28); *гырбач* — гарбун, гарбаты чалавек (*Бялькевіч,* 145).

**Гарлáч** *наз., м.* Крыклівы; гарладзёр.

У падпечку заспяваў певень... Жонка сказала: «Яшчэ гэты гарлач, каб ён здох, зараз усіх на ногі ўзніме сярод ночы...» (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *гарлач* — той, хто бярэ горлам (*Сцяцко,* 49), гарлапан, гарласты (*Янкоўскі,* III, 28).

**Гаро́хавінне** гл. *Гарахавінне.*

**Гаро́хаўе** гл. *Гарахавінне.*

**Гарусо́ўка** *наз., ж.* Святочная хустка.

Гаспадыня і тут нават не павяла брывом — паслухмяна накінула на галаву вялікую гарусоўку і, затрымаўшыся ўсяго на адзін момант супраць люстра, якое вісела на паклеенай шпалерамі сцяне, выкацілася з хаты. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *гарусоўка* — хустка з шэрсці (*ДАБМ,* карта № 332, с. 945—947); *гырсаўка* — вязаная з воўны хустка (*Бялькевіч,* 145).

**Гаршчэ́чнік** *наз., м.* Дзяржанне вілак, вілачнік.

Яна дастала з печы скавародку, перавярнула аладку на другі бок і, упёршыся на гаршчэчнік, падумала. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

Параўн.: *гаршчэснік, гаршчэчнік* — вілы, якімі вымаюць гаршкі з печы (*Сцяшковіч,* 116; *Жыдовіч,* III, 35).

**Гарэ́лікі** *наз., мн.* Падгарэлая бульба.

Мужчыны селі, пачалі браць зверху [чыгунка] гарэлікі, абскрабаць іх і са смакам есці. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *гарэлік* — крыху прыгарэлая печаная ці вараная бульбіна (*Янкоўскі,* I, 59); *горэлік, горэляк, гарэлик* — падгарэлая зверху бульбіна (*Вештарт,* 375); *горэлка* — бульба з прыгаркамі (*Шаталава,* 40).

**Гва́знуцца** *дзеясл., зак.* Стукнуцца; бразнуцца, упасці з шумам.

Мікіта падскочыў на лаве і знячэўку штурхнуў плечуком Мікалая Мірнікійскага. Абраз з шумам гвазнуўся наперад аб стол, а потым аб лаву. (*Я. Колас.* Адшчапенец)

Параўн.: *гвазданупь* — выцяць, стукнуць (*Бялькевіч,* 134).

**Геге́канне** *наз., н.* Гергетанне.

Ціха плывуць у надхмар'і гусі. Вось яны ледзь-

ледзь прыкметныя ўжо, вось ужо зусім зніклі... і толькі чуваць яшчэ іхняе гегеканне — ціхае і далёкае. (*П. Галавач.* Спалох на загонах)

Параўн.: *гегеўка* — валляк; *гегаць* — гергетаць (*Жыдовіч,* I, 38), гагатаць (*Шаталава,* 41); *гэгаць* — гукапераймальнае (*Янкоўскі,* II, 56).

**Гзымс** *наз., м.* **1.** Карніз.

Цяпер галубоў не відно,— спяць і яны затуліўшыся недзе на гзымсах. (*Я. Брыль.* Вачыма друга)

**2.** *Перан.* Выгляд; штучная прыгажосць.

...Нябось, захочам жа пазваць і папа, і пісара, і старшыну. Гэ-э! Гзымс патрэбен... Не праўда, мо, Тадося? (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *гзымс* — выступ на коміне, карніз (*Бялькевіч,* 134).

**Гібінка** *наз., ж.* Выгіб, крывізна (*Бялькевіч,* 134).

Уздоўмецца галава ў белай намётцы, блісне на плячы гібінка сярпа, тонкія рукі круцяць вязьмо. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *гібыць* — прагінаць, хістаць (*Юрчанка,* 65).

**Гіпацца** *дзеясл., незак.* Вагацца; калыхацца на ўласных нагах.

Але Брава-Жыватоўскі не падаў здаволенага выгляду — падкусіўшы, быццам у развазе, ніжнюю губу, ён пагіпаўся на падэшвах, а тады сказаў... (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *гібыць* — хістаць (*Юрчанка,* 65).

**Гіч** і **Гіча́н** *наз., м.* **1.** Бацві́нне.

На мякіне вырас я, гічанамі пуза ўздута. (*Я. Колас.* Новая зямля)

**2.** *Перан.* Верх мяшка, месца, дзе ён звязваецца.

...Тхорык узяўся і другою рукою за гіч мяшка, крыху паддаў яго спіною. (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

Параўн.: *гіч, гічына* — націна, адно каліва (*Янкоўскі,* I, 60; II, 51); *гічан* — бацвінне (*БРС-62,* 208); *гіч* — націнне (*Шаталава,* 41); *гічанё* — бурачнік (*Жыдовіч,* III, 36).

**Гіча́н** гл. *Гіч* 1.

**Гічка** *наз., ж.* гл. *Гіч* 2.

...Ігнаціха трымалася рукамі за гічку мяшка. (*М. Капыловіч.* У ружовым тумане)

Параўн.: *гічка* — бацвінне (*Хрэстаматыя,* 333), ніжняя шырокая частка збанка (*Шаталава,* 41).

**Гло́мзаць** і **Глэ́мзаць** *дзеясл., незак.* **1.** Хапаць зубамі або губамі.

Балуецца сівы, ласкава глэмзае мяккімі губамі Марыльку за плячо. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

**2.** Неахвотна есці, перабіраць зубамі (сена, траву).

Конь яго [Пётры] ля нашай пунькі сена гломзае, а сам ён вячэрае дома. (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

Параўн.: *глэмаць* — есці, хапаць на хаду (траву — пра кароў) (*Сцяцко,* 45); *глэм* — гам (*Янкоўскі,* III, 30).

**Глэ́мзаць** гл. *Гло́мзаць.*

**Гну́шка** *наз., ж.* гл. *Аглабіно́.*

Але каля хаты Парфёна Вяршкова давялося запыніцца, бо Парфён убачыў Зазыбу цераз плот і выйшаў на вуліцу, каб пераняць.

«Куды ета?» — узяўся ён за гнушку. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *гнёнік* — сутулы, сагнуты (*Сцяцко,* 45); *гнёныя крэслы* — крэслы з гнутымі спінкамі (*Сцяшковіч,* 122); *гнушка* — падстаўка пад патэльню (*Жыдовіч,* I, 38).

**Го́лаў** *наз., ж.* Галава.

Ён стаяў каля чаргі і, паціскаючы руку маладой дзяўчыне, раз-пораз нізка схіляў голаў, пэўне, развітваўся. (*П. Галавач.* Чацвёртае спатканне)

Параўн.: *голаў* — галава (*Сцяшковіч,* 124).

**Го́пкаць** *дзеясл., незак.* Біць, секчы, малаціць абедзвюма рукамі.

Але як пераможа сябе [Алесь], раскалышацца, разагрэецца трохі, дык і гопкае аж пакуль зноў які-небудзь перапынак... (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *гопаць* — 1) моцна тупаць, 2) моцна стукаць, 3) падаць, скакаць з вышыні (*Янкоўскі,* II, 52); *гопнуць* — моцна ўпасці (*Жыдовіч,* III, 36).

**Грабяльні́шча** *наз., н.* Грабільна.

Над ім [Хомкам] стаіць гаспадар, і грабяльнішча са злою раз'юшанасцю стукнула па разамлелым... целе. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь) ...Затым дзеркачом, які ён [Піліп] асадзіў на грабяльнішча, адграбаў зерне ў бок да кучы. (*У. Кузьмянкоў.* Споведзь)

Параўн.: *граблішча* — ручка ў граблях (*Гуліцкі*, 22); *граблішчо* (*Сцяцко*, 46; *Сцяшковіч*, 126).

**Грамаздава́ты** *прым.* Вялікі, нязграбны, няспрытны.

Яна [Надзя] радуецца хутчэй не сустрэчы, а таму, што так лёгка ўдалося ашукаць мяне, грамаздаватага і непаваротлівага... (*І Пташнікаў.* Смалістая хвоя)

Параўн.: *гламазда* — нязграбны (*Каспяровіч*, 80); *грамазда* — няўклюдная рэч значных памераў (*Бекіш*, 97); *глымызда* — нікуды няварты чалавек, лішні ў хаце (*Бялькевіч*, 136).

**Грасава́ць** *дзеясл., незак.* Разбіваць камякі зямлі; разраўноўваць, прыводзіць у парадак (грады).

Стэпа ўбегла ў хату і, скмеціўшы пад акном Лейзара Бірмана, адазвалася:

— Ты, Лейзар, хацеў мне што сказаць?

— Так. Ты час маеш?

— Маю.

— Пойдзем грасаваць градак з дзесяць, га? (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *грацаваць* — раўняць, утаптваць (*Каспяровіч*, 84); *грасаваць* — разбіваць (*Жыдовіч*, I, 39), матычыць (*Шаталава*, 44).

**Гра́сы** *наз., мн.* Прылада, якой грасуюць. Гл. *Грасава́ць.*

Марылька і маці збіралі каменне, нават месцамі выкарчоўвалі грасамі задзірванелыя кусты пырніку. (*К. Чорны.* Бацькаўшчына)

Параўн.: *грац* — матыка (*Бялькевіч*, 139); *грасачка* — матыка (*Сцяшковіч*, 127).

**Гра́тка** *наз., ж.* Насценная паліца; пасуднік.

На гратцы стаіць талерка з парэзаным падмёрзлым салам і ляжыць з паўдзесятка яек. (*І. Гурскі.* У агні) На сваім месцы... завешаная гратка, пры ёй вядро на дроце. (*У. Дамашэвіч.* Звяруга)

Параўн.: *краточка* — палічка з рашоткаю для нажоў, ложак, талерак і інш. (*Насовіч*, 252); *градНічак* — паліцы для посуду (*Каспяровіч*, 30); *гратачка* — клетачка (*Жыдовіч*, I, 39); *гратка* — насценная шафа для пасуды (*Сцяцко*, 46).

**Груба́я** *прым.* Цяжарная.

— Яўхімко, я...— Хадоська захліпвалася ад слёз.

— Пусці!

— Яўхімко! Я... Я — грубая. (*І Мележ.* Людзі на балоце)

«Суседка наша, гаворацць, зноў грубая»,— сказала Волька. (*Г. Далідовіч.* Сямён)

Параўн.: *грубыя, грубая* — цяжарная, *грубой* — тоўсты, сыты (пра чалавека) (*Юрчанка*, 69); *грубіна* — таўшчыня (*Янкоўскі*, I, 62); *грубы* — тоўсты (*Жыдовіч*, I, 40); *грубая* — 1) тоўстая, 2) цяжарная (*Сцяшковіч*, 128).

**Грузíць** *дзеясл., незак.* Таптаць; мясіць гразь нагамі.

...Унь той лог, каб забараніць грузіць каровамі, дык там сенажаць буяла б... (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *грузкій, грузьлівый* — гразкі (*Бялькевіч*, 140); *грузнуць* — гразнуць (*БРС-62*, 216).

**Грýнуцца** *дзеясл., зак.* Стукнуцца, ударыцца аб штонебудзь.

З усяго размаху яна [матка] грунулася плячыма ў сцяну і як нежывая аб'ехала на зямлю. (*К. Чорны.* Вялікі дзень)

Параўн.: *груніць* — ушчуваць, прабіраць за што (*Бялькевіч*, 140).

**Гýгачка** *наз., ж.* Гузак; выступ.

Далёка беглі ўздоўж дарогі высокія тэлеграфныя слупы з белымі гугачкамі і роўна нацягнутым дротам. (*Я. Колас* На ростанях)

Параўн.: *гугель* — крэндзель, абаранак (*БРС-62*, 218); *гугуліна* — гузак (*Шаталава*, 45).

**Гýгля** *наз., ж.* Від жаночай прычоскі; вузел.

[Лукер'я] пабегла на вуліцу ў адной доўгай палатнянай сарочцы, раскасмачаная, забыўшыся нават закруціць у гуглю свае доўгія рудыя валасы. (*Б. Сачанка.* Варэйка золата)

Параўн.: *гулда* — 1) шышак, гуз, 2) від прычоскі (*Сцяцко*, 48).

**Гумавíкí, Гумóвікі і Гумóўцы** *наз., мн.* Гумавыя боты.

...На нагах [Кузьмы] гэты раз былі абуты таксама, як і ў дзядзькі Змітра, гумавікі. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха) А чые гэта сляды ад гумовікаў ля палена? (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях) Восенню ці вясною на гэтых дарогах нельга прайсці без гумоўцаў. (*Г. Далідовіч.* Дажджы над вёскай)

Параўн.: *гумоўцы* — гумовыя боты (*Жыдовіч*, I, 4; *Шаталава*, 46).

**Гумнішча** і **Гумно́** *наз., н.* **1.** Месца вакол гумна.

...Паставіўшы машыны паміж сціртаў старой саломы на калгасным гумнішчы, ён [Саколіч] пайшоў з людзьмі на двор Зарубавай хаты. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні) Сёмка паціху папоўз мяжою, выбраўся за гумнішчы і пабег без памяці, часта азіраючыся назад. (Там жа) Нікому гняды ў рукі не даваўся — волю любіў. Сам яго закапаў на гумне. Эт! (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Ён [паліцай] пазабіраў у дзяцей з рук лыжкі, выварнуў булён на стале, пагнаў усіх з хаты. Іх павялі на гумно. Сямёна і Марусю з дзецьмі паліцаі паставілі ля сцяны, доўга рагаталі, здзекаваліся, а пасля пачалі страляць. (*Г. Далідовіч.* Сямён)

**2.** Месца, дзе было гумно.

На гумнішчы за рэчкаю ўсю ноч пасвіліся коні. (*І. Хадановіч.* Раннія яблыкі)

Параўн.: *гуменішча, гумнішча* — месца пад гумном і каля гумна (*Бялькевіч*, 142); *гумнішча, гумніска* — месца каля гумна (*Сцяшковіч*, 132); *гуменье, гумнішча, гумно* — лужок, які акружае гумно (*Касяровіч*, 87); *гумно* — адгароджаны участак зямлі з сельскагаспадарчымі будынкамі (*Шаталава*, 46).

**Гумно́** гл. *Гумнішча.*

**Гумо́вікі** гл. *Гумавікі.*

**Гумо́ўцы** гл. *Гумавікі.*

**Гу́паць** *дзеясл., незак.* Глуха стукаць; бухаць.

Як увайшоў чалавек у хату і як даў добры вечар, адказаў яму голас гучны і прарэзлівы. Следам за гэтым гупнуў чалавек босымі нагамі з печы на палок... (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі) Коні цяжка гупалі капытамі па зямлі. (*В. Адамчык.* Раяль з адламаным вечкам)

**Гу́пнуцца** *дзеясл., зак.* Упасці са стукам.

Аркадзя адчыніў заднія дзверцы «лятучкі», укінуў чамадан — ён пружыніста гупнуўся на скрутак дроту. (*А. Кудравец.* Сяструха)

**Гу́пнуць** *дзеясл., зак.* Упасці, паваліцца.

Лесасекі выкіроўваюць дручкамі дрэвы на расчышчанае месца, і тым нічога не застаецца, як з разгону моцна гупнуць на абцярэбленыя хлысты. (*Б. Сачанка.* Перад навальніцай) Алесь... упоцемку зачапіўся за нейкі корч і ніцма гупнуў у лазу. (*В. Адамчык.* На крыжовых дарогах)

Параўн.: *гуп* — дзеяслоўна-выклічнікавае слова тыпу *гоп, гоц, хап, гупнуць* — бухнуць, глуха стукнуць (*Янкоўскі*, III, 31).

**Гэ́каць** *дзеясл., незак.* Крычаць «гэ-э!»

Стары шлэмае па зямлі цяжкімі ботамі з пабялелымі і загнутымі насамі, гэкае ў цёмную ноч і ідзе ад вогнішча. (*У. Кузьмянкоў.* Бацька)

Параўн.: *гэгаць* (*Янкоўскі*, II, 56).

**Гэ́паць** *дзеясл., незак.* Кідаць.

Па-ранейшаму соп, гэпаў [снапы], нічога не гаворачы, Букаты. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

**Гэ́тта** і **Гэ́ттака** *прысл.* Тут.

Пэўна ж, не было мне тады часу разважаць, як разважаю гэтта... (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары) Улева прасвечваўся гасцінец. Не аддаляючыся ад яго, хлопцы прайшлі ганоў двое лесам і спыніліся супроціў балота. «Я думаю гэттака!» — сказаў Сёмка. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *гэтта* — тут (*Бекіш*, 97; *Зубрыцкі*, 137; *Сцяцко*, 49; *Жыдовіч*, I, 42; *Сцяшковіч*, 135); *гэттака* — тут (*Сцяцко* 49, *Сцяшковіч*, 135).

**Гэ́ттака** гл. *Гэ́тта.*

## Д

**Дабрахо́ць** *прысл.* Добраахвотна.

Дзед Мікіта і іншыя раданачальнікі Цельшына дабрахоць уступілі свае правы больш маладым і здаровым, самі ж ужо стаялі збоку ад грамадскіх спраў. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *доброхоцьце* — уласнае жаданне, *доброхоцьцю* — добраахвотна (*Насовіч*, 135); *дабрахот* — добразычлівец (*Каспяровіч*, 89); *самахоць* — па сваёй волі (*Сцяцко*, 141).

**Дамо́ўка** *наз., ж.* **1.** Кватэра, жыллё.

Дамоўкі ў мяне, сказаць, свае не было. (*К. Чорны.* Трэцяе пакаленне) І доўгімі днямі і яшчэ даўжэйшымі ў крыўднай бессані начамі думаў, балеў душою па дамоўцы... (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Тыя, што брылі цяпер з гэтае акцыі пад сценамі платоў і дамовак, з дакорам, страхам і нясхоўнай нянавісцю ў счырванелых ад плачу

жаночых вачах праводзілі гэтую зграю здраднікаў. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

2. Месца нараджэння.

Кружылася, развітвалася з роднай дамоўкай пажоўклае лісце (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі) На чорта лысага табе тая дамоўка здалася. Прыстаў бы ў прымы да якой бабы, дый жыў бы. (*Б. Сачанка.* Палон)

Параўн.: *домова* — хатняя гаспадарка (*Насовіч*, 139); *дамоўка* — 1) кватэра, 2) дамавіна (*БРС-62*, 231); *дамаваць* — сядзець дома (*Шаталава*, 48).

**Даўга́ч** *наз., м.* Доўгі.

Тацяна намацала ў торбачцы-сетцы і выняла адтуль белы даўгач — булку, адламала палавіну і пачала есці. (*П. Пестрак.* Серадзібор)

Параўн.: *даўгель* — высокі, доўгі (*Сцяцко*, 51), высокі чалавек (*Сцяшковіч*, 139).

**Даўло́сы** *прым.* З голай (без галаўнога ўбору) галавой.

Асцярожна, нібы крадучыся, на вуліцу выйшла прыгорбленая даўлосая бабулька... (*А. Кулакоўскі.* Растаёмся ненадоўга)

Параўн.: *даўлосу* — без галаўнога ўбору (*Жыдовіч*, I, 44).

**Дво́рышча** *наз., н.* Сядзіба.

Гэтыя бярвенні Птах перацягвае ў свой дворык, хавае пад леташнім бульбоўнікам, а калі іх назбіраецца з дзесятак, з дапамогай таго ж самага Івана перапраўляе на бацькава дворышча. (*І. Навуменка.* Сасна пры дарозе) ...Бацька сам быў малады і... купіў на скарбовай зямлі пляц і дворышча. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах) Ад вёскі асталіся тры ці чатыры коміны — не разабраць чые. Затое сваё дворышча Язэп пазнаў адразу. (*А. Асіпенка.* Жыта)

Параўн.: *дворышча* — двор, панадворак, тэрыторыя двара (*Бялькевіч*, 149).

**Длу́бацца** *дзеясл., незак.* Калупацца; шукаць чагосьці.

Многія пасажыры паўставалі, длубаліся ў сваіх клунках і торбах. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *длубацьца* — калупацца (*Насовіч*, 134; *БРС-62*, 148).

**Длу́бацьь** *дзеясл., незак.* Калупаць.

Клерык усміхнуўся хітра і длубаў зубы спецыяльнай зубадлубкай... (*З. Бядуля.* Салавей)

Параўн.: *длубаць* — калупаць (*Насовіч*, 134; *Сцяцко*, 53; *БРС-62*, 148); *длубак* — дзюба (*Шаталава*, 51).

**Дну́шка** *наз., ж.* Прадмет, на якім крышаць ці рэжуць сала, мяса і інш.

Зіна... бярэ цёплыя кавалкі мяса з вялізнай сіняй міскі... шлёпае іх на днушку і скаранька рэжа. (*А. Кудравец.* Марута і Зіна)

Параўн.: *днушка* — пагабляваная прадаўгаватая дошчачка, на якой крышаць капусту, буракі, сала і інш. (*Жыдовіч*, I, 46); *днішча, дно, днушка* — дошка, на якой рэжуць сала (*Сцяшковіч,* 147); *дэнка, дэначка* — дошчачка, кавалак фанеры, на якой звычайна рэжуць, крышаць што-небудзь; дэнкам накрываюць пасуду (*Яўневіч*, 21).

**До́дніца** *наз., ж.* Досвітак, світанне.

Бралася на додніцу. На дварэ было яшчэ цёмна. (*І. Пташнікаў.* Агні)

Параўн.: *воднік* — світанне (*Сцяшковіч*, 147).

**До́дніцай** *прысл.* На світанні, досвіткам.

Додніцай быў мароз — ляжаў на траве іней,— і холадна ў баразне ў босыя ногі. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *додніка* — на світанні (*Сцяшковіч*, 147); *доднечкам* — досвіткам (*Жыдовіч*, III, 42).

**До́нне** *наз., н.* Пасцель (дошкі) у санях.

Лапавухая кабыла ратавала заднія ногі ад дошак санкавага доння, імчала з гары на ўсе жылы. (*К. Чорны.* Нянавісць)

Параўн.: *дона* — дно (*Каспяровіч*, 95).

**Дос** *прысл.* Досыць, даволі.

«Выкапаем. Калі і сарвем з вас маскоўскай пляшку — не пабяднееце, дос грошы на кніжку насіць»,— пажартавала канюхова жонка. (*Г. Далідовіч.* Чуйнае неба) «Бадай, хопіць ужо...» «А і дос,— не прымусіў сябе чакаць селянін.— Тут і зямлі, яе столькі трэба». (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *дос* — даволі, досыць (*Бялькевіч*, 156); *до, дос* — хопіць, досыць, даволі (*Юрчанка*, 78—79); *дос* — дастаткова (*Жыдовіч*, III, 42).

**Драбёст** *наз., м.* Латы; паплёт у страсе.

Хаты... Мала таго, што яны асунуліся, паўрасталі ў

зямлю без догляду чалавека — без вакон, без дзвярэй, з выдранымі дзе-нідзе сценамі, са стрэхаў жмутамі вісіць салома... Свеціць рэбрамі драбёст. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *дробесцё* — дробны лес, асабліва жэрдкі, падрыхтаваныя на страху пад салому (*Насовіч*, 146); *драбесцё* — жэрдачкі для прымацавання саломы (да латаў) пры пакрыцці страхі (*Сцяцко*, 53); *драбёст, драбясць* — жэрдзе, тонкія жэрдкі, якія прымацоўваюцца ўпоперак да лат пры пакрыцці страхі (*Сцяшковіч*, 150); *грабяст, драбясцё* — паплёт (*Шаталава*, 51).

**Драбка́ч** *наз., м.* Нешта з'езджанае (пра матацыкл, машыну і інш.).

Юзік ведаў, што Мішка дзеля былой дружбы, дзеля дзіцячых успамінаў сарве ахвотна дзень, будзе шчаслівы, калі ён пад'едзе на яго драбкачы (*Г. Далідовіч.* Дамашанская каралева)

Параўн.: *драпчак* — від брычкі (*Сцяцко*, 54); *драбы* — косці (*Сцяшковіч*, 150).

**Дрыжа́ка** *наз., ж.* Дрыжыкі.

Калі трохі палягчэла, стала ўжо не да бульбы — ён [Сотнікаў] выпіў паўкварты вады і заплюшчыў вочы. У галаве хмельна кружылася, цела калаціла дрыжака. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

**Ду́дкі** *наз., мн.* Боты з вузкімі халявамі; увогуле што-небудзь вузкае, што шчыльна аблягае цела.

Лёня памятае яго — гладкага здаравілу з вяргіняй за раменьчыкам шапкі, у ботах-дудках з такімі пругкімі халявамі, што, не разуўшыся, казалі, у іх нельга было прысесці нават з бяды. (*Я. Брыль.* Апошняя сустрэча)

**Дуду́рыцца** *дзеясл., незак.* гл. *Аддуды́рвацца.*

Селянін вылез з ямы, атрос запэцканыя ў гліну картовыя штаны, якія дудурыліся ў яго, быццам у малога, на каленях, таксама падышоў да забітага. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

**Ду́йка** *наз., ж.* Завея, мяцеліца.

У полі круціла дуйка, але вецер быў чамусьці мяккі, як у адлігу. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *дуйка* — мяцеліца з ветрам (*Каспяровіч*, 100).

**Дыгава́ць** *дзеясл., незак.* Рухацца павольна, з натугай.

Сяды-тады выходзіў у круг і не вельмі ахвотна, але «па-выкшталцонэму» дыгаваў у вальсе пагардлівы маўклівы Зыгмусь. (*Я. Брыль.* Апошняя сустрэча)

Параўн.: *дыганне, дыгі* — 1) прысяданне, 2) ісці памалу, як бы прысядаючы, 3) паклоны (*Насовіч,* 149); *дыгаты* — з доўгімі нагамі, цыбаты, *дыгаць* — моцна біцца (пра сэрца), *дыгусь* — цыбаты (*Сцяцко,* 55); *дыгаць* — скакаць (*Сцяцко,* 52).

## ДЖ

**Джва́гаць** і **Джвэ́гаць** *дзеясл., незак.* **1.** Стукаць (пра гром).

«Недзе ў лесе джвагнула,— адказаў Міхал.— У тым баку, за гумном, дзе старыя бярозы...» (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

**2.** *Гукаперайм.* Біць, ударацць якім-небудзь прадметам.

У карчах нехта джвэгаў касою. (*М. Капыловіч.* Сірата)

Параўн.: *джвогаць* — моцна стукаць (*Варава,* 112).

**Джвэ́гаць** гл. *Джва́гаць.*

**Джгаць** *дзеясл., незак.* **1.** Хутка ісці, імчацца.

Бушмар джгаў аднекуль дарогаю. (*К. Чорны.* Лявон Бушмар) «Здалёку джгаеш?» — спытаўся я, каб не маўчаць і хоць што сказаць. (*Б. Сачанка.* Барвы ранняй восені)

**2.** Паганяць; біць моцна.

Двое з-за стога выйшлі. Добра, што Саўчык каня скарэй джгануў, а то прыкончылі б. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

Параўн.: *джг*(г)*аць* — хутка біць (*Каспяровіч,* 110), 1) кусаць, 2) лёгка, хутка ісці (*Яўневіч,* 21), бегчы (*Юрчанка,* 75); *джгаць* — 1) біць, муштраваць, 2) сячы (пра аваднёў), 3) хутка ісці (*Сцяцко,* 51).

## ДЗ

**Дзе́йкаць** *дзеясл., незак.* Гаварыць; пускаць плёткі.

Дзейкалі ў нас людзі, што спаліў яго [падпальшчыка] пан у лесе... (*М. Гарэцкі.* Досвіткі) Ат, можа і няпраўда гэта зусім. Мала, што дзейкаюць людзі... (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *дзейкаць* — пляткарыць (*Каспяровіч*, 139; *Прач*, 164; *Юрчанка*, 76; *Бялькевіч*, 151; *БРС-62*, 244).

**Дзёрціся** *дзеясл., незак.* Расці ўверх, чапляючыся за што-небудзь.

Адбуяла ў агародах хмельная летняя зяляніна — павесілі галовы сланечнікі, не дзярэцца на платы гарбузнік, чарнее бульбянік. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

**Дзюпа́рты** *прым.* Дзіравы, з дзіркамі.

Стражнік не паварушыўся і Рыгораў дзюпарты башмак трапіў у заскарузлую ільдом калдобіну. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *дзюплё* — дупло (*Сцяшковіч*, 144).

**Дзя́лка** *наз., ж.* Дзялянка, надзел.

Уздрыгваю: Ура! Не, гэта сястра кліча мяне ісці снедаць, а дзялка — ліха з ёй... (*І. Пташнікаў.* Бяроза маўчала) ...На другі бок нашае «дзялкі» было поле Клемуса Войны. (*В. Адамчык.* Дзікі голуб)

Параўн.: *дзялка* — 1) дзялянка, 2) надзел зямлі, хутар (*Сцяцко*, 52), участак (*Сцяшковіч*, 146), кавалак зямлі, якім надзялялі пры Польшчы малазямельных (*Жыдовіч*, I, 45), соткі, выдзелены для апрацоўкі ўчастак поля (*Шаталава*, 50).

## Ё

**Ёмка** *наз., ж.* Чапяла; прылада браць скавараду.

У мацеры левая рука механічна адшукала ёмку, патрымала і паставіла зноў. (*П. Галавач.* Дасужая) З хаты з ёмкаю выбегла Лазарыха. (*П. Галавач.* Спалох на загонах)

Параўн.: *ёмка* — чапяла (*Янкоўскі*, I, 70; *Сцяшковіч*, 157); *ёмка, омка* — чапяла (*ДАБМ*, карта № 251, с. 824).

## Ж

**Жанкі́** *наз., мн.* Жанчыны, кабеты.

Жанкі аж расцвілі ад задавальнення. (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі)

**Жа́рынка** *наз., ж.* Гарачы вугалёк.

Не спіцца Андрэю. Жарынкаю блішчыць у яго руцэ папяроса. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Ткнуўшы ў зубы папяроску, хлопец... прысеў на кукішкі і пацягнуўся ў агонь за жарынкай. (*М. Ракітны.* Паранька)

Параўн.: *жарына* — (асобны) вугаль (*Бялькевіч*, 166).

**Жаўця́к** *наз., м.* Жоўты пясок.

Старэйшы ляжаў бачком, а той, малады,— дагары, шырока раскінуўшы рукі. Шапка яго адкацілася недалёка ад галавы, і валасы былі ў жаўцяку. (*У. Кузьмянкоў.* Іх аставалася трое)

Параўн.: *жыўцяк* — жоўты пясок (*Бялькевіч*, 170); *жаўняк* — пераспелы агурок (*Сцяшковіч*, 161); *жаўтапесак* — пясчаны бераг, пясчанае дно, пясчаная глеба (*Янкоўскі*, II, 65).

**Жма́кі** *наз., мн.* Макуха, жамерыны.

І на ўвесь дзень — маленькі кавалачак цэглы з бульбянога шалупіння і льняных жмакаў — гэта пад відам хлеба ці «бабкі». І больш нічога. (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары)

Параўн.: *жмак* — жмут, скрутак, *жмакаць* — мяць, коўчыць (*Янкоўскі*, III, 36); *жмаць* — ціснуць (*БРС-26*, 102).

**Жмах** *наз., м.* Жмут, жменя.

Стэпа, як стаяла, так кінула ашматкі патрапанай аборкі і жмак вышмуляваных ануч з пляча і панеслася ў хату. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *жмак, жма́каць* (*Янкоўскі*, III, 36); *жмыкаць* — мыць бялізну (*Шаталава*, 55).

**Жне́ўнік** і **Жні́ўнік** *наз., м.* Іржышча.

Налева і направа стаялі вялізныя тарпы саломы, адкідаючы доўгія цені. Пад месячным святлом зіхацеў жнеўнік, у палях было ціха і светла. (*С. Грахоўскі.* Ну і ашуканцы) Пад нагамі шамацеў леташні прымяты жніўнік. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *жнеўнік* — жытняе поле (*Шатэрнік*, 94), іржэўнік (*Жыдовіч*, I, 49); *жніўнік* — пні, рэшткі сцябла на зжатым полі (*Каспяровіч*, 108; *Жыдовіч*, III, 46), поле, з якога зжаты зернявыя культуры (*Выгонная*, 101).

**Жні́ўё** *наз., н.* **1.** Зжатае поле, пожня.

Удалечыні віднеўся маленькі трактар, што хадзіў уздоўж паляны, апрацоўваючы жніўё дыскавымі культыватарамі. (*У. Краўчанка.* Вясна на Палессі)

2. Зжатая збажына.

Андрэй наблізіўся да сцірты. Тут аж душыла ад густога паху жніўя. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

Параўн.: *жнивенне* — зжатае поле, жніво (*Насовіч*, 157).

**Жніўнік** гл. *Жнеўнік.*

**Жуйка** *наз., ж.* Жвачка (у каровы).

...На абгароджаным штыкетам пляцы паводдаль груасціліся падводы з сенам, стаялі і жавалі жуйку каровы, павісквалі свінні... (*М. Капыловіч.* Па хлеб)

Параўн.: *жуйка* — 1) жвачка, 2) вялы, непаваротлівы чалавек (*Клімчук*, 33; *Сцяцко*, 57).

**Жураве́ль** *наз., м. Перан.* Вялікая бутэлька, бутля.

Усе выпілі, і надалей справа пайшла лягчэй. Хутка на стале з'явіўся «журавель» з вішнёўкай. (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі)

Параўн.: *журавель* — бутэлька на 3 літры (*Янкоўскі*, II, 66).

**Жытло́** *наз., н.* Жыллё.

Як жа гэта?! Будуеце самі — і без жытла!.. (*І. Мележ.* Дом пад сонцам) «Мы сабе асобна буданчык зрабілі... Вунь там»,— паказаў я рукою на прагаліну, дзе было наша жытло. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха) Яно, вядома, лепей, калі такі пакой будзе. Прыехаў хто — не трэба брыгадзіра ўпрошваць, каб арганізаваў жытло і ўсё такое. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае) Добра ў горадзе, што жытло даюць. А вось наша хата адно што ліпіць. Як скажуць у сяло пераносіць, то хоць плач. (*У. Дамашэвіч.* Бярозавы сок) «Як, столькі за гэта гніллё?» — перапытаў ляснік.— «Каму гніллё, а каму жытло...» (*А. Кудравец.* Такі дзень)

Параўн.: *жытло* — жыллё (*БРС-62*, 269).

**Жы́тнік** *наз., м.* Хлеб з жыта.

...У торбах — хлеб-жытнічак, сала, сыр і нават солі жменька... (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) У тую раніцу маці спякла два жытнікі. Адным паснедалі, а другі... яна схавала на вячэру і пайшла ў лес па чарніцы. (*М. Капыловіч.* Па хлеб) Наўрад ці ёсць што на свеце смачнейшае за свежы жытнік! (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *жытнік* (*Янкоўскі*, III, 37).

**Жы́тніца** *наз., ж.* 1. *Устар.* Памяшканне для захавання жыта.

Плевелы спаліш, а чыстую пшаніцу паложым у жытніцу. (*Я. Колас.* На ростанях)

2. Перапёлка.

Гэтай расы нап'ецца перапёлка-жытніца і, відаць, ачмурэўшы ад саладжава-хмельнага паху жыта, парушыць дрыготкую цішыню сваёй адвечнай песняй... (*У. Кузьмянкоў.* Бацька)

**Жэ́ўраць** *дзеясл., незак. Перан.* Грызці.

Яўхімаў воз, неахайны, крывы, крактаў, нібы незадавольны нечым таксама,— Глушак слухаў гэта, і ў ім з гневам рос жаль да Яўхіма, жэўрала няясная, неабходная надзея (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *жэрці* — прагна есці (*Бялькевіч*, 171); *зяўрыць* — адкрываць рот, пашчу (*Сцяшковіч*, 202).

## З

**Загіба́ць** *дзеясл., незак.* Затрымлівацца; дарма траціць час.

Паабедаўшы, доўга не загібаючы, ён [Мікола] адправіўся на пасеку, а Зося паехала скародзіць (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**Загу́мень** *наз., ж.* і **Загумёнкі** *наз., мн.* Участак зямлі за будынкамі; загуменне.

Пад раніцу, калі навокал усё ўжо спала, Іван сам вывеў Віктара на загумень. (*М. Лобан.* На парозе будучыні) Дзён праз колькі пад Журавінкаў агарод з загумені падышоў Цярэшка. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь). А той, у гетрах і фрэнчы, ішоў з загумёнак па сцежцы, без асаблівай асцярогі. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *загумяньня* — участак поля за гумном (*Гуліцкі*, 123); *загумець* — загуменне (*Шаталава*, 58).

**Загумёнкі** гл. *Загу́мень.*

**Заду́гаць** *дзеясл., зак.* Затупаць.

Пасля Наста пачула, як ляпнулі вароты і на двары ля сцяны задугаў нагамі нехта чужы. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

**Зае́дкі** *наз., мн.* Халодная закусь.

У пакоі стаяла некалькі доўгіх сталоў, воддаль ля сцяны буфет з «заедкамі»: рыба, селядцы, яйкі, булачкі... (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *заедкі* — закуска (*Насовіч,* 184, *Каспяровіч,* 116; *Бялькевіч,* 176).

**Зажо́н** *наз., м.* Адработкі ці заработкі жнівом.

Зося хадзіла ў зажон. Жала чужое, думала пра сваё... (*Я. Брыль.* Сірочы хлеб)

Параўн.: *зажуон* (*Сержпутоўскі,* 52).

**Заздро́чыць** *дзеясл., зак.* Занепакоіць.

Рыгор ізноў абярнуўся думкамі к ёй [забастоўцы]. Заздрочыла хаценне, хутчэй бы яна вынікала ды як найлепш прайшла. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *здрочыць* — прылашчыць (*Каспяровіч,* 132); *здракаваць* — гізаваць (*Янкоўскі,* III, 45); *здрочыцца* — гізаваць (*Шаталава,* 64).

**Займаздаро́ў** *прысл.* Дарэмна, марна.

[Сёмка] ад злосці ці з крыўды хвасянуў займаздароў па кані і ўголас нокнуў: «Но-о, каб ты здохла! Падбяжы ж крыху!» (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Ды хоць бы вы ўжо не хлусілі, мужчыны. Навошта вам займаздароў вочы заліваць... (*Ц. Гартны.* Прысады)

Параўн.: *займаздароў* — дарма, дарэмна (*Каспяровіч,* 117).

**Закарва́шы** *наз., мн.* **1.** Манжэты.

На вуліцы перад нашым акном спынілася машына, поўная паліцыянтаў — у чорных шынялях з шэрымі каўнярамі, шэрымі закарвашамі. (*В. Адамчык.* Раяль з адламаным вечкам)

**2.** Закуткі, куточкі, патаемныя месцы.

Пакойчык быў сухі, цёплы, зусім прасторны для аднаго чалавека, але затое ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко! (*Я. Колас.* Адшчапенец) Дзед Талаш напэўна і сам не адказаў бы сабе, каго яму болей страшна: нячыстай сілы, вера у якую ўсё ж такі тлелася дзесь у закарвашках дзедавай душы, звера ці ліхога чалавека ў вобразе польскіх жаўнераў. (*Я. Колас.* Дрыгва)

Параўн.: *закарвашы* — чырвоныя манжэты ў жаночай світцы (*Сакалоўская,* 287; *Шаталава,* 59); *закарвашкі* — цёмныя вуглы (*Сцяшковіч,* 174).

**Закля́клы** *дзеепрым.* Змерзлы; занямелы.

Старшыня прысеў паміж Мікодымам і Параскаю, працягнуў чырвоныя закляклыя рукі да грубкі. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *вкляклый* — завялы, *вклякнуты* — вянуць, старэць (*Клімчук*, 26).

**Закоскі** *наз., мн.* Пачатак касьбы.

На ўсходзе сонца з Грынёў прывозяць дзве касілкі... Кажуць, з адной пойдзе трактар... Гэта падмога касцам, што прыехалі ўчора на закоскі (*І. Пташнікаў*. Чакай у далёкіх Грынях)

Параўн.: *абкоскі* — канец сяўбы (*Каспяровіч*, 5).

**Закоцвіны** *наз., мн.* Вышкі.

...Але ж на хаце ў мяне дык і сена няма. Ёсць трохі ў пуні, на закоцвінах. (*І. Чыгрынаў*. Жыве ў крайняй хаце ўдава)

Параўн.: *закот* — франтон (*Каспяровіч*, 118; *ЛГБГ*, 176); *закоціна* — бервяно з закоту (*Янкоўскі*, II, 69).

**Замежак** *наз., м.* Узмежак, мяжа.

...Утраіх нельга было ісці побач вузкім замежкам. (*А. Кулакоўскі*. Расце мята пад акном)

Параўн.: *замежак* — узмежак (*Гуліцкі*, 124; *Сцяцко*, 61), участак па-за полем, мяжа (*Выгонная*, 102).

**Запера** *наз., ж.* Адгароджаная частка гумна, адрыны, хлява.

...Прыязджай, забяры, яны [лістоўкі] і цяпер недзе там завалены ў заперы. (*Я. Скрыган*. У Кірылы на хутары) Калі бацькі не было дома, мы намалочвалі мяшок зерня,— аўса, ячменю, жыта,— і хавалі яго ў заперу. (*Я. Скрыган*. Свая аповесць) Пазвязваў клункі, укінуў іх у пустую заперу і заваліў сенам. (*А. Чарнышэвіч*. Світанне)

Параўн.: *запіэра* (*Сержпутоўскі*, 49); *заперак* — перагародка з бярвенняў у гумне (*Шаталава*, 61); *запера* — дыхальная плёнка, дыяфрагма (*Бялькевіч*, 180); *запер* — франтон (*ЛГБГ*, 300).

**Заперына** *наз., ж.* Дошка, брус у заперы.

Мікалай узяў у рукі пілу, прысеў на заперыну... (*К. Чорны*. Зямля)

Параўн.: *заперка* — 1) засаўка ў дзвярах, 2) франтон (*Шаталава*, 61).

**Зарыцца** *дзеясл., незак.* Заглядацца; зайздросціць.

— Ты пэўна і не ведаеш, што табе Васіль Бераг ставіць падножку,— заўважыў Сёмка.

— У чым? — пацікавіўся Рыгор.

— Зарыцца на Зосю! (*Ц. Гартны*. Сокі цаліны)

[Цішка] усё зарыўся на Зосю, доўга не ішоў, пакуль яны не пачалі збірацца спаць. *(У. Кузьмянкоў.* Вяртанне)

Параўн.: *зарыцца* — квапіцца *(Шаталава,* 61).

**За́саўкі** *наз., мн.* Жэрдкі, якія служаць замест варот для выезду ў поле ў канцы сядзібы.

Ён [Сцёпка] падняўся, выйшаў з адрынкі, пастаяў трохі на прыгуменні, а потым пералез цераз засаўкі і пасунуўся ў поле. *(Я. Колас.* На прасторах жыцця) Калі ідзе Сомік рана ў гумно, дык яны [свінні] яшчэ здалёк снуюць. Тады засаўкі — гоц, гоц, як сабакі, і пайшлі. *(К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *засуўка* — засаўка, запор у варотах; *засыўка* — палка, якую парсоўваюць у вушка кубла, каб замкнуць *(Бялькевіч,* 183).

**Заска́к** *наз., м.* Клямка, засаўка.

Калі я бразнуў заскакам новай брамкі, да варот, пад ногі мне пакаціўся з абураным брэхам шчанюк. *(Я. Брыль.* У Забалоцці днее) ...Алесь выскачыў голы на двор, бразнуў дзвярыма і ўзяў іх на заскак. *(Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

**Застаро́нак** *наз., м.* Месца для снапоў, збожжа ў гумне, хляве, адрыне.

Здавалася — вось-вось адарвецца ад снапоў, стане на момант роўна — і паляціць назад, і Ганна паляціць спіной на застаронак, на вострую яго агароджу з плашак. *(І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *застаронак* — адгародка *(Жыдовіч,* I, 53). месца ў гумне паабапал току, дзе складаецца збожжа *(Бялькевіч,* 182); *засторонок* — 1) месца для сена ў хляве, 2) месца ў гумне на таку для снапоў, збожжа, 3) аддзяленне ў «каморы» *(ЛП,* 138).

**Застрэ́шнік** *наз., м.* Ніжні край саламянай страхі; застрэшша.

[Чачык] бачыў праз акно, як дзесьці ўгары на ўзроўні з яго застрэшнікам мільгаюць... сані. *(І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

Параўн.: *остришнык, застрэшнік* — маленькі снапок, які кладзецца ў ніжні рад пры пакрыцці страхі *(Клімчук.* 53; *Бялькевіч,* 183).

**Затабаканю́ханы** *прым.* Прапахлы тытунём *(Сцяшковіч,* 183).

А цяпер нашаму старшыні сельсавета Карчэню не ў галаве лазня, бо ён сам толькі тады мыўся, калі нарадзіўся. Увесь закарэлы і затабаканюханы. От, знайшлі каго за старшыню! (*П. Пестрак.* Серадзібор)

**За́тка** *наз., ж.* і **За́ткала** *наз., н.* Самаробная затычка, корак.

[Чачык] парашыў раздзяліць самагон у бутлі напалам і, збочыўшы ў кусты, выцягнуў затку. (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык) Лусту хлеба і бутэльку малака, закаркаваную скручаным з чыстага лапіка заткалам, бацька бярэ з сабой на шашу — там ён б'е каменне... (*В. Адамчык.* Два злоты)

Параўн.: *заткала* — корак, пробка (*Насовіч,* 128), затычка (*Каспяровіч,* 123); *заткыла* — заткала, корак (*Бялькевіч,* 184, *Сцяшковіч,* 183).

**За́ткала** гл. *За́тка.*

**Збака́ць** *дзеясл., зак. Іран.* Выгнаць з працы.

«Дык гэта цябе з сельсавета збакалі ўжо?» — запытаў Грамабой. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *збакаць* — выгнаць, прагнаць; адхіліць (*БРС*-62, 323).

**Збамбі́ць** *дзеясл., зак.* Украсці.

Пярэдні ехаў Іван Боганчык на сваім ў яблыкі жарабку, якога ён, ужо як паявіліся партызаны, прывёў ноччу, «з-за ракі» — «збамбіў» — і шкадаваў, што роднага бацьку... (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *збамберыць* — украсці (*Сцяцко,* 65).

**Збі́тка** *наз., ж.* Масла, збітае ў бойцы за адзін раз.

Узяўшы з сабой пару сыроў, збітку масла... дзесяткі са два яечак ды бутлю малака, ішла [цётка Ганна] раніцай у горад. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні)

**Збо́рня** *наз., ж.* Хата ці месца, дзе збіраюцца людзі (на вячоркі, сход і інш.).

Не ведаў спакою Сцяпан — не толькі гутарыў на зборні вечарамі, але часамі браў з сабою і кніжку. (*П. Пестрак.* Яе перамога) Кабеты ў чырвоных, зялёных і сініх андараках, у суконных кабаціках і зграбных світках сядзелі і стаялі ў зборні і на валасным двары. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

**Звіхто́ваны** *дзеепрым.* Звіхнуты.

...Назаўтра Гарошына ішоў па вуліцы нібы звіхтованы. (*В. Дайліда.* Лазня)

Параўн.: *зьвіх, зьвіхтавацца, зьвіхтаваць* (*Янкоўскі,* III, 43—44).

**Зга́мтаны** *дзеепрым.* Скамечаны.

Калі кажушком і світай, згамтанымі разам, ён [Кастусь] абкруціў дрэва вышэй пілы і перацягнуў сваёй папружкай, звон і сапраўды стаў глушэйшы. (*К. Чорны.* Пошукі будучыні)

Параўн.: *згомтано, згомтаць* — пакладзеная (пакласці) абы-як, не згарнуўшы (*Сцяцко,* 66); *згамтаваны, згамтаны, згомтаны* — памяты, пакамечаны (*Сцяшковіч,* 190).

**Зга́ралкі** *наз., мн.* гл. *Гарэ́лікі.*

Мікіта Лазун сядзеў у канцы стала адзін і займаўся сваёй улюблёнай работай — абскрэбваў нажом «згаралкі», гэта значыць падгарэўшую бульбу. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *згарак* — прыгарка (*Сцяшковіч,* 190); *згаркі* — бульба з прыгаркамі (*Шаталава,* 64).

**Зла́шча** *прысл.* Тым больш; добра калі (*Бялькевіч,* 193).

Як убачыў чужых людзей, а злашча гарадскога брыгадзіра, ён шыбчэй завінуўся каля атопка, і белыя хваравітыя вусны яго ледзь прыкметна задрыжалі. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Кубак адразу згроб сабе Рыгор (у кубку, бач, не ідаць, калі і перальеш; а хто гэта калі, а злашча Рыгор, не стараўся спажыць сам больш за людзей?!) (*К. Чорны.* Вясна)

**Зляка́цца** і **Злякну́цца** *дзеясл., зак.* Спалохацца.

Не з лёгкім одумам выйшаў з лесу хлопец. Ішоў паволі, пад дом. У дарогах-вілах злякнуўся. (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях) Цiток ажно злякнуўся спярша — гэта ж такі мароз, магло ўсё здарыцца! — але пачуў, што людзі дыхаюць, замітусіўся каля саней. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *лякацца, злякацца* — (с)палохацца (*Гарэцкі,* 139; *Каспяровіч,* 182; *Шатэрнік,* 151; *Сцяшковіч,* 195); *зьлякнуцца* — спалохацца (*Бялькевіч,* 211).

**Злякну́цца** гл. *Зляка́цца.*

**Знакаме́тны** *прым.* Прыкметны.

— Я ж вас добра памятаю. Уга, яшчэ як памятаю.

— Ды я хлопец знакаметны. (*К. Чорны.* Сястра)

Знакаметны нейкі чалавек... твар у яго такі. (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *знакома, знакомец* — знаёма, знаёмец (*Бялькевіч,* 195); *знакаметны* — знакаміты (*Бірыла,* 102).

**Знаро́чысты** *прым.* Спецыяльна зроблены.

Абраз прымацаваны да знарочыстых насілак з чатырма канцамі і чатырма кароценькімі ножкамі пад імі. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *знарочысты* — наўмысны (*БРС-62,* 345).

**Значы́ць** *дзеясл., незак.* Мець выразную прыкмету.

Наста думае, што карова будзе цяліцца толькі ў канцы месяца, а можа аж пасля каляд, нядаўна значыць пачала. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *значыцца, значыць* — мець прыкметы блізкага ацёлу (*Крывіцкі,* 124; *Сцяцко,* 69).

**Зні́ціцца** *дзеясл., зак.* Сціснуцца.

І калі павялі каменданта да школы, сабраўся Сіпак у камячок, зніціўся і бачком-бачком падаўся быў да школьнай дрывотні. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні)

Параўн.: *зьніціўся* — прыкінуўся, прыбядніўся, паказаў сябе не такім, якім ёсць сапраўды (*Прач,* 165); *зніцець* — вырасці тонкім, высокім, кволым (*Шаталава,* 65).

**Знушча́цца** *дзеясл., незак.* Здзекавацца, глуміцца.

Лаялі і без таго пакрыўджанага Івана: «Родна жонка знушчаецца — дажыў чалавек!» (*М. Гарэцкі.* Зіма)

Параўн.: *знуста* — звод; звадыяш (*Бялькевіч,* 196).

**Зыра́ць** *дзеясл., незак.* Зіркаць.

Мусіць, таму Мароз нічога не сказаў болей. Маўчаў, маўчаў ды як крыкне ўбок: «Во ён, во — глядзіце!» І сам улева ад дарогі зырае, плячом ды галавой паказвае, быццам там убачыў каго. (*В. Быкаў.* Абеліск)

**З'яд** *наз., м.* Вельмі злосны.

Самае цяжкае — гэта аблажыць яго [вепрука]. Бывала, як пена ў яго з рота падаць пачне. Што ж гэта такі з'яд-звярына. Не дай бог. (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *заяда* — заядлівы (*Жыдовіч,* III, 52).

**Зямéц** *наз., м.* Пчаляр.

...Жыў у часе паншчыны адзін заможны зямец. (*М. Гарэцкі.* Багатая пчэльня)

Параўн.: *зямец* — пчаляр (*Каспяровіч,* 139; *Мацкевіч,* 210).

**Зяўрá** *наз., ж.* Пашча.

З вакна, як з зяўры дзьме. (*Я. Колас.* Новая зямля)

Параўн.: *зяўра* — пашча жывёлы, звера (*Сцяшковіч,* 202).

**Зяўрáць** *дзеясл., незак. Перан.* Глядзець.

Дзервяны дашок яе [капліччкі] прагніў і зяўраў чорнымі дзіркамі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *зяўрыць* — адкрываць і закрываць рот, пашчу (*Сцяшковіч,* 202); *зяўріць* — адкрываць і закрываць рот пры кананні (*Крывіцкі,* 125).

## І

**Іржаннё** і **Іржэўе** *наз., н.* Іржышча.

[Сонца] сушыла, як бялізну, вільготнае іржаннё і абмоклыя лясы. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Агеньчык скакаў па іржанні. (Там жа) Праз поле, якое пахла палыном і мокрым іржэўем, далятталі мяккія ўдары касцельных званоў. (*М. Лынькоў.* Два злоты)

Параўн.: *аржоньня* — поле, дзе расло жыта (*Бекіш,* 94).

**Іржэўе** гл. *Іржаннё.*

**Ірытавáцца** *дзеясл., незак.* Непакоіцца; злавацца.

«Так не выпадае»,— ірытуецца панна Вікторыя. (*З. Бядуля.* Салавей)

## К

**Кавéнька** *наз., ж.* Качарга.

Белы хвост яго [бугая] выгінаўся кавенькай. (*М. Ракітны.* Селькоры)

Параўн.: *кавенька, каменька* — палка, якою апіраюцца пры хадзьбе (*Шаталава,* 68; *Янкоўскі,* I, 88).

**Кавéшнік** і **Качаргéшнік** *наз., м.* Качарэжнік; месца каля печы.

Маці патупала ў кавешніку, выграбла качаргою з

печы на камінак учарашняе вуголле і доўга дзьмухала ў яго... (*М. Капыловіч*. Па хлеб) Лаецца моцна, а то і зусім гатова кнігу з рук вырваць ды ў качаргешнік шпурнуць. (*К. Крапіва*. Мядзведзічы)

Параўн.: *камешнік* — куточак пры печы (*Янкоўскі*, II, 83); *комешник, ковешник* — вугал (звычайна ля печы), дзе стаяць качарга, вілкі і інш. (*Корань*, 140); *качаргешнік* — куток ля печы для пячных прылад (*Сцяцко*, 77), качарэжнік (*Шаталава*, 78; *Сцяшковіч*, 226).

**Кавэ́нчыць** *дзеясл., незак.* Мучыць, грызці, поедам есці.

Мала, што цэлы дзень кавэнчыць над душой, дык і ўначы, калі ляжаш, для прыкладу скажам, спаць у каморы,— прыйдзе стары, прысядзе на парозе і давай пілаваць цябе ржавай пілой — усю ноч. (*Я. Брыль*. У Забалоцці днее)

Параўн.: *кавенчыць* — мучыць, *кавенчицьца* — 1) мучыцца, 2) валаводзіцца (*Насовіч*, 226); *кавэнчыцца* — цацкацца, насіцца (*Юрчанка*, 105), пакутаваць (ад фізічнага болю) (*Жыдовіч*, II, 75), мучыцца (*Шаталава*, 68).

**Кагадзе́** *прысл.* Толькі што, зусім нядаўна.

Раней, перад гэтым, кагадзе, вакол вяліся гаворкі, спрэчкі аб тым, пра што павінен быў гаварыць сход. (*К. Чорны*. Зямля)

Параўн.: *кадзе* — нядаўна, толькі што (*Жыдовіч*, I, 58; II, 75; *Сцяшковіч*, 204; *Бірыла*, 102); *кагадзе* — калісьці (*БРС-62*, 364).

**Кажуро́нак** *наз., м.* Стары, зношаны кажух.

Кажуронак — замыцганы, у дзірках рознага выгляду і памеру. З гэтых дзірак вылазяць, як мышы, каўтуны сіваватай шэрсці. (*З. Бядуля*. Язэп Крушынскі)

Параўн.: *кажарка, кажарына* — стары кажух з барана (*Каспяровіч*, 148); *кожурно* — старая парваная вопратка з аўчыны (*Сакалоўская*, 291); *кажурына* — кажух (*Жыдовіч*, I, 58).

**Каза́** *наз., ж.* **1.** Прылада, з дапамогай якой вымяраюць адлегласць; мерка.

Ідзі, браток, набегаўся за дзень з «казою» ды нагоцаўся ў сядле... (*Я. Брыль*. Апошняя сустрэча) А я толькі што ўскочыў у хату. Хадзіў мераць з «казою» аж на Доўгія. (*А. Васілевіч*. Шляхі-дарогі) Зося трымалася дзяўчат. Усё смяялася ды жартавала, пакуль у

луг з казой-двухмятроўкай праз плячо не прыйшоў брыгадзір Адась і не сказаў, што прыехаў Ахрэм (*У. Кузьмянкоў.* Вяртанне)

2. Санкі.

Трашчаць, як рассохшыя, кары з казой. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *каза* — мерка, збітая ў форме літары А, калы для вымярэння плошчы (*Сцяцко,* 71); *кыза* — прылада для коўзання з горак (*Бялькевіч,* 241); *каза* і *козачка* — падсанкі (*Крамко,* 89).

**Каза́н** *наз., м.* Кацёл; посуд, у якім вараць на кастры.

...Каля Дзятліхі, што варыла картоплю ў казане, растарэквалі з Сарокаю ўжо Нібыта-Ігнаціха, Чарнушкаў мачыха, Дзятлікавых нявестка Маня, яшчэ некалькі суседак. (*І. Мележ.* Подых навальніцы) Варыва забулькала, і рыбак зняў казанок з сошкі і паставіў на траву. (*Б. Сачанка.* У жыцці)

Параўн.: *казан* — кацёл (*Касяровіч,* 149); *казан* і *казанчык* — невялікая пасудзіна, звычайна медная, зручная для карыстання ў час жніва, касьбы, у паходзе... (*Прач,* 165); *казанец* — чыгунок з вушкамі (*Бялькевіч,* 217).

**Каліўё(е)** *наз. н. Зборн.* Бацвінне; наземная частка раслін.

Юзік стараўся збіць тонкім дубцом каліўё сухога зелля (*К. Чорны.* Зямля) Трашчыць пад нагамі ў каня і пад дышлам у плузе каліўе мерзлага сухога бульбеўніку... (*І. Пташнікаў.* Тартак) У прыдарожнай вёсцы Будзілавічах ярка чырванелі ў гародчыках апошнія зацвітаўшыя вяргіні, на гародах у разараных барознах з палеглым каліўем капаліся вясковыя цёткі і маладзіцы — выбіралі бульбу. (*В. Быкаў.* Абеліск)

Параўн.: *каліўё* — націна (*Калоша,* 155); *каліўе* — каліва (*Сцяшковіч,* 208), бульбоўнік (*Жыдовіч,* III, 58).

**Каляснік** *наз., м.* Невялікі воз.

Трава стаяла цэлая. Лявончык з нейкім хваляваннем і трывогаю памянташыў касу, з заміраннем сэрца паглядзеў на высокую і густую мятліцу, па-гаспадарску прыкінуў, што павінен зграбці тут не менш добрага калесніка. (*Г. Далідовіч.* Помнік на ўзгорку) Сянцо маё сохне... Учора выбіў каляснік на Залючыне. (*М. Капыловіч.* Пустальга)

Параўн.: *каляса* — ручная гаспадарчая павозка (*Сцяшковіч, 211); каляснік* — воз (*Шаталава,* 71); *каляснічок* — няпоўны воз (*Жыдовіч,* III, 60).

**Кампанéец** *наз., м.* Кампаньён; паплечнік па якой-небудзь справе.

Яго [Лабановіча] суседзі былі добрыя выпівакі і кампанейцы па часці закускі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *кампан* — сябар, таварыш (*Сцяшковіч,* 212).

**Камы́** і **Камякí** *наз., мн.* Бульбяное пюрэ; галушкі з бульбы.

«Каму па каму, а мне два камы!» — гаварыў ён [Галава] часта. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Прышла маці і пачала пытацца: стаўчы камякі з бульбы ці няхай будуць адваранкі. (*П. Пестрак.* Серадзібор)

Параўн.: *камы* — бульбяная каша (*Каспяровіч,* 152), тоўчаная звараная бульба (*Зубрыцкі,* 72); *кома, камы* — страва з варанай мятай бульбы (*Вештарт,* 384); *камы* — густая каша з бульбы (*Бялькевіч,* 220), ажына (*Сцяшковіч,* 213); *камакі* — бульбяная каша (*Янкоўскі,* II, 83); *комаки* — страва з варанай мятай бульбы (*Вештарт,* 384); *камяк, камякі* — бульбяная каша (*Сцяшковіч,* 213; *Жыдовіч,* III, 60).

**Камякí** гл. *Камы́.*

**Капанíца** *наз., ж.* Матыка.

Нажаўшы травы і занёсшы яе ў хлевушок цялятам, яна [Марта] возьме капаніцу і пачне акопваць у гародзе бульбу ці палоць грады. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха) Шчука, Шураў сусед, выйсце знайшоў — каб не гасіць капаніцай па здзірванелай клетцы, вышуквае, вырывае з коранем дубкі. Маўляў, не ўзыйшлі, былі гнілыя жалуды... (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

Параўн.: *капаніца* — матыка (*Янкоўскі,* I, 39; *Яўневіч,* 30; *Бялькевіч,* 220; *Сцяшковіч,* 215; *Шаталава,* 75), лапата (*Жыдовіч,* III, 359).

**Капанíчыць** *дзеясл., незак.* Матычыць; працаваць матыкай.

Ён [Аляксандр Салавей] слухаўся бацьку, араў з ім і касіў, капанічыў ляды ў хлебнай паляне... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *капанічыць* (*акапанічыць, акапанічваць, укапанічваць, пакапанічыць*) — матычыць (*Янкоўскі,* I, 31, 89; *Яўневіч,* 30, 40, 55; *Жыдовіч,* I, 61).

**Капіць** *дзеясл., незак.* Складваць у копы.

А колькі майстроў — касіць, капіць, стагі складваць; жаць, малаціць, веяць! Пячы хлеб, варыць патраўку; калоць свіней, рэзаць цялят! Праць, ткаць, бяліць палатно! Пілаваць дровы, плесці лапці! Багата дзе ёсць чалавеку паказаць свой спрыт, свой талент!.. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *капіць, капніць* — складваць сена ў копы (*Шаталава,* 73).

**Капцанава́та** *прысл.* Бруднавата.

Было ўсяго шмат у хаце, але было ў ёй крыху капцанавата. (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі)

Параўн.: *капцаны* — лахманы, абарванае адзенне (*Насовіч,* 229).

**Картапля́нік** *наз., м.* Бульбоўнік.

Яшчэ часамі пастушкі гналі авечкі ветравым полем і туманілі неба дымам сухога картапляніку. (*К. Чорны.* Зямля) Бывала, успомню перад боем, як картаплянік пахне, калі яго з поля сцягваеш ды ў агонь кідаеш... І зашчыміць сэрца. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха)

Параўн.: *картапленьня* — націна бульбы (*Гуліцкі,* 124); *картаплянё, картапленё* — бульбоўнік (*Калоша,* 135); *картапленне* — 1) сцябло; лісце бульбы, 2) поле, дзе расла бульба (*Сцяцко,* 76); *картапляньнік* — бульбянішча (*Бялькевіч,* 222); *картафлянік* — бульбоўнік (*ЛГБГ,* 178).

**Картапля́ны** *прым.* Бульбяны.

Ёсць піражкі з молатых сухіх картапляных абіркаў (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *картапленё, картаплянік, картафленё, картафлянік, картопнік* — бульбоўнік, *картопля, картофля* — бульба (*Сцяшковіч,* 221).

**Карто́плі** *наз., мн.* і **Карто́пля** *наз., ж. Зборн.* Бульба.

Стаяла восень — чорствая, сухаватая — ужо капалі картоплі. (*В. Адамчык.* Дзікі голуб) Можа вайна пачнецца, дык апошнюю картоплю з паграба забяруць. (*К. Чорны.* Вясна) «Нясмачная, можа, картопля?» — «Картопля як картопля...» (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Не ўправіліся вывезці і палавіны збожжа — падаспела бульба. Усе рынуліся на поле — капаць картоплю. (*І. Мележ.* Подых навальніцы) Пад раніцу мароз прыцісне. У некаторых яшчэ картопля не выбрана. (*М. Лобан.* На парозе будучыні) Каля парога сохла высыпаная з

ямы картопля, стаяў кошык парэзанае ўжо на насенне. (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *картоплі* — бульба (*Сцяцко,* 76, *Сцяшковіч,* 221); *картопля* — бульба (*Шатэрнік,* 131; *Янкоўскі,* II, 85; *Сцяшковіч,* 221; *Бялькевіч,* 222), бульбіна (*Сцяцко,* 76); *картопель* — бульбіна (*Янкоўскі,* II, 85); *картапляпік* — бульбяны блін (*Жыдовіч,* II, 78).

**Картóпля** гл. *Картóплі.*

**Ка́ры** *наз., мн.* **1.** Павозка для снапоў, сена і інш.

Шэсць чалавек правілі кары: жніво і ўборка з поля былі блізка. (*К. Чорны.* Вясна)

**2.** Калёсы ці сані для перавозкі чаго-небудзь доўгага.

А як пачаўся дзень, прыйшлі маёнткавыя чалавек шэсць з крукамі і сякерамі і расцягнулі па бервяну хату і пачалі класці на параконныя кары. (*К. Чорны.* Вялікі дзень) Трашчаць, як рассохшыя, кары з казой; трашчаць намаразні, сціснутыя з двух бакоў — знізу і зверху — вязамі... (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *кары* — калёсы для перавозкі снапоў, сена (*Каспяровіч,* 156), кароткія сані для перавозкі бярвення і інш. (*Яўневіч,* 30; *Зубрыцкі,* 139), падсанкі (*Бялькевіч,* 223), воз з высокай драбінай (*Сцяшковіч,* 222), параконная павозка (*Жыдовіч,* II, 78), воз на двух коней (*Яшкін,* 114).

**Катóк** *наз., м.* **1.** Кола ў павозцы (*БРС-26,* 144; *Каспяровіч,* 158).

Погляд ягоны [Пётры] спыніўся на раскрытым, з гнілымі сценамі хляве, на паламаных і без шын катках у калёсах, на раскіданым плоце. (*П. Галавач.* Спалох на загонах)

**2.** Кола вагона.

Неяк выяўна зусім адчувалася, як з кожнай хвілінай, з кожным рытмічным перакатам каткоў далее горад, далее яго сумятня і напружанасць, яго загадкавыя супярэчнасці. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *котокъ* — кола ў калёсах (*Насовіч,* 249); *каток* — кола, калясо (*Бялькевіч,* 223).

**Каўбу́х** *наз., м.* Страва, прыгатаваная шляхам начынкі свінога страўніка каўбасным мясам.

А добра, Зіначка, як пакрышым, так і добра. Гэта ж

каўбух, не каўбаса... Усё пойдзе — і дробна, і буйна... (*А. Кудравец.* Марута і Зіна)

Параўн.: *каўбух* — род каўбасы (*Хрэстаматыя,* 334), 1) свіны страўнік, 2) жывот (*Жыдовіч,* III, 62).

**Кахы́каць** *дзеясл., незак.* Прытворна кашляць.

Але Чубар адразу не стаў гукаць — проста спачатку сеў, паклаўшы на ўлонне вінтоўку, а тады пачаў гучна «кахыкаць», не зводзячы пры гэтым прыжмураных вачэй з незнаёмага чалавека. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

**Кацёлкі** *наз., мн.* Сланечнік.

Гарод... увесь панікаў пад цяжарам дажджу: кацёлкі, што раслі на бульбоўніку, сагнулі свае шыі і ўтаропіліся неабшалушанымі тварамі ў зямлю, быццам чакалі, што сонца выныраць гэты раз будзе не за вёскай, а тут, паміж градаў. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *кацёлка, кацюлка* — галава (*Жыдовіч,* I, 64); *кацелышнік* — сцябло сланечніка, *кацёлка* — шапка сланечніка (*Бялькевіч,* 224).

**Качаргéшнік** гл. *Кавéшнік.*

**Качэ́ргі** *наз., мн.* **1.** Агульная назва вілак, чапялы і качаргі.

«А малога яшчэ няма?» «Нідзе не дзенецца»,— адказала старая, завінуўшыся з качэргамі. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**2.** Качарэжнік.

Ён [Клемусь] распытваў пра ўсякія дробязі ў гаворцы з дзякам, курыў звыклыя камсамольскія «пушкі» і цыкаў слінаю праз зубы ў качэргі. (*К. Чорны.* Зямля)

**Кашáра** *наз., ж.* Хлеў.

Бывала як выпушчу з кашары, дык яны [цяляты] ідуць за мною, хоць за дзесяць кіламетраў. (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

Параўн.: *кашара* — аўчарня (*Насовіч,* 250; *БРС-62,* 386), загарадка для жывёлы (*Прач,* 165), 1) лёгкае збудаванне на пашы (звычайна з жэрдак), размешчанае на значнай адлегласці ад паселішча і прызначанае для адпачынку статку ў поўдзень і ноччу, 2) вялікі хлеў для авечак, 3) вялікая няўтульная хата (*Шур,* 174); *кышара* — загарадка ў полі для стаянкі кароў у поўдзень (*Бялькевіч,* 244).

**Кашмірóўка** *наз., ж.* Кашміравая хустка (*Каспяровіч,* 160).

— Куды гэта так прыбралася, як на вялікдзень? — пыталася суседка.

— Сама ж кашміроўку завязала, а яшчэ пытае. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *кашмирка, кашмерка, кушимерка, кашміровая хустка* (*ДАБМ,* карта № 332, с. 943—947); *кашмароўка, кашымірка* — кашаміравая хустка з прыгожай тканіны (*Сакалоўская,* 290); *касьмироўка, казьмяроўка* — кашміровая хустка (*Жыдовіч,* I, 63; *Сяцко,* 72; *Сцяшковіч,* 205).

**Ке́ркаць** *дзеясл., незак.* Крычаць.

Устрывожаныя не ў пару куры керкаюць працяжна і жаласна... (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *кеўкнуць* — пікнуць (*Жыдовіч,* I, 64); *кяркаць* — каркаць (*Сцяшковіч,* 264).

**Ке́ўчыць** *дзеясл., незак.* Камячыць.

Шмігельскі не скрануўся з месца, толькі папяроску мацней стаў жаваць, ужо да палавіны ў роце скеўчыў. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *кіў* — рух рукі ці воч (*Бялькевіч,* 226); *коўчыць* — 1) мяць, жмакаць, 2) ціснуць, душыць (*Янкоўскі,* III, 55).

**Кі́лзы** *наз., мн.* Цуглі.

Беланогага Алесь знайшоў ля кашлатай хвоі на ўзлеску. Распутаў, даў у зубы кілзы, хацеў ускочыць... (*І. Хадановіч.* Раннія яблыкі)

Параўн.: *кел* — клык, зуб (*Гарэцкі,* 124).

**Кілі́м** *наз., м.* Дыван (*ТСБМ-72,* 167).

Зноў зіма паслала снежныя кілімы, зажурыла беллю паплавы, лугі. (*П. Трус.* Дзесяты падмурак) ...Нібы з валокнаў, ткаўся кілім з рознымі ўзорамі жыцця Крушынскага. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *килимь* — вялікі дыван ці лямец (*Насовіч,* 233); *кілім* — 1) пакрывала, якое выткана з воўны, 2) посцілка, вытканая з абрэзкаў матэрыі (*Сакалоўская,* 290).

**Кірзачы́** і **Кірзо́ўкі** *наз., мн.* Кірзавыя боты.

На парозе стаяў хлопец: у брызентавым плашчы з капюшонам, у кірзачах. (*У. Кузьмянкоў.* Споведзь) Астап таксама любіць пацепліць свае бакі, потым ссунуцца з печы, пазяхаючы, выняць з пячуркі закарэлыя цёпленькія анучы, размяць іх пальцамі, абматаць ногі, пакрэкваючы, нацягнуць кірзоўкі... (*А. Наўроцкі.* Снежань)

**Кірзо́ўкі** гл. *Кірзачы́.*

**Кія́х** *наз., м.* Кукурузны пачатак.

...Мясцовага, можа нават верамейкаўскага гатунку кукуруза, якую вырошчвалі па ўсім Забесяддзі яшчэ з незапомных часоў, нясмела вытыркала з-пад шырокага і настылага, таму ажно крохкага лісця чорна-рыжыя кудлы сваіх кароткіх, але таўсманых кіяхоў... (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *кій* — пачатак кукурузы (*Жыдовіч,* II, 81); *кіеўкі, кіёўнік* — кукуруза, сцябло кукурузы (*Бялькевіч,* 226); *кіяк, кіякі* — кукуруза, пачатак кукурузы (*Янкоўскі,* 95); *кіях* — пачатак кукурузы (*Прач,* 165).

**Кло́чча** *наз., н. Зборн.* Ачоскі з лёну.

Міканор сядзеў насупроць, таксама на картаплянiку, і спавольнымі, але звычнымі рухамі набіваў самасадам люльку, як некалі клоччам пістаноўку. (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

Параўн.: *клочо* — адходы пры апрацоўцы лёну на шчотцы (*Сцяшковіч,* 232).

**Клыча́нка** *наз., ж.* Мятая салома. Гл. *Кло́чча.*

Ты, Арцёмка, паглядзеў бы, што ён мне пасобіў — пуню клычанкай накрыў, у кузню да Ягора Вараноўскага схадзіў... (*І. Чыгрынаў.* Ці бываюць ластаўкі ў выраі?)

Параўн.: *клыченка* — 1) змятая салома, 2) пакулле ці ачоскі (*Насовіч.* 237); *клычанка, клычанне* — мятая, блытаная салома (*Юрчанка,* 112—113).

**Ко́варат** *наз., м.* **1.** Прыстасаванне ў калодзежы, з дапамогай якога дастаюць ваду.

Пачаўся дзень. Зрэдку з вуліцы чутны сталі галасы, скрыпела коваратам студня. (*К. Чорны.* Спатканне) Глушак пастаяў момант раздумліва, прывязаў каня да штыкету, прайшоў паўз вокны гэты год нефарбаванага дзе-нідзе аблезлага дома — вокны глядзелі на мокры «коварат» моўчкі, няветліва. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

**2.** Прыстасаванне, з дапамогай якога зачыняюць вароты.

Два дні гахаў сякерай [Міця], але ўсё ж вычасаў шулу для ковoрата. Цяпер вароты на агарод зачыняюцца. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

Параўн.: *коворот* — журавель у калодзежы (*Клімчук,* 42; *Сцяцко,* 81); *коварацень* — кола, на якое на-

кручваецца ланцуг у калодзежы (*Сцяшковіч,* 245); *ковырыты* — вароты ў канцы вёскі (*Бялькевіч,* 229).

**Кóкаць** *дзеясл. незак.* Утвараць выгук «ко-ко-ко» (пра курэй).

Пятух дзюбаў, што раскідаў вепер (вяпрук), і ўжо без клопату сакатаў і кокаў. (*М. Гарэцкі.* Зіма)

Параўн.: *кокаць, кокацца* — квактаць, сакатаць (*Юрчанка,* 114); *кокодакаты* — моцна кудахтаць (*Клімчук,* 42).

**Кóнча** *прысл.* Абавязкова.

Анупрэй сюды выправіў. Кажа, каб ты конча пад раніцу быў там... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *конче* (*Насовіч,* 245), *кончы* (*Каспяровіч,* 165), *конча* (*Янкоўскі,* I, 99; *Бялькевіч,* 230; *Сцяшковіч,* 237; *Жыдовіч,* II, 82) — абавязкова.

**Кóпанікі** *наз., мн.* Сані, палазы якіх зроблены з выкапанага з карэннем дрэва.

[Асмолавец] прымасціцца рачыкам у дзіравых «копаніках» (санках з не гнутага, а копанага ў лесе з крывых карэнняў вобаддзя)... і патурыць хударлявую сваю кабылку. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *копани* — сані (*Насовіч,* 245); *копанік* — выкапаны (нягнуты) полаз (*Янкоўскі,* II, 91); *копанкі* — сані, палазы якіх зроблены з выкапанага з коранем дрэва (*Юрчанка,* 114).

**Кóсы** *наз., мн.* Валасы.

Падрэзаныя доўгія косы, лоб завостраны дагары, выпуклыя ў бакі круглыя шчокі, ад чаго твар здаецца трохкутнікам. Гэта — каморнік Драздоўскі. (*П. Галавач.* Рубанаўскі вузел)

Параўн.: *косы* — валасы (*Хрэстаматыя,* 334; *Сцяцко,* 81; *Сцяшковіч,* 238; *Шаталава,* 84).

**Кóўраты,** *наз., мн.* Вароты.

Стары дыміў люлькай і сонным і вачмі глядзеў у той бок, дзе за коўратамі сабраўся каля легкавушак натоўп. (*І. Чыгрынаў.* Апавяданне без канца)

Параўн.: *коўраты* — вароты (*Юрчанка,* 114); *коўрыты* — вароты ў канцы вёскі (*Бялькевіч,* 230).

**Крам** *наз., м.* і **Крáма** *наз., ж.* Матэрыя фабрычнага вырабу.

— Там, дзе чырвоны сцяг, там савецкая ўласць...

— Калі ж бо краму няма. З чаго іх зробіш? — выкрыкнула з першага рада Параска. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Міранчыкі! Ёсць хто дома? Краму дзяшовую прывезлі ў сельпо аднаасобнікам! Ці то вам не трэба яна? (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

Параўн.: *крам* — 1) баваўняная куплёная тканіна, звычайна тыпу паркалю, 2) любая фабрычнага вырабу тканіна (*Уладзімірская,* 223), крамная матэрыя (*Бяльковіч,* 231); *крама* — тканіна фабрычнага вырабу (*Шаталава,* 85).

**Кра́ма** гл. *Крам.*

**Кручо́к** *наз., м.* Бутэлька (пустая і поўная) ёмістасцю 0,125 л.

Лабановіч цішком паслаў бабку Параску ў манапольку па кручок гарэлкі, або мярзаўчык, як яго тады называлі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *кручок* — 1) 1/8 л, 2) бутэлька ёмкасцю ў 1/8 л (*Клімчук,* 43; *Сцяцко,* 83).

**Крыжа́к** *наз., м.* Прыстасаванне з дзвюх збітых накрыж палак на версе саламянай страхі.

На ўсім грэбні сядлаюць хату крыжакі, каб вецер не ўздымаў салому. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *крыжоўка* — крыжавіна (*Сцяцко,* 83); *крыжаванне* — скрыжаваныя ўверсе канцы дошак, якія замацоўваюць краі саламянай страхі (*Сцяшковіч,* 245); *крыжак* — падстаўка (*Сцяшковіч,* 245).

**Кубёлак** *наз., м.* Кубел, кубелец.

А ты — садзіся. На гэты кубёлак садзіся. (*К. Чорны.* Вялікі дзень)

Параўн.: *кубёлак, кубэлак* — кубел (*Сцяшковіч,* 247); *кубёлак* — кубелец (*Жыдовіч,* III, 67).

**Кубло́** *наз., н.* Гняздо.

«Тата, а каменьчыкі ў кубельца вераб'інае ты паклаў?» — часам ускокваў у хату і пытаўся Валодзька. (*М. Ракітны.* Такое яе сэрца)

Параўн.: *кубло* — гняздо птушкі, у тым ліку хатняй; *кублец* (*Янкоўскі,* I, 103).

**Кукóбіць** *дзеясл., незак.* Песціць.

Усё пільней кукобяць думку асмолаўцы аб нейкім

дзіве — ці то аб зямлі, ці то аб волі. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *кукобіць, кукобіцца* — важдацца, няньчыцца (*Юрчанка,* 117); *кукобіць* — песціць, даглядаць (*Бялькевіч,* 236)

**Кулды́каць** і **Кульгі́цаць** *дзеясл., незак.* Кульгаць.

Але горшая бяда ў тым, што хлопец без нагі — адрэзана ніжэй калена. Кулдыкае чалавек на драўляшцы. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) Міканор кульгіцаў, апіраючыся на качарэжку. (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

Параўн.: *кулдыбаць* — кульгаць, павольна ісці (*Насовіч,* 268); *кулдыкацца* — перакульвацца (*Гарэцкі,* 131; *Бялькевіч,* 237); *кулдыкнуцца* — кульнуцца (*Янкоўскі,* III, 57); *кульгік* — кульгавая хада (*Янкоўскі,* II, 94); *кулдыкнуцца* — упасці, перакуліцца (*Бялькевіч,* 237).

**Кулдыя́чыць** *дзеясл., незак.* Гаварыць невыразна.

А ў гэты час іх вартаўнік кулдыячыў страшэнна, калечанай расійскай мовай. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *кулдыячыць* — лепятаць; неразборліва гаварыць (*Гарэцкі,* 131; *Бялькевіч,* 237), гаварыць незразумела (*Шаталава,* 91).

**Кулёк** *наз., м.* Верхняя вопратка з даматканага сукна.

Следам за галавой паказаўся і сам мужчына, апрануты ў лапці, шырокае сіняе галіфэ, саматканы суконны кулёк і нейкую жоўта-сінюю форменную шапку. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *кулёк* — пінжак (*Каспяровіч,* 170), верхняя мужчынская кароткая вопратка з саматканага сукна (*Жыдовіч,* I, 70),

**Улі́дка** *наз., ж.* Булка хлеба.

Падаючы торбу загаварыла: «Я тут хлеба дзве кулідкі паклала. Учора спякла...» (*І. Мележ.* Людзі на балоце) [Цётку Тэклю] злавілі з шасцю кулідкамі хлеба, калі яна несла іх у мяшку некаму ў лес. (*Б. Сачанка.* Апошнія і першыя) ...А калі выручыш грошы, купі якую кулідку хлеба... (*М. Капыловіч.* Па хлеб)

Параўн.: *куліда, кулідка* — буханка хлеба (*Янкоўскі,* I, 103; *Прач,* 166; *Вештарт,* 386); *куліта, кулітка* — булка хлеба (*Хрэстаматыя,* 334), каравай хлеба (*Бялькевіч,* 237).

**Кульгіцаць** гл. *Кулдыкаць.*

**Ку́лька** *наз., ж.* Дзяржанне на кассі для правай рукі.

Бярыся ля маёй рукі, сынок... А праваю за кульку вазьміся... І роўна, пры самай зямлі вадзі... Толькі на касу не налягай вельмі. (*М. Капыловіч.* Сірата)

Параўн.: *кулька* — лучок, рукаятка ў касе (*Янкоўскі,* II, 95), дужка на кассі (*Сцяцко,* 85; *Сцяшковіч,* 250), ручка на кассі і папярочная планачка на дзяржанні ў лапаце (*Шаталава,* 90).

**Куля́са** *наз., ж.* Самаробная сукаватая палка; кульбака.

Промень ліхтара асвятліў толькі сукаватую блішчастую кулясу, якую адзін з субяседнікаў трымаў між кален. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *куля* — мыліца (*Сцяцко,* 85); *куліса* — прасека ў лесе (*Бялькевіч,* 237).

**Камі́льгам** і **Куміль́гом** *прысл.* 1. Мігам, вельмі хутка.

Дзіўнае, незразумелае пачуццё, падобнае да страху, апанавала тады Карызну, і ён кумільгам кінуўся цераз двор у хату. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

2. Потырч, кулём.

...Немец піхнуў хлапца перад самымі варотамі свірна ўбок... і той паляцеў кумільгом у снег. (*І. Чыгрынаў.* Плывун)

Параўн.: *комельгом* — хутка, вельмі хутка (*Насовіч,* 243); *кумільгаю, кумільгым* — хутка, як слова сказаць (*Бялькевіч,* 238).

**Кумільго́м** гл. *Кумільгам.*

**Ку́раўка** *наз., ж.* Лямпа без шкла; газоўка.

У хаце ў гэты час загарэлася лямпа, не кураўка, а тая вялікая. (*Н. Тарас.* Асіны)

Параўн.: *кураўка* — 1) недагарэлае палена, 2) лямпа без шкла (*Сцяцко,* 85; *Сцяшковіч,* 251).

**Курня́ўкаць** *дзеясл., незак.* Мурлыкаць, мяўкаць.

...Абодва паўзлі па траве, курняўкаючы, як каты. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *курняўкаць, курняўкыць* — мяўкаць (*Бялькевіч,* 239; *ЛГБГ,* 291).

**Курэ́нь** *наз., м.* Часовае жыллё; шалаш.

...Капою сена ляпіўся да невысокага пакатага пагорка курэнь-аднабочка. (*Б. Сачанка.* Не, не ўсё роўна)

Параўн.: *курэнь, курынь* — шалаш (*Корань,* 142); *курэнь* — будка ў садзе (*Бялькевіч,* 239)

**Ку́таць** *дзеясл., незак.* Рабіць плот (прывязваць дубцамі вертыкальныя калкі да гарызантальнай жэрдкі).

Базыль насек бярэма лазовых дубцоў, ускінуў іх на плечы і пацягнуў у Піліпаў двор. Прымерыў рукою вышыню плятня і, сагнуўшыся, пачаў не спяшаючыся кутаць. (*Б. Сачанка.* Варэйка золата) Трохі болей за месяц адпачываў душой — касіў, кутаў сваячцы плот, наслаўшы ў хляве невялічкі тачок, абіваў снапы. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

Параўн.: *кутаць* — гарадзіць (плот) (*Шаталава,* 92)

## Л

**Лабо́к** *наз., м.* Франтон; зашчытак.

[Мотка] усхопліваўся на страху, станавіўся ўніз галавой і спакойна праходзіў на руках ад лабка да хлява і назад. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *лабяк, залобак* — франтон (*Прач,* 166); *лабок* (*ДАБМ,* с. 779).

**Лагво́** і **Лагло́** *наз., н.* Логава.

Вакол лагва бялелі, валяліся абгрызеныя косці, зусім яшчэ свежыя, з рэшткамі мяса... (*Б. Сачанка.* Падгалая) Стары выграб з палукашка сена, кінуў яго ў кут, трасучыся ад плачу, памог пляменніку дайсці да гэтага смяротнага лагла, прыкрыў посцілкаю... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *лагва* — логава, бярлога (*Бялькевіч,* 245); *лагво, лагавішча, лагоўе* — месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак (*Сцяшковіч,* 255).

**Лагло́** гл. *Лагво́.*

**Лазо́вікі** *наз., мн.* Лапці з лазы.

І вось... я заказаў дзядзьку Кузьме, каб ён сплёў мне лапці-лазовікі. (*П. Пестрак.* Квас і лапці)

Параўн.: *лазавікі* — лазовыя лапці (*БРС-62,* 411).

**Лася́к** *наз., м.* Папруга, пасак.

Здаравенны маўклівы Гаўрусь Каляда... выцягвае з-за «ласяка» сякеру, здымае рукавіцы. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

**Ла́тва** *прысл.* Добра; выгадна.

Латва — я таксама супроць меншавіцкай драбла-

сці... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Рыгор? Табе ж проста латва — з месца на месца. (Там жа)

Параўн.: *латво* — 1) лёгка, без цяжкасцей, 2) лоўка (*Насовіч,* 266); *латва* — лёгка, добра (*Гарэцкі,* 135); *латно* — выгадна, вельмі добра, зручна (*Зубрыцкі,* 141).

**Латве́й** і **Лацве́й** *прысл.* Лепш; выгадней.

А на сваё жыццё на зямлі яны [хрысціяне] пазіраюць, як на спосаб латвей дастасавацца да банкету на тым свеце. (*Я. Колас.* На ростанях) «Эх, братка, ты мой, братка! — усміхаецца дзядуля.— Лацвей табе цяпер казаць — не тое было ў даўны час». (*М. Гарэцкі.* Досвіткі) Анісім прыкідваў, як бы гэта лацвей і незаўважней працiснуцца між іхніх шырокіх і худых спін да прылаўка... (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) Праўда, сына ён [Літвіновіч] не крыўдзіў, памагаў, колькі мог. Ды тады лацвей было яму памагаць. (*І. Шальманаў.* Пачынаўся дзень) ...Лацвей ужо ў сваёй вёсцы адказваць на ўсё і за ўсё. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *латвѣй* — лягчэй, лепш (*Насовіч,* 266); *лацвей* — лягчэй, прыемней, лепш (*Гарэцкі,* 175; *Каспяровіч,* 176; *Шатэрнік,* 146); *лацьвей* — лепей, добра (*Яўневіч,* 33); *лацьві* — лёгка, добра (*Бялькевіч,* 248); *латвей* — лепш (*Шаталава,* 95).

**Латуны́** *наз., мн.* Што-небудзь зношанае, латанае, дзіравае.

Дзімка, раскінуўшы рукі, смачна спаў пад латунамі. (*М. Капыловіч.* Па хлеб)

Параўн.: *латунок* — від капоты (*Каспяровіч,* 175); *латнік* — старая посцілка, якой накрываюць каня (*Сцяшковіч,* 259); *лотуны* — лахманы (*Шаталава,* 95).

**Лацве́й** гл. *Латве́й.*

**Лíпаўка** *наз., ж.* Кошык з ліпы.

Міколка ўзмахвае сваім кошыкам. Поўная ліпаўка баравікоў — жаўцявых, чырванаватых, цёмных... (*М. Лынькоў.* Васількі)

Параўн.: *ліпаўка* — бочка з ліпы (*БРС-62,* 420), драўляная пасуда, выдзяўбаная з ліпы (*Жыдовіч,* I, 73), ліпавая бочачка для мёду (*Шаталава,* 97).

**Лу́тка** *наз., ж.* Бакавы стаяк асады дзвярэй і акон (*Бялькевіч,* 253).

А тая павесіла даёнку на цвік, што тырчаў у лутцы, і вынесла з сянец кош з дробнай бульбай. (*І. Чыгрынаў.* У горад)

Параўн.: *лутка* — вушак (*Жыдовіч,* II, 92; *Шаталава,* 99).

**Ля́біх** *наз., м.* Гультай (*Бялькевіч,* 255).

«Во, палюбуйся на гэтых лябіхаў. Спектакль спраўляюць»,— спыніўся каля нас дзядзька Міхей. На мове дзядзькі Міхея лябіхі азначала гультаі. (*У. Кузьмянкоў.* Вяснушка)

**Ляжа́к** *наз., м.* Месца пры печы; ляжанка.

Цётка ставіць Харытону на ляжак малако ці чугунок варанай бульбы. (*А. Бажко.* Перад вераснем)

Параўн.: *ляжак* — выступ печы, на якім можна сядзець (*Сцяшковіч,* 272); *ліжанка* — запечак (*Бялькевіч,* 250); *ляжайка* — ляжанка (*Жыдовіч,* II, 93,).

**Ляжэ́йка** *наз., ж.* гл. *Аглабінó, Гнýшка.*

Ратушняк адпусціў лейцы і прыхінуўся бокам да ляжэйкі. (*І. Пташнікаў.* Агні) Валодзі Сідаркі з Валуйком даўно нідзе не відаць, хоць глядзі, стаўшы на ляжэйкі,— у іх добрыя коні. (*І. Пташнікаў.* Лонва)

Параўн.: *ляжэйка* — жэрдачка ў калёсах (*Касяровіч,* 182).

**Ляка́цца** *дзеясл., незак.* Палохацца.

А Васіль не ўнімаўся: «Ды не, не! Ты толькі, дзядзька, не лякайся — то усё будзе добра»,— супакойваў ён Хлора. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *лекаць, злекаць (-цьца)* — палохаць, палохацца (*Насовіч,* 267); *лякацца, злякацца* — (с)палохацца (*Гарэцкі,* 139; *Касяровіч,* 182; *Шатэрнік,* 151; *Сцяшковіч,* 195); *зьлякнуцца* — спалохацца (*Бялькевіч,* 211).

**Ляха́** *наз., ж.* Града; разора; паласа поля ад разоры да разоры.

[Туман] куляўся за вострыя макавінкі дрэў, поўз хвалямі, як дым у сырое надвор'е на цёмных лехах да хаты... (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *лѣха* — знак пры пасеве (*Насовіч,* 274); *ляха* — града (*Шаталава,* 101), знак пры сяўбе (*Касяровіч,* 183), градка (*Хрэстаматыя,* 334; *БРС-62,* 428); *ліха* — палоска, што займаецца адным праходам пры ручной сяўбе (*Бялькевіч,* 251).

**Ляшы́ць** *дзеясл., незак.* Ставіць знакі, меткі (салому, ґалінкі) за сейбітам на загоне (*Яўневіч,* 34).

Праслаўляе ён поле і ... сяўбу, і агні на рабі-

нах з баравое паляны, і красуню-дзяўчыну, што так лешыць старанна... (*П. Броўка.* Хлеб)

Параўн.: *ляшыць* — адзначаць край пасеву, праводзячы рыску палкай або ўтыкаючы пучкі саломы (*Бялькевіч,* 257).

## М

**Мажа́ра** *наз., ж.* **1.** Павозка, прыстасаваная для перавозкі снапоў, сена, саломы.

За гумном, нібы хто кійком прайшоўся па штыкету, пратарахцела пустая мажара (*У. Кузьмянкоў.* Споведзь)

**2.** Колькасць прывезенага на мажары.

Піліп паліў ёўню і сушыў жыта, якога ў гумне набралася мажары са дзве. (*У Кузьмянкоў.* Споведзь)

Параўн.: *мажарка* — сані з маленькімі драбінкамі, *мажары* — калёсы з драбінамі вазіць сена, снапы, салому (*Бялькевіч,* 257); *мыжара* — воз, павозка з драбінамі (Там жа, 268); *мажары* — калёсы для звозкі снапоў і сена, *мажы* — доўгія шырокія драбіны, якія ставяцца на павозку пры перавозцы сена, саломы, вікі і інш. (*Жыдовіч,* II, 94).

**Ма́йткі** *наз., мн.* Штаны.

Дзед Талаш быў у кароткім кажушку, у суконных з раменнымі латамі майтках... (*Я. Колас.* Дрыгва) Іншы раз сюды, у Камароў кут, прыганялі кароў мяшчане, цыбатыя, у кароткіх майтках і ў жоўтых блішчастых касках, накрадзеных, напэўна, у мястэчковай пажарнай. (*В. Адамчык.* Раяль з адламаным вечкам)

Параўн.: *майткі* — штаны (*Каспяровіч,* 184; *БРС-62,* 431), верхнія штаны (*ДАБМ,* карта 326, с. 930), кальсоны (*Сцяшковіч,* 276).

**Маладзён** і **Маладзёнак** *наз., м.* Малады чалавек.

Капітан зваціў у райком, дзе дзяжурыў інструктар аддзела прапаганды, сухарлявы маладзён Банадзюк. (*П. Пестрак.* Серадзібор) «Я ж, дзіця маё, зла табе не жадаю, вучу, як трэба лепш жыць, не так, як мы: пражылі і нічога добрага не ўбачылі,— адказала на гэта маці,— мы цябе з астатняга вучылі, цяпер ты вучоны, не маладзёнак ужо, глядзі сам». (*Г. Далідовіч.* Сустрэча)

Параўн.: *мыладзеніц* — хвароба, прыпадак (*Бялькевіч,* 268); *маладзян* — немалады чалавек, які не кідае

звычак маладых (*Сяцко*, 94); *маладзён, маладзенец* — жаніх (*Панюціч*, 73); *маладзеніц* — малады, жаніх (*Шаталава*, 103).

**Маладзёнак** гл. *Маладзён.*

**Ма́лец** *наз., м.* Хлопец.

Тады Лясніцкаму стала зусім добра, прыемна. Радасна-занепакоены, ён сам сабе думаў: «Гэта ж усе такія добрыя, любыя мальцы...» (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі) «Ды нішто яшчэ малец»,— усміхнулася жонка. (*Г. Далідовіч.* Пенсіянер)

Параўн.: *малец* — хлопец, падлетак (*Бялькевіч*, 259; *Панюціч*, 24); *маліц* — хлопец (*Бялькевіч*, 259; *Зубрыцкі*, 142).

**Марсяну́ць** *дзеясл., зак.* Уцячы, драпануць, сігануць.

Калі я сабраўся кінуць граблі і марсянуць праз рэчку дамоў, пацямнела, прапала сонца, адразу пасвяжэла, застыў на спіне і на твары пот. (*Г. Далідовіч.* Ліст да Олі)

Параўн.: *марськануць* — нечакана выцяць (*Калоша*, 156); *марскануць* — кінуць, пабароць (*Сяцко*, 96), штурхануць (*Жыдовіч*, II, 96); *марскануцца* — дацягнуцца (*Жыдовіч*, II, 96).

**Маршчакі́** *наз., мн.* Скураныя лапці.

Сотні глотак падхоплівалі песню, выцягваліся няголеныя худыя кадыкі, весялей тупалі стаптаныя абцасы і маслакаватыя ступакі, абутыя ў апоркі і маршчакі. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *маршчак* — лапаць са скуры (*Янкоўскі*, I, 114); *маршчакі, шкуранкі* — лапці, пашытыя са скуры (*Сакалоўская*, 297).

**Мастако́ліцца** *дзеясл., незак.* Прыладжвацца.

У хаце было ціха. Толькі на сталі бзынкалі мухі, мастаколячыся нанач. (*У. Дамашэвіч.* Заклінаю ад кулі)

Параўн.: *прымастаколіцца* — прымайстравацца, уладкавацца (*Сцяшковіч*, 397).

**Мацыя́** *наз., аг.* і **Мацыя́ш** *наз., м. Іран.* Важная персона.

Ну, ушчапіў капялюх, дык ужо, думаеш, і паніч. Невялікая мацыя, невялікі хвэрт, нябось Мікола адразу раскусіў, калі заікнуцца не дае аб ём... (*Ц. Гартны.*

Сокі цаліны) Ці даўно перад панам у тры пагібелі гнуўся, ён ужо тут мацыяш... (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *моцоя* — крэпасць (*Насовіч* 292); *мацая* — мацак (*Юрчанка,* 128); *мацыя* — важнасць, (*Сцяшковіч,* 285); *масіяш* — звадыяш (*Шаталава,* 103).

**Мацыя́ш** гл. *Мацыя́.*

**Метушы́цца** *дзеясл., незак.* Мітусіцца.

У сярэдзіне яе [грамады] метушыліся два палешукі, пабраўшыся загрудкі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *мятушыцца* — мітусіцца (*Жыдовіч,* II, 101).

**Мля́ўкі** *прым. Перан.* Млосны, млявы.

Раі дакучлівых мух і мляўкі смак халоднай, нішчымнай заціркі. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *мляўкі* — млявы (*Сцяцко,* 97; *Сцяшковіч,* 288); *мляўка* — млява ад гарачыні (*Бялькевіч,* 265).

**Мост** *наз. м.* Падлога.

У хаце тупае капыткамі [авечка] па масту, бляе. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *мост* — падлога (*Насовіч,* 29; *Каспяровіч,* 190; *Хрэстаматыя,* 334; *Юрчанка,* 130; *Бялькевіч,* 266; *Сцяшковіч,* 290; *Жыдовіч,* II, 99; *Шаталава,* 105).

**Му́тарна** *прысл.* Моташна, непрыемна.

[Галілей] упяў у Гвардыяна спакойны задуменна-дапытлівы погляд, ад якога таму стала мутарна. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *мутэрна, мутырна* — непрыемна (*Бялькевіч,* 267).

**Мы́чка** *наз., ж.* Абчасаная на грэбені і скручаная скруткам жменька льновалакна (*Юрчанка,* 133).

Мятнулася з грэбнем і мычкамі лёну дзеўка і, спуджаная, таго ж часу дзесь прапала. (*М. Гарэцкі.* Панская сучка)

Параўн.: *мычка, мычачка* — жменя ільну, падрыхтаваная для працы (*Бялькевіч,* 269).

**Мэ́рам** *прысл., злучн.* Быццам, нібы.

Усё — мэрам зачараванае, нейкаю таемнаю сілаю, нерухома, бязмоўна, нібы мёртвае — прытаіўшыся маўчала. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *мэрам* — нібы, прыблізна, быццам (*Гарэцкі,* 145; *БРС-26,* 174; *Жыдовіч,* II, 100).

**Мя́ліца** *наз., ж.* Церніца.

І прыкра Хомку, што бацька яго... сабраўся-ткі лён церці, ляпае адзін у лазні мяліцаю. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *мяліца* — 1) мялка, 2) вялы працаўнік, 3) той, хто марудна есць (*Насовіч,* 297); *мяліца, мяльніца* — церніца (*Бялькевіч,* 271).

## Н

**Нааддалёк** *прысл.* Наводдаль.

Васіль стаяў нааддалёк, ля жарон і, адвярнуўшы голаў, задумана азіраў сцены, столь і чатыры старыя аблезлыя абразкі. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *аддалёк* — воддаль (*Жыдовіч,* III, 11).

**На́бераткі** і **Нары́тнікі** *наз., мн.* Спецыяльныя шлейкі, які́мі падтрымліваецца хамут у каня; набадры.

[Немцы] падпяразаны шырокімі жоўтымі дзягамі, і плечы іх пераматаны, што ў коней, жоўтымі набераткамі... (*І. Пташнікаў.* Тартак) Тады, як дружкі прыбіралі стужкамі вуздзечку, нарытнікі, дугу, ён [Чарнушка] палажыў на воз лепшага мурожнага сена... (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *набердкі* (*Шатэрнік,* 163); *набедрики, напетрики* (*Масленікава,* 176); *намэдрыкі* (*Сцяцко,* 102); *набераткі* (*Бялькевіч,* 272); *набадры, набераткі* — раменная частка вупражы, якая накладаецца на тулава каня (*Шаталава,* 108); *нарыт(ш)нікі* — набэдрыкі (*Шатэрнік,* 171; *Масленікава,* 177).

**Набы́льваць** *дзеясл., незак.* **1.** Станавіцца падобным.

Алесь пачаў часцей хадзіць на вячоркі і вечарынкі падлеткаў, вучыцца пад Макараву скрыпку танцаваць, набыльваць, як гаварылася, на кавалера. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

**2.** Думаць.

...Кожны ўжо напэўна набыльваў пра тое, каб як пайсці дадому, бо недзе ў канцы калідора, каля кладоўкі, дзынкала вядром тэхнічка. (*В. Адамчык.* Калі ападае лісце)

Параўн.: *набыльваць* — прывучацца (*Сцяшковіч,* 298).

**Набы́чыцца** *дзеясл., зак.* Надзьмуцца; прыняць ваяўнічую позу, падобна раз'юшанаму быку.

Глядзі, як набычыўся Яўхім,— яму і цвярозаму

слова папярок не кажы, а цяпер п'яны,— як рысь той. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *набычаны* — насуплены, нахмураны (*Сцяшковіч,* 298).

**Навíк** *наз., м.* Навічок.

Дык лепш наўперад склікаць адных навікоў, падагнаць іх трохі, а ўжо крыху пазней сабраць рэшту вучняў. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *навік* — новы чалавек (*Сцяшковіч,* 299).

**На́глы** *прым.* Злосны.

У Хведара дзве сястры ёсць, дык старэйшая Матыльда спрыяе Хведару, гэтакая самая, як ён, наглая і ненаедная. (*К. Чорны.* Ліст Якуба Малькевіча)

— ...Сабака ваш наглы,— сказаў ён [Патржанецкі]. — Наглы, гэтага мала, ён яшчэ і разумны. (*А. Чарнышэвіч.* Світанне)

Параўн.: *наглы* — раптоўны (*БРС-62,* 470), нахабны (*Жыдовіч,* II, 103).

**Над ду́хам** *прысл.* Над прыпекам, дзе ідзе дух (цяпло).

...А адзежа ці высахла хаця? Я яе на коміне над духам, выкруціўшы, павесіла... (*І. Пташнікаў.* Агні)

**Нады́сь** *прысл.* Нядаўна; на днях.

Калі Хведзька вылез з-за стала, знарок трымаючы лыжку з прусаком бліжэй перад Ганнай, мачыха сказала безнадзейна: «Развялося пошасці етай! Надысь ноччу ўстала, падпаліла лучыну, дык яны па падпрыпеку — шась, як войска якое!..» (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *надась, надысь, нагдай, нагдась* — на днях (*Насовіч,* 302); *нагдысь, надась, надысь* — нядаўна (*Бялькевіч,* 273—275); *надысь* — надоечы (*Жыдовіч,* II, 103).

**Надзява́нка** *наз., ж.* Адзенне.

Я ўсё на гэтую жанчыну гляджу, а на дзяўчыну, што побач, дык і мала. А як глянуў, ахнуў: Тося! Яна аказваецца! Ды такая прыгожая! І надзяванка ў яе вельмі ж шыкоўная. Куды там! (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *надзёжа* — адзенне (*Насовіч,* 304); *надзяванё* — начынка (*Шаталава,* 109).

**Нажу́тка** *наз., ж.* Верхняя жаночая вопратка з рукавамі (*Жыдовіч,* 83).

І вочы ў яе [Волькі] — добрыя, блакітныя, як і нажутка, у якой яна заўсёды ходзіць і на якую ў яе набіраецца асця ад ячменя. (*І. Пташнікаў.* Лонва)

**На́лапам** і **На́лпам** *прысл.* Раптоўна, нечакана.

Гэта сцэна смяшыла дзяцей, якія налпам крычалі: «Во, во, дзядзькі, так! Гэтак...» (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) «Але ж ты, Яначка, як малы. Няхай жа ж бы ты памаленьку, дык ён куляе налапам»,— упікнула яна [Марыська]. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *налоп* — нечаканасць, *налопам* — нечакана, нахабна (*Бялькевіч,* 276).

**На́лпам** гл. *На́лапам.*

**Наманы́** *прысл.* Наўздагад.

Вяртаўся Кандрат наманы, прыслухоўваючыся. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *навманы* — наўгад (*Клімчук,* 48).

**На́пал** *прысл.* Напалавіну.

[Дзед] дастаў з кішэні ножык-складанчык, разрэзаў агурок напал і моўчкі падаў Саўку і мне... (*Б. Сачанка.* Не, не ўсё роўна)

Параўн.: *напал* — напалам, на дзве роўныя часткі (*Янкоўскі,* III, 69; *Бялькевіч,* 277; *Сцяшковіч,* 305; *Жыдовіч,* II, 103).

**Напера́точ** *прысл.* Наперарэз.

«Ліба?» — заварушылася ў яго галаве, і Рыгор крута павярнуў назад, пайшоўшы ім наператоч. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**Напрасце́нь** *прысл.* Напрасткі.

[Гвардыян] не ведаў, што Галілей папраўдзе баіцца, але наважыўся ісці напрасцень. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *напроста* — нацянькі, напрасткі (*Бялькевіч,* 278); *напраста, напрастне, напроста* — напрасцяк (*Сцяшковіч,* 306).

**Напярэ́хапы** *прысл.* Напярэймы.

Два драчы ў зарасніку напярэхапы дралі брызент. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

Параўн.: *наперэхватку* (*Дуброўская,* 268).

**Нара́д** *наз., м.* і **Нара́ды** *наз., мн.* Панарад; калёсы без бакавых бартоў (драбін).

Ліха ведае што! Вунь усе як у бубен б'юць: Мікалаішка з Нязвычным у Лужках пад нарадам... (*Ц. Гарт-*

*ны.* Сокі цаліны) Ён выцягнуў нарады, палажыў на іх дошкі і стаў навальваць гной, хоць вывозіць яго цяпер ён ніколі не меў на ўвазе. (*Я. Колас.* Адшчапенец)

Параўн.: *нарад* — частка воза (*Сержпутоўскі,* 51); *нарадка* — павозка, у якой возяць гной (*Жыдовіч,* II, 106).

**Нара́ды** гл. *Нара́д.*

**Нарасхле́ст, Нарo̍схліст** і **На́хлашч** *прысл.* Насцеж; наросхрыст.

«Рыгорка мой, сонца маё, ясачка мая»,— з радаснаю гордасцю ў голасе, трупцявым голасам загаманіла Стэпа, нарасхлест адчыніўшы дзверы і шырока растапырыўшы рукі настрэчу сыну. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) [Карантышок] ступаў ціхенька, уперавалачку. Кароткае паліто наросхліст. Пусты, пухлы, задаволены. (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях) ...Вароты ў стайні наросхліст, а коней і знаку няма... (*М. Лужанін.* Дванаццаць вячорных вогнішчаў) [Каровы] стаялі як укопаныя ля нахлашч парасчынятых варот і рыкалі. (*Б. Сачанка.* Апошнія і першыя)

Параўн.: *нарысхраст* — насцеж (*Шаталава,* 111); *нахлашч* — наросхрыст, размашыста, шырока (*Сцяшковіч,* 310); *нахляшч* — насцеж (*Сцяцко,* 105).

**Нарo̍схліст** гл. *Нарасхле́ст.*

**Нары́тнікі** гл. *На́бераткі.*

**Наса́тка** *наз., ж.* Насоўка, насавая хусцінка.

Камандзірша ў жоўценькіх скураных пярчатачках махала беленькаю насатачкаю... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *насатка* — насоўка (*Бялькевіч,* 279; *Сцяшковіч,* 308).

**Насаўсі́м** *прысл.* Зусім.

[Яўхім] пранізаў яе [Ганну] позіркам: «Ето ты цвёрдо, насаўсім?» (*І. Мележ.* Подых навальніцы) Усціння прадала ледзь не за паўцаны карову, забіла дошкамі хату і дзверы, і вокны, развіталася насаўсім з суседзямі, паехала. (*І. Чыгрынаў.* Усціння) Я і то думаю, ці не Салаўёў гэта латышок... У водведкі ці насаўсім? (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *насаўсім, саўсім* (*БРС-26,* 285), *саўсім, сусім* (*Яўневіч,* 48), *сусём* (*Жыдовіч,* II, 156) — зусім.

**Настабу́рчыцца** *дзеясл., зак.* Натапырыцца.

У сенцах узлез [кот] на паліцу і настабурчыўся: пачуў, быццам скрабаюцца мышы ў скрынцы з прыпасамі. (*М. Гарэцкі.* Смачны заяц)

Параўн.: *настабурчаны* — непрыгладжаны, калматы (*Сцяшковіч,* 309).

**Настра́мачак** *наз., м.* Невялікі воз.

...Вязу гэта я настрамачак вішаю, аж ідзе [Банадык Гатальскі]. Паздароўкаўся лагодна, нібы здзекуецца, і ўшчаў... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *настрамак* — невялікі воз (*Янкоўскі,* I, 126; *Жыдовіч,* II, 106).

**На сяло́** *прысл.* На пасядзёнкі.

Гэта некалі яшчэ, мусіць малым, Марцін пайшоў на сяло, а там у яго спыталі, што робяць маці з бацькам. «Сечку жнуць»,— сказаў Марцін (яны, мусіць, рэзалі сечку), і з таго дня за ім цягнуўся гэты хвост і кожны тузаў... (*В. Адамчык.* Дзікі голуб)

**Наўзахапы́** *прысл.* Навыперадкі.

Але магу сказаць, што Юлік, хоць і кум мне, але чалавек ён от які! Не мог хіба каморнік да мяне на кватэру застацца ці што? І ў мяне хата не горшая за яго. Дык не, наўзахапы пабег, каб адно чалавека да рук прыбраць... (*К. Чорны.* Зямля)

**Наўхвато́шчую** *прысл.* На скорую руку; хапаючыся.

Жылі яны [дзед Андрэй з бабкай Хадорай] на саменькім ускрайку вёскі ў маленькай хатцы-кузоўцы, якую дзед Андрэй з дапамогай сваякоў наўхватошчую агораў да замаразкаў. (*У. Кузьмянкоў.* Страшная гульня)

**На́хлашч** гл. *Нарасхлёст.*

**Нахра́пна** *прысл.* Нахабна, нахрапам.

Даруй, Рыгор, што я так нахрапна залез у твой пакой. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *нахрапам, нахрапна* — сілком, нахабна (*Каспяровіч,* 204); *нахрыпам* (*Бялькевіч,* 282).

**Нахра́пнік** *наз., м.* Намордiк у аброці.

...Але-ткі забрытаў, сціснуў ёй [кабыле] храпы нахрапнікам і прывязаў за повад да разложыстай вярбы... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

**Недабóек** *наз. м.* Недабіты.

Летась, здаецца, я расказвала вам, забраўся [Косцік] на страху гумна і шуснуў уніз. Добра, што там салома ляжала. І як яшчэ цэлы застаўся... Мы тады празвалі яго недабоечкам... (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

Параўн.: *недабой* — брак у палатне, калі нітка ўтоку слаба прыбіта бёрдам (*Шаталава,* 112).

**Недалэ́нгі** *прысл.* Няздольны, няздатны.

Мішка ўбачыў, як у яго [швагра] ад злосці пачало касіць правае вока, і Мішка падумаў, як сястра любіць яго, гэткага недалэнгага, малога, і як жыве з ім. (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *недалэнга* — недарэка, няўклюдны, недалужны (*Сцяцко,* 106); *нідалэнгаваты* — нязграбны, няўдалы (*Жыдовіч,* II, 107); *недалуга, недалэнга* — няздольны, няздатны (*Сцяшковіч,* 312); *нідалэнжны* — няздольны, няздатны (*Шаталава,* 112); *недалэнгі* — 1) кволы, фізічна слабы. 2) нязграбны, няўклюдны (*Панюціч,* 86).

**Недалягáць** *дзеясл., незак.* Не хапаць.

У чалавека ёсць жонка... Усё добра... Ён любіць яе, як любяць другія, а можа нават і болей за іншых, але яму ўсё нечага недалягае, яму ўсё думаецца, што ў яго каханні нешта недзе страчана, не, не цяпер, а некалі... даўно... (*В. Адамчык.* Калі ападае лісце)

Параўн.: *недалягаць* — адчуваць немач, слабасць пры хваробе (*Усціновіч,* 60).

**Недатóпкі** *наз., мн.* Зношаны абутак.

[Сварыліся] за пусцяковіну, за глупства, за зламаную іголку, за лапаць-недатопак, за тое, што курыца, мусіць, знеслася ў суседзевых каноплях. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *нэдотопки, нэдотыпки, нэдотупкы, недотопки* — стары зношаны абутак (*Сакалоўская,* 299); *недатопак* — атопак, апорак (*Сцяшковіч,* 312).

**Нежывéць** *дзеясл., незак.* Рабіцца мёртвым; пераставаць рухацца.

Сэрца то нежывела, то шалёна торгалася... (*А. Наўроцкі.* Снежань)

**Незачэ́па** *наз., аг. Іран.* Недатыкальная асоба, недатыка.

...Бесклапотны які. Нядбайны. Сварлівы і гнеўны. Няўжо і калі спіць — ён той жа? Ха-ха-ха! Незачэпа, ой, ой, незачэпа! Задзіра. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *нізачэпаны* — некрануты (*Сцяцко,* 106); *нідатыка* — незачэпа (*Жыдовіч,* II, 107).

**Нездаля́ка** *наз., аг.* Фізічна слабы.

Як жа тут не возьме злосць. На матку, на нездаляку-каня, што наватісці як трэба не ідзе! (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *нездалека, нездалетнік, нездалетніца* — той, у каго мала фізічнай сілы (*Янкоўскі,* III, 72); *нездалека, нездаляка, неўздаляка* — слабы (*Панюціч,* 82).

**Нездаля́шчы** *прым.* Нямоглы, слабы фізічна.

«Хто нездаляшчы?» — весела адгукнуўся Васіль... (*І. Мележ.* Гарачы жнівень) Ды вось — дзед, дзед у яго! Каму ён патрэбен — сляпы, нездаляшчы... (*М. Ракітны.* Далёкія гады) Дзіку цяжка ўгнацца за чарадою, бо ён стары, нездаляшчы, і таму ён цураецца яе і астаецца адзін. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) Хворы ён [Міця], нездаляшчы. Таму і ў армію не ўзялі. Тут толькі і асталіся такія — малакасосы ды хворыя. (*І. Навуменка.* Сасна пры дарозе)

Параўн.: *нездалетны* — нямоглы (*Янкоўскі,* I, 128); *нездаляшчы* — слабы (*Панюціч,* 83).

**Не́ўдаль** *наз., аг.* Няўдалы чалавек, няўдаліца.

«Няўжо-такі бацькі згодзяцца за такую неўдаль выдаць яе?» — закінуў пытанне ці то аднаму сабе, ці то на разгадку ўсім Пятрусь. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) От ба, неўдаль! (*К. Чорны.* Нянавісць)

Параўн.: *няўдаля* — неакуратны чалавек (*Жыдовіч,* I, 110).

**Нё ж** *часц.* Няўжо ж.

Нё ж даседзелі да канца? (*П. Галавач.* Чацвёртае спатканне)

Параўн.: *анёж, аняж, анягож* — няўжо (*Каспяровіч,* 21); *нё ж, нёж* — няўжо (*Гарэцкі,* 163; *Сцяшковіч,* 314).

**Но́гца** і **Но́сцам** *прысл.* Нагой (наском абутку ці сагнутым каленам).

«Вон, каб ты здох!» — вылаяўся салдат і даў сабаку ногца. (*М. Лобан.* На парозе будучыні) Герасі-

мовіч носцам ткнуў у закручаныя рагожай цюкі. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *носсам, насцаком* — біць нагою, наском бота (*Янкоўскі,* I, 170).

**Нóсцам** гл. *Нóгца.*

**Нýкала** *наз., аг.* Той, хто ў гутарцы часта паўтарае слова «ну».

— Саўка?

— Ну...

— От жа людзі ўсе як людзі.

— Ну?

— От жа нелюдзь ты, нукала... (*М. Лынькоў.* Саўка-агіцірнік)

Параўн.: *нукала* — той, хто нукае (*Насовіч,* 342).

**Нюхаўка** *наз., ж. Зневаж.* Нос.

Сотнікаў з натугай павярнуў галаву і апынуўся твар у твар з канваірам.

— Падлюгі!

— Ты, заступнік! Адвярні нюхаўку, а то красную юшку спушчу. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

Параўн.: *нюхаўка, нюхмарка, нюхало, нюшка* — нос, вялікі нос, мыса (*Жыдовіч,* I, 88; II, 109; *Сцяшковіч,* 317; *Шаталава,* 113).

**Няёжны** *прым.* Які дрэнна есць.

У чарадзе Бабруковых свіней, якіх я пасвіў на выгане, быў адзін вельмі няежны парсючок. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

Параўн.: *няўежна* (*Янкоўскі,* II, 117).

**Нязгрэ́да** *наз., аг.* Нязграбны.

Поруч з ёю [Марынай] Міхась Ермаліцкі здаваўся проста нязгрэда: ступаў шырока, непаваротліва... (*Я. Скрыган.* Няпрошаная сляза)

Параўн.: *нязгрэба* — няўдалы, няспрытны (*БРС-62,* 530; *Сцяшковіч,* 317).

**Нямы́цька** *наз., аг.* Той, хто не любіць мыцца.

А пхэ! Нецікавае дзіця — герой наш. Увесь у соплях, і нямыцька, і худы... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

**Ня́цца** *дзеясл., незак.* Практыкавацца, імкнуцца.

Нават гаманіць па-наску трохі нялася... (*М. Гарэцкі.* Дурны настаўнік)

## О

**О'бдым** *наз., м.* Абдымак.

Рыгор сам не чакаў гэтай насцярогі — гук дзвенгнуў шклом у акне і, напэўна, дайшоў да гаспадыні. Скокам маладога тыгра ён апынуўся каля Ганны і спрытным обдымам прытуліў да сябе. *(Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**О'дум** *наз., м.* Роздум.

«Эх, разгаварыўся, суддзя! — падумаў з одумам аб сабе старшыня.— А ён стаіць — хоць бы што, у галаве — адно: пусцяць ці не?..» (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *одум* — задуменне (*Сцяшковіч,* 319).

**Ось** і **От** *часц.* гл. *Вот.*

Ось прожар дык прожар! (*Я. Колас.* На ростанях) «Ось бачыце!» — нядобра ўзрадаваўся загадчык райана. (*В. Быкаў.* Абеліск) У яго быў пляменнік — от, галайстра нейкі, тут у мястэчку,— а ў яе пляменніца — добрая дзяўчына — гаспадыня спраўная, хоць і з вёскі. (*Я. Брыль.* Праведнікі і зладзеі)

Параўн.: *ось* — вось (*Жыдовіч,* I, 89).

**От** гл. *Ось.*

**Ото́** *прысл.* Тут.

А ото ўжо і ямка. Садзіцеся, пакуль я разблытаю вуды. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

Параўн.: *ото* — вось, тут (*Насовіч,* 376; *Жыдовіч,* II, 110).

## П

**Пабіва́ць** *дзеясл., незак.* Баранаваць ворыва першы раз.

Спачатку яна сеяла — спраўна, не горш за любога мужчыну,— ён пабіваў перад ёю раллю. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *пабіць* — параўнаваць (паскародзіць) перад сяўбой узаранае поле (*Янкоўскі,* II, 118).

**Паго́нка** *наз., ж.* Дарога, па якой праганяюць статак; выган.

Зубрэй сышоў з вуліцы і падаўся пагонкай. (*Г. Далідовіч.* Старая сасна)

Параўн.: *пагон* — дарога, па якой гоняць статак (*Янкоўскі,* III, 80), 1) выган, 2) паша (*Жыдовіч,* II, 111); *пагоня* — невялікае балота (*Шаталава,* 115).

**Падако́нне** і **Падвако́нне** *наз., н.* Падаконнік.

Народу было не прабіцца. Сядзелі на скамейках, на падаконні. (*М. Лынькоў.* Салавей-разбойнік) На падаконні ляжалі газеты. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае) З двара на падаконне ўзляцеў верабей з саломінкай у дзюбе. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь) Ухапіўшыся за выступ падваконня, Лабановіч зазірнуў у сярэдзіну каплічкі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *падакельніца, падакенка* — падаконнік (*Касяровіч,* 215); *падакеннік* — вянок зруба, які знаходзіцца пад вокнамі (*Сцяшковіч,* 324).

**Па́далкі** і **Па́данкі** *наз., мн.* Ападкі.

Пад грушай стаяў стол, на якім ляжалі падалкі. (*І. Чыгрынаў.* Народны камісар) Да грушаў было яшчэ з кіламетр, а мы, сарваўшыся з месца, як спуджаныя вераб'і, пускаліся навыперадкі і наўзахапкі падбіралі смачныя паданкі. (*М. Ракітны.* Паранька)

Параўн.: *падаліца* — апалыя няспелыя плады (*Касяровіч,* 215); *падалкі, паданкі* — яблыкі, грушы, якія апалі самі (*Варава,* 116); *падылкі, паданіны* — апад: яблыкі ці грушы (*Бялькевіч,* 308).

**Па́данкі** гл. *Па́далкі.*

**Падбіва́ць** *дзеясл., незак.* Асыпаць бульбу.

Падаткнуўшы падол палінялага плацця, жанчына падбівала бульбу. (*І. Чыгрынаў.* Сонца на косах)

**Падвако́нне** гл. *Падако́нне.*

**Падзе́рціся** *дзеясл., зак.* Лезці, цесна прытульваючыся.

Ганна пастаяла і раптам узлавалася: што ж, няхай стаіць, няхай глядзіць! Ухапілася адной рукой у шчыліну за бервяно, другой за сноп, абаперлася наскамі аб бярвенні і снапы, стараючыся прытульваць спадніцу, падзерлася наверх. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

**Падзу́джваць** *дзеясл., незак.* Падбухторваць, падгаворваць.

Можа, той жа Нязвычны напісаў сваім сябрам, каб яны пастараліся ўчыніць якую пакасць. Бачыш, мала ён papadзуджваў Зосю, калі яшчэ быў тут. (*Ц. Гартны.*

Сокі цаліны) Узяў бы, як сакратар, падзудзіў нашых хлопцаў, у нас дружныя, дык мы б іх і падцягнулі. (*П. Галавач.* Спалох на загонах)

Параўн.: *пад'юджваць* (*БРС-62,* 583; *Бялькевіч,* 304).

**Паднядзе́ліцца, Падчапу́рыцца** і **Прычапу́рыцца** *дзеясл., зак.* Прыбрацца па-святочнаму (*Сцяшковіч,* 330).

Юзя спешна прыбірала са стала — ёй трэба было навесці парадак у кухні, падаіць галяндэрак і, крыху паднядзеліўшыся, збегаць у Даўгінава. (*А. Бажко.* Перад вераснем) Дома я быў месяц і кожны дзень на змярку, паднядзелены, спяшаўся ў клуб. (*Б. Сачанка.* Мальвіна). Людзі, па-святочнаму падчапураныя, тоўпіліся ля дзвярэй, немаведама чаго і на каго крычалі. (*Б. Сачанка.* Мальвіна) «Дзівак,— думаю я і не магу стрымаць усмешкі.— Яму куды лепш было б «апрасціцца», а не прычапурвацца». (*П. Галавач.* Чацвёртае спатканне). Сяргей перавёў вочы на Ганну: «І ты прычапурылася, як дзевачка. Ці не на танцы, а..?». (*А. Кудравец.* На зялёнай дарозе)

Параўн.: *паднядзеліцца* — надаць сабе святочны выгляд, прыбрацца (*Шаталава,* 118); *падчапурыць* — падхарашыць, *падчапурыцца* — прыбрацца (Шаталава, 120, 143); *чепурицьца* — апранацца (*Насовіч,* 697); *прычапурыцца* — прыхарашыцца (*БРС-26,* 261), выстраіцца, прыбрацца (*Каспяровіч,* 256; *Сцяцко,* 130).

**Падпая́ска** *наз., ж.* Пояс, падпяразка.

Братачка правёў рукамі па вузкай раменнай падпаясцы, зашпіленай паверх шэрай картовай кашулі, і ўсміхнуўся. (*А. Кудравец.* На зялёнай дарозе)

Параўн.: *падпаяска, пыдпыяс, пыдпыясык* — шнурок, пояс, падпяразка (*Насовіч,* 446; *Бялькевіч,* 306, 366).

**Падпі́нак** *наз., м.* Церассядзёлак.

Справа ішла... аб церассядзельніку (іначай кажуць — падпінак). (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь) [Юрка] падбягае да Смыка, папраўляе хамут, выцягвае грыву з-пад мокрага лямца, адпускае ніжэй падпінак — з вяроўкі, увесь у вузлах. (*І. Пташнікаў.* Лонва)

Параўн.: *падпінак* — падбрушнік (*Шатэрнік,* 190), пасак (у вупражы) (*Шаталава,* 118).

**Падпіна́ць** *дзеясл., незак.* Падцягваць і падвязваць церассядзёлак (*Янкоўскі,* II, 128).

Не чуючы пальцаў, зноў пачаў [Ратушняк] запрагаць каня — засупоньваць і падпінаць. (*І. Пташнікаў.* Агні)

Параўн.: *падпінак, падпінка* — пасак (*Шаталава,* 118).

**Падпры́пек** *наз., м.* Месца пад прыпекам.

[Люба] загарнула жар, засланіла печ, дастала штосьці з падпрыпека і пачала вячэраць, сеўшы на заслон. (*К. Чорны.* Люба Лук'янская) ...Мачыха сказала безнадзейна: «Развялось пошасці етай! Надысь ноччу ўстала, падпаліла лучыну, дак яны [прусакі] па падпрыпеку — шась, як войска якое!..» (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *подприпечек, припечек* — 1) прыпек, 2) прыморак (*Корань,* 150); *падпрыпек* — падпечак (*Сцяшковіч,* 332).

**Падцялёжыцца** *дзеясл., зак.* Зняцца са шворна поўнасцю ці часткова (пра драбіны, калёсы).

Падцялежыўшыся, нахіліліся да крушні і калёсы... Падцялежыліся разводы, крута стоячы на адным месцы; вывіхнуліся з-пад панараду цялежкі, бліснуўшы белымі шынамі, затрашчалі, ломячыся, аглоблі... Панок пачуў, як яго раптам падкінула ўгору, ударыўшы ў бок лятэйкай; пасля ён усё роўна як паляцеў у яму разам з мяхамі і разводамі. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *сцялежыцца* — сарвацца, здзецца са шворна (аб калёсах) (*Яўневіч,* 52).

**Падцялёжыць** *дзеясл., зак.* Падняць задок калёс перадком.

Конюха ўдалося знайсці хутка, на гразкім саўгасным двары, ён падцялежыў задок і мазаў квачом восі. (*Г. Далідовіч.* Чуйнае неба)

Параўн.: *цялежкі* — пярэдняя частка калёс (*Шаталава,* 192).

**Падчапу́ры́цца** гл. *Паднядзёліцца.*

**Падшпа́рак** і **Падшыва́лец** *наз., м. Жарт.* Падлетак, гарэза, свавольнік.

Нават гэтыя падшпаркі... і тыя не смеюць перарваць ачараванне песні... (*К. Крапіва.* Мядзведзічы) Але гэтыя думкі ўмомант разляцеліся, як вераб'і, калі ў іх вясёлы гурток паляціць каменьчык, кінуты рукой якоганебудзь падшывальца-жэўжыка. (*Я. Колас.* На роста-

нях) ...Многа пістонаў і набояў псуе «падшывалец»... (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Сабралася многа літоўцаў. Але яшчэ болей прываліла на пляц да касцёла «польскіх»: дэвоткі з малпачымі мордамі, вясёлыя хлапчукі-падшывальцы, чырванатварыя халупнікі ў шыракапузых польтах, іх верныя, але худатварыя, і, як заўсёды, не вымытыя добра майстры і чаляднічкі... (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары)

Параўн.: *падшыванец* (*БРС-62,* 582); *пыдшывальнік* — жэўжык (*Бялькевіч,* 367); *падшпарак* — падростак (14—16 год), падлетак (*Сцяцко,* 113; *Сцяшковіч,* 335).

**Падшыва́лец** гл. *Падшпа́рак.*

**Падыма́ць** *дзеясл., незак.* Падбіраць (пасланы лён).

Пакуль Ларыса прыехала з Усесаюзнай выстаўкі, якраз настала пара падымаць з насцілу лён (*А. Кулакоўскі.* Нявестка)

Параўн.: *падымаць* (лён) — сабіраць лён са сцелішча і вязаць яго ў снапы (*Жыдовіч,* II, 114).

**Пад'я́сніваццa** *дзеясл., незак.* Праясняцца, святлець.

Пад'яснiваецца,— і тады дождж спарнее, асталёўваецца, цэдзіць роўна, праймае ўсё на свеце... (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях)

Параўн.: *пад'ясніваццa* — святлець (*Сцяшковіч,* 335).

**Паза́рыцца** *дзеясл., зак.* Пакваліцца.

Андрэй... наведаў Берагоў па справе куплі імі пляца ў мешчаніна Шэі Краўца, на які пазарыўся сусед Шэі, і завёў гутарку аб тым, як памяшаць Берагам. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) ...Будзьце пракляты вы, калі пазарыліся на наш кавалак хлеба... (*М. Лынькоў.* Ядвісін дуб)

Параўн.: *пазарыцца* — пазайздросціць (*Шатэрнік,* 193; *Гарэцкі,* 216).

**Пазуры́** *наз., мн.* **1.** Пазногці.

Даўгаватыя пазуры блішчаць перламутрам. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

2. *Перан.* Кіпцюры.

Цярэшка ўздрыгануўся. Знекуль, як бы з-за сотні міль ад яго пачаў падкрадвацца страх. Здалёку-здалёку... Аднак халодныя пазуры гэтага страху краналіся яго разгарачанага ілба. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *пазур* — пазногаць (*БРС-62*, 591; *Жыдовіч*, II, 115; *Сцяшковіч*, 337), 1) ногаць, 2) капыт (*Шаталава*, 121).

**Паклéмацца** *дзеясл., зак. Зневаж.* Пажыць, паіснаваць.

Думалі, гадоў тры-пяць старая паклемаецца, за той час падрастуць дзеці, а там прыйдзе час і на могілкі. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

**Пала́ткі** *наз., мн.* Насціл пад страхой у хляве; вышкі.

А потым ужо порсткае цёплае сена — яно пахне горкім чэмерам — у хлевушку на палатках... (*В. Адамчык.* Пах летніх траў) На палатках ляжалі жэрдкі, каля іх салома. На тых жэрдках і на саломе сядзелі куры. (*У. Дамашэвіч.* Сівы конік)

Параўн.: *палаткі* — палічкі, зробленыя што-небудзь сушыць (*Насовіч*, 390), прыстасаванне з жэрдачак, дзе складаюць снапы (*Сцяцко*, 114), насціл з дошак пры печы (*Янкоўскі*, I, 137).

**Пала́цы** *наз., мн.* Насціл з дошак пры печы, на якім раней спалі.

Не любіла Тарасіха, што ён крэкча, а то яшчэ злезе з палацяў і пачне ўпоцемку шукаць карца на судніку, мацае, стукае... (*М. Гарэцкі.* Прысяга) Нарэшце ён [Гвардыян] угледзеў клок Галілеевай барадзёнкі, які тырчаў з высокіх — на ўзровень печы — палацяў. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Каля печы вышэй палка выступалі даволі шырокія палацы, дзе асталяваўся дзед Купрыян. (*Я. Колас.* Дрыгва) Сарока ўселася на палацы, таўханула ў грудзі Зайчыка, які весела рагатаў. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) [Язэп] варочаўся на мулкіх палацях, бясконца думаў пра сказанае Тацянай. (*А. Асіпенка.* Жыта) Летам у адрыне лепш, чым, скажам, у канюшні або ў кухні на мулкіх расхістаных палацях... (*А. Бажко.* Перад вераснем) Варочаўся [Базыль], саскокваў з палацяў, падбіваў пад бок сена, бо вельмі ж мулка было пасля пасцелі на дошках... (*Б. Сачанка.* Варэйка золата) [Кандрат] застаў Хведара на палацях у споднім, той ляжаў і курыў «казіную ножку». (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *палацы* — насціл з дошак у сялянскай хаце ад печы да супрацьлеглай сцяны (*Насовіч*, 390); *палаці, пылаці* — палаткі, вісячыя нары пад столлю (*Бялькевіч*, 310, 370).

**Памялёшнік** *наз., м.* Гл. *Кавёшнік, Качэргі* 2.

[Кот] палез у памялешнік, нешта адтуль выцягнуў і, мармычучы, пачаў есці. (*В. Адамчык.* Зоня) У памялешніку ля вёдраў і чыгункоў таўкліся дзеці. (*В. Адамчык.* На крыжавых дарогах)

Параўн.: *памялешнік, памялічнік* — качарэжнік (*Сцяшковіч,* 346).

**Панадвбрак** *наз., м.* **1.** Сядзіба; месца, забудаванае гаспадарчымі будынкамі (*Бекіш,* 103).

...Цяпер другі ўжо тыдзень яны [Сабольскі і Габрусёнак] пякліся на сонцы на Габрусёвым панадворку. (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях)

**2.** Двор.

На панадворку Марысю пільнуе Султан — крываногі, бяззубы ямнік [сабака]. (*А. Бажко.* Перад вераснем) З хаты праз высокі парог выкульваецца на панадворак Кульба. (*А. Асіпенка.* Жыта)

Параўн.: *панадворак* — двор (каля дома) (*БРС-62,* 606; *Зубрыцкі,* 144; *Сцяшковіч,* 347).

**Па-на́ску** *прысл.* Па-нашаму.

...Нават гаманіць па-наску нялася. (*М. Гарэцкі.* Дурны настаўнік)

Параўн.: *наській* — тутэйшы, наш (*Юрчанка,* 145); *наскі* — прыметнік ад займенніка *наш* (*Янкоўскі,* I, 125).

**Панца́к** *наз., м.* Крупнік.

Бацька ніяк не мог супакоіцца, ён сёрбаў забелены панцак і чмыхаў, кідаючы косыя позіркі то на Міхася, то на маці. (*У. Дамашэвіч.* Горад прыйдзе сам...)

Параўн.: *панцак* — ячменныя крупы (*Каспяровіч,* 228; *Шаталава,* 124), суп з ячменных круп (*Жыдовіч,* I, 95); *пянцак* — груца, буйныя ячныя крупы (*Янкоўскі,* III, 105); *панцак, пансак* — ячныя крупы (*Сцяшковіч,* 347).

**Панцако́вы** *прым.* Ячменны; з ячменных круп.

Чырвонаармейцам падабаўся стары, яны весела жартавалі, успамінаючы панцаковую кашу з рудабельскім салам. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

**Па падвако́нню** і **Па падво́каню** *прысл.* Пад вокнамі.

Да зборні пачалі збягацца хлапчукі, якія дасюль віліся па падвоканню ў Прыдатных (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Але я маю чалавечую натуру. Я не магу звягаць на кожнага па падваконню — таму падатак, таму

нядоімка... (*К. Чорны.* Зямля) Член сельсавета Ланскі, у ботах, заляпаных гразёю па самыя вушы халяў, пераходзіць па падвоканню ад хаты да хаты... (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *падвоканне* (*БРС-62,* 561; *Янкоўскі,* II, 121).

**Папіра́шка** *наз., ж.* Кій ці кульбака для апоры пры хадзьбе.

...У гады маленства з палкі вырабляў мастацкія штукі: птушачак, звяроў і проста харошы кіёчак-папірашку. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь) Незнаёмы, забраўшыся на ганак, нават наважыўся быў тарканудь у шыльду папірашкай... (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні)

Параўн.: *пыпірашка* — кій (*Бялькевіч,* 371).

**Папіха́йла** *наз., аг.* Слабавольны чалавек.

І выходзіць, што ён — папіхайла, на якім можна ехаць і яшчэ падганяць. Сваё жыццё Пілiп Пiлiпавіч лічыў няўдалым. (*У. Кузьмянкоў.* Споведзь)

Параўн.: *папіхач* — папіхіч (*Сцяшковіч,* 349).

**Паражані́ца** *наз., ж.* Жанчына, што нарадзіла дзіця; парадзіха.

Вось, пане доктар. Не давязлі, бачыце. Паражаніца на возе! (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *паражаніца* — парадзіха (*Сцяшковіч,* 350); *паражэлля* — парадзіха (*Шаталава,* 126).

**Па́рубень** *наз., м.* Тоўстая жэрдка, якой прыціскаюць воз з сенам, саломай, снапамі.

Не агледзецца — і другі воз парубнём прыціскаюць. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Заскрыпеў пад вяроўкай парубень, ціха, часта,— здавалася, на Доўгіх, калі ўзышоў месяц, прачнуліся драчы (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях)

Параўн.: *парубень* — рубель, жэрдка (*Зубрыцкі,* 144; *Яўневіч,* 25; *Жыдовіч,* II, 118; *Шаталава,* 126; *ЛГБГ,* 128).

**Па́свішча** *наз., н.* Месца, дзе пасуць жывёлу: паша.

Паны правялі хутарызацыю — скасавалі сервітут, і сялянская жывёла таўчэцца ўсё лета на голых выганах, на прырэчным тарфяным куп'і, няма ўжо мясцовага пасвішча. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *паста* — паша (*Жыдовіч,* I, 98); *пасьвіско* (*Сцяцко,* 118; *Сцяшковіч,* 354); *пасавішчэ, пастбішчэ* — выпас (*Шур,* 178); *пасьвішча* — паша (*Шаталава,* 127).

**Па́ска** *наз., ж.* Палоска, пісяга; рубец.

У Андрэя па кашулі з пляча і па рукаву беглі дзве чырвоныя паскі крыві. (*П. Галавач.* Дзве сцежкі) Ганна стала ўзірацца ў сінявокую смугу перад градою, выглядваць жаданую ясную паску, якая іншы раз на момант выблісквала з-за ўзвышша. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *паскі* — завязкі ў фартуху (*Жыдовіч,* I, 98); *паска* — палоска (*Калоша,* 157).

**Паспе́шка** *наз., ж.* Бульба-скараспелка.

Ля дзота Панок яшчэ не разганяў гранак: паспешка тут скапана ад вуліцы аж да палавіны гарода. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *паспешка* — сорт ранняй бульбы (*Сцяшковіч,* 355; *Шаталава,* 128).

**Пасталы́** *наз., мн.* Лапці.

Спачатку вада толькі чулася, дзе пасталы ўціскалі пакошу. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Глушак што-сілы чвякнуў пастол пад лаўку. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *пасталы* — скураныя лапці (*БРС-62,* 635); *пасталы, пастолы* — лыкавыя лапці (*Хрэстаматыя,* 334); *пасталы* — 1) лапці з лыка, 2) шкуранкі, 3) падстаўкі пад ножкі церніцы (*Уладзімірская,* 253; *Сакалоўская,* 307), лапці (*Янкоўскі,* III, 88).

**Парука́цца** *дзеясл., зак.* Павітацца за руку.

Прыйшоў Мікіта... Станавіта і нязграбна парукаўся з усімі... (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Адагнуўся той [Верамейчык] ад завязанага мяшка. Парукаліся. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *парукацца* — падаць пры сустрэчы руку як знак павагі; павітацца (*Насовіч,* 568; *Яўневіч,* 41; *Бялькевіч,* 391; *Жыдовіч,* II, 142).

**Патрактава́ць** *дзеясл., зак.* Пачаставаць; падзяліцца чымсьці.

Матушка ўстала, узяла папяросы, сама закурыла і гасцей патрактавала. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *(па)трактоваць* — пачаставаць (*Насовіч,* 484; *БРС-26,* 314; *Жыдовіч,* II, 120).

**Патра́ўка** *наз., ж.* Страва накшталт верашчакі.

А колькі майстроў касіць, капіць, стагі складваць, жаць, малаціць, веяць! Пячы хлеб, варыць патраўку...

(*І. Мележ.* Подых навальніцы) [Серафім] выбраў самую большую драўляную лыжку і зачарпнуў патраўкі. (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *патраўка, мачанне* — страва, смажаныя скваркі сала, мяса, парэбрынкі, кавалачкі каўбасы ў пшанічнай муцэ; гатуецца і падаецца ў шырокай і глінянай місцы (*Янкоўскі,* II, 132); *патраўка, патрава* — 1) яда, страва, 2) страва ў выглядзе соуса з кавалачкамі сала, каўбасы, рэбрынкамі (*Вештарт,* 399), рэдкая страва з мукі (*Жыдовіч,* II, 120).

**Паўтара́к** *наз., м.* і **Паўтара́чка** *наз., ж.* Бутэлька ёмістасцю 0,75 л.

[Мікіта] быў у сватах, з паўтараком, з боханам хлеба ў ручніку... (*В. Адамчык.* Дзень ранняе восені) Праз нейкі момант яна [жанчына] ужо стаяла каля стала з запацелай зялёнай паўтарачкай у руцэ. Адкаркавала і наліла асцярожна ледзь не да краёў шклянку мутнай вадкасці. (*Б. Сачанка.* Начлег на сенавале)

Параўн.: *паўтарак* — прадмет паўтарачнага памеру (*БРС-62,* 645); *паўтарачка* — дошка таўшчынёй паўтара вяршка (*Сцяшковіч,* 359), бутэлька ў 0,75 л (*Жыдовіч,* I, 100; *Сцяцко,* 120; *Сцяшковіч,* 359).

**Паўтара́чка** гл. *Паўтара́к.*

**Па́цяпнік** *наз., м.* Хмызняк.

Цётка Аксіння — наша суседка. Яе хата, уцалелая ад вайны, ужо старэнькая і слабенькая, як сама гаспадыня, дрывотнік з пацяпнікам пасярод двара відаць ад нас праз акно. (*У. Кузьмянкоў.* Страшная гульня)

Параўн.: *пацапок* — верхняя жэрдка драбіны ў возе (*Крамко,* 92).

**Па́шчакі́, Па́шчанкі́** і **Пашчэ́нкі** *наз., мн.* Сківіцы.

[Пан] хутка стаў есці, працаваць пашчакамі, як дарваўшаяся да стравы галодная жывёліна. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) А вакол мітусня, стуканне формаў, нібы хрумсанне пашчанкамі. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Здаравенны салдат сунуў кулаком у пашчэнкі ротнаму, той аж грымнуўся вобземлю... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *пашчэнак* — сківаца (*Жыдовіч,* II, 122); *пашчэнка* — ніжняя сківаца (*Сцяцко,* 121); *пашчомка, пашчэнка* — сківаца (*Сцяшковіч,* 363); *пашчэмка* — сківаца (*Шаталава,* 131).

**Па́шчанкі́** гл. *Па́шчакі́.*

**Пашчэ́нкі** гл. *Па́шчакі.*

**Перабіра́нка** *наз., ж.* Саматканая рознакаляровая посцілка (коўдра).

Зоня прынесла куль свежай жытняй саломы, дастала са свайго куфра дзяругу-перабіранку ў трыццаць два пруты з прыгожым узорам, можа яшчэ памятку рупнага дзявоцтва сваёй маці, і мякка выслала мне на падлозе. (*В. Адамчык.* Зоня) Маці з плачам адчыніла акаванае вечка [куфра] і пачала выкідаць праз акно палатно і коўдры-перабіранкі... (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі) Як гэта ўсё недарэчна, смешна і родна — дзяругаперабіранка павешана на сцяне... (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды) [Мачыха] занесла да Паўлючка перабіранкі, хусткі і ўсякі іншы нажытак, бо баялася, каб хто ўсё не падгроб пад сябе... (*В. Дайліда.* Вясна, хлопцы, вясна)

Параўн.: *перабіранка* — від саматканых дываноў і пакрывалаў (*Бекіш,* 119), каляровая посцілка (*Сцяшковіч,* 364); *перабиранка, перэбиранки* — узор і тканіна; вырабы, вытканыя бранай тэхнікай (*Уладзімірская,* 245).

**Перабіра́ны** *прым.* Вытканы ўручную; у пераборы.

...Міхась разаслаў перабіраную, у індыкі ля краёў, дзярушку і лёг загараць. (*У. Дамашэвіч.* Горад прыйдзе сам...) [Антось] доўга выціраўся перабіраным ручніком, які маці знарок для яго дастала з кубла, з самага дна. (*У. Дамашэвіч.* Заклінаю ад кулі)

Параўн.: *перабор* — складаны спосаб ткання (*Сцяшковіч,* 365).

**Пераме́нка** *наз., ж.* Перапынак паміж урокамі.

Лабановіч, крыху пагутарыўшы, пусціў іх [дзяцей] на пераменку. (*Я. Колас.* На ростанях) Выхавацелька чацвёртага класа... увайшла пасля пераменкі ў клас з вялікім пачкам чырванабокіх яблыкаў. (*Я. Брыль.* Сірочы хлеб)

Параўн.: *піряменка* — перапынак у школе (*Бялькевіч,* 330).

**Перасмыкну́цца** і **Перасмыкну́ць** *дзеясл., зак.* Скрывіцца; прыняць незадаволены выгляд.

Тхарыны тварык следчага зноў перасмыкнуўся, але, здаецца, ён умеў валодаць сабой. (*В. Быкаў.* Сотнікаў) Праўда, для Стася ці яшчэ для каго з гэтых запраданцаў іронія яго была далёкая ад разумення — на гэтага ж начальніка яна дзейнічала, здаецца, самым належ-

ным чынам. Да пары той, аднак, стрымліваўся, толькі крыва перасмыкнуў вуснамі. (Там жа)

Параўн.: *перасмыкнуцца* — скалануцца, *перасмыкнуць* — 1) (тузаючы, перамясціць) перацягнуць, 2) *безасаб.* (пра сутаргавы рух) скалануць (*БРС-62,* 680).

**Перасмыкну́ць** гл. *Перасмыкну́цца.*

**Пературба́цыя** *наз., ж.* Турбота.

[Антону Ягоравічу] здавалася, што ўсе гэтыяпературбацыі яго не закрануць. (*І. Чыгрынаў.* На пыльнай дарозе)

**Песчуга́** *наз., ж.* Пясчаная глеба.

Зямля на Марцінавым хутары колькі год ляжала аблогам, і на ёй ужо займаўся ядловец, і рос сівец, і дзе-нідзе цвіла жоўтымі калівамі дзіванна — яна любіць песчугу і сонца (*В. Адамчык.* Дзікі голуб)

Параўн.: *пяшчуга, пясчуга* — пяскі, пясчаная зямля (*Сцяцко,* I, 133; *Шаталава,* 147).

**Пе́таваццa** *дзеясл., незак.* Здабываць сродкі для існавання.

...Ён [Раман Салавей] у Гатальскага цяпер з трацiны петуецца. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *петавацца* — жыць у бядзе, у нястачах, марнавацца (*Янкоўскі,* II, 137); *петувацца* — многа цяжка працаваць (*Жыдовіч,* II, 123); *петывацца* — 1) біць, лупцаваць, біцца, 2) выконваць цяжкую работу (*Юрчанка,* 160).

**Пе́таваць** *дзеясл., незак.* Цяжка працаваць.

...Укусіць свая вош — успомніць другі, як маці з бацькам петавалі век. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *петываць, петывыць* — біць (*Бялькевіч,* 326); *петывыць* — 1) біць, лупцаваць, біцца, 2) выконваць цяжкую работу (*Юрчанка,* 160).

**Пехадра́лам** *прысл. Груб.* Пешшу..

Дзе там у чорта прыехала! Пехадралам пру! (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *пехадрала* — пехатой, хуткім крокам (*Сцяшковіч,* 371; *Жыдовіч,* II, 123), пехатой (*Дуброўская,* 272).

**Пікар** *наз., м.* Дзіцячая гульня.

На беразе Нёмана вучні гулялі ў пікара, калі прыбег Сямён Самахвал і паведаміў: «Семінарысты едуць!..» (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

Параўн.: *пікар, пігар* — назва гульні, падобнай да рускіх гарадкоў (*Янкоўскі*, I, 146).

**Пільча́к** *наз., м.* Пінжак (*БРС-26*, 238).

Тым не меней, нават і такі «лапсярдак», са спушчаным далёка ўніз станам, усё ж такі больш стасаваўся з важнасцю моманту, чым які-небудзь замухрысты пільчак вясковага настаўніка. (*Я. Колас.* На ростанях)

**Пілі́вы** *прым.* Настойлівы; вёрткі.

...Толькі яна [Зося] пераступіла парог, як раптоўна з хаты насустрач ёй кінулася яе малодшая сястрычка, пілявая, замурзаная Тэкля... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *пілянне* — настойлівасць (*Насовіч*, 415).

**Піпі́каць** *дзеясл., незак.* Сігналіць.

Недзе піпікала машына — мусіць, тая, што збірае смецце. (*В. Адамчык.* Калі ападае лісце)

Параўн.: *піпка* — люлька, *піпкыла* — курэц, што не выпускае з зубоў люльку (*Бялькевіч*, 327).

**Пліндрава́ць** *дзеясл., незак.* Таптаць.

Здохла свіння. Галодныя парасяты сплюндравалі агарод і пачалі лазіць у наш ячмень. (*А. Бажко.* Позняе ворыва)

Параўн.: *пляндроваць, спляндроваць* — стоптваць, знішчаць таптаннем (*Насовіч*, 421).

**Плужо́к** *наз., м.* Прылада для абганяння бульбы; акучнік.

Неяк уранні, калі яны ў два плужкі абганялі бульбу, стары спыніўся на павароце і сказаў... (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *плужкаваць* — абганяць бульбу, *плужок* — акучнік (*Сцяшковіч*, 376).

**Плу́жыць** *дзеясл., незак. Перан., іран.* Не старацца вучыцца; плесціся ў самым хвасце (у вучобе).

— Перайшоў у сёмы ці застаўся?

Адказаў за яго [хлапчука] былы кавалерыст:

— Ён глыбока бярэ — па два гады на клас. Плужыць па самы дышаль. Мы з адной вёскі. (*Я. Брыль.* На Быстранцы)

Параўн.: *плужыць* — абганяць бульбу (*Сцяшковіч*, 376).

**Плю́шаўка** *наз., ж.* Жаночая вопратка з плюшавай тканіны.

Больш тут было вясковых, гэта відаць было нават на іхніх апратках — і маладыя ў кароткіх плюшаўках кабеты, і старыя... (*І. Чыгрынаў.* Чайкі на хвалях)

Параўн.: *плюшаўка* — плюшавы жакет (*Жыдовіч,* I, 105; *Шаталава,* 136).

**Пля́мкаць** *дзеясл., незак. Неадабр.* Гаварыць з абыякавасцю.

Сустрэч было тры — ні разу не спытаў, хто яна, не ўзрадаваў дасціпным словам; заводзіў патэфон, наліваў віно, плямкаў мокрымі губамі «Майн ліблінг...» (*І. Навуменка.* Вецер у соснах) Мне языком лёгка плямкнуць, а потым чалавеку праз тое маё плямканне — пакутаваць. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *плямкаць* — пляскаць (пра язык) (*Сцяцко,* 125).

**По́дплетак** *наз., м.* Своеасаблівае шыла для падплятання лапцей.

[Ігнат] корпаўся з выслізганым вастрадзюбым подплеткам і лазоваю дзяшкаю — плёў лапаць. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *подплетка* — шыла (*БРС-62,* 699).

**По́шапкам** *прысл.* Шэптам.

Самі ўдзельнікі гэтай справы сяму-таму пошапкам расказалі пра гэта. (*К. Чорны.* Нянавісць)

Параўн.: *пошапкам* — шэптам, ціха (*Сцяшковіч,* 385).

**По́шар** *наз., м.* Корм для жывёлы (*Сцяшковіч,* 385).

Зусім бы дрэнна было малінаўцам з пошарам, але яны навучыліся сеяць канюшыну. (*А. Чарнышэвіч.* Засценак Малінаўка)

Параўн.: *пошар* — зялёная маса для кармлення жывёлы (*Жыдовіч,* I, 107), корм для жывёлы (*Шаталава,* 138).

**Правары́на** *наз., ж.* Месца, адведзенае адной жывёліне ў калгасным хляве; стойла, станок.

...А вось гною поўныя праварыны. На нас, відаць, спадзяешся? (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

Параўн.: *прыварына, прыарына* — прыбудоўка (*Янкоўскі,* II, 140); *праварына* — павець, падпаветка (*Сцяшковіч,* 386), прыбудова (*Жыдовіч,* II, 127).

**Праства́ць,** *дзеясл., незак.* Ісці напрасткі, прасцяком.

Адна постаць збочыла, хутка прастуе да яго [Васіля]. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) З гусцяжу сляды вялі на роўную і чыстую прасеку — чалавек, відаць, абрадаваны, што выбіўся нарэшце з зараснікаў, папраставаў па ёй. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга)

Параўн.: *прастаць* — ісці проста (*Насовіч,* 529), раўнаваць, выроўніваць (*Гарэцкі,* 191); *праставаць* — ехаць, не прытрымліваючыся дарогі (*Сцяшковіч,* 390), ісці напрасткі (*Шаталава,* 140).

**Праўле́нцы** *наз., мн.* Члены праўлення сельгасарцелі.

Ат, няхай сабе праўленцы рахуюцца там, а нам спяшацца няма чаго! (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

**Праўцо́м** *прысл.* **1.** Напрасткі.

Рыгор пералез на пастаўнік і вузенькаю сцежкай пайшоў праўцом да задымленага, з невялічкаю трубою цагельнага будынка. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**2.** Нерухома.

Воўк сутаргава падняў галаву і тут жа апусціў яе — болей не зварухнуўся, выпрастаўся праўцом. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) Так... мне асталося ісці якіх вёрст пятнаццаць. Дык от ледзьве іду, ногі ад хады праўцом сталі... (*К. Чорны.* Бацькаўшчына) ...Косіш — ну, проста рукі праўцом становяцца (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *праўком* — проста, прама (*Янкоўскі,* І, 152); *праўцака* — проста, прама (*Дуброўская,* 273).

**Про́жар** *наз., м.* Пражэрлівы чалавек.

«Усё змеле!» — расчаравана сказаў Уладзік. І сапраўды, Касперыч залажыў у рот апошні кавалак хлеба і сала, не спяшаючыся пачвакаў, глынуў з выглядам пераможцы і нават засмяяўся. «О,— сказаў ён,— цяпер аж да заўтрашняга можна трываць!» Тургай гучна зарагатаў: «Ось прожар, дык прожар!» (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *прожара* — ненаедны, ненажэрны (*Сцяцко,* 127); *прожыр* — абжора (*Жыдовіч,* ІІ, 129).

**Прыгрэ́бка** *наз., ж.* і **Прыгрэ́бнік** *наз., м.* Пограб; склеп.

Пачынаўся вечар. Тамаш пайшоў у прыгрэбку і да цямна ўспеў яшчэ павысыпаць з мяшкоў у пограб бульбу. (*К. Чорны.* Зямля) Падвечар Амеля падышоў да Цітковай прыгрэбкі. (*М. Лобан* На парозе будучыні)

Чарнушка ўнёс з прыгрэбніка мех бульбы, уладаваў у задку [калёс]. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Усцяж вуліцы ў Азярках — старыя купчастыя вербы. Застрэшшы хат, адрын, прыгрэбнікаў закладзены гарбузамі. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

Параўн.: *прыгрэбка* — пограб (*Жыдовіч,* II, 129); *пагрэбка, прыгрэбка* — надбудова з паветкай над пограбам (*Юрчанка,* 163); *прыгрэбнік* — пограб (*БРС-62,* 742), надбудова над склепам (*Сцяшковіч,* 395).

**Прыгрэ́бнік** гл. *Прыгрэ́бка.*

**Прыгу́мень** *наз., м.* гл. *Гумнішча, Гумно́, Загу́мень.*

Завёўшы каня на прыгумень, Зося барджэй забегла ў хату, каб перакусіць... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Адвёўшы [каня] за вароты на гарод, ён [Мэндрык] ускочыў верхам і рвануў з месца галопам на прыгумень. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *пругмень* — загуменне (*Жыдовіч,* II, 129), прыгуменне (*Сцяшковіч,* 393).

**Прыджга́ць** *дзеясл., зак.* Хутка вярнуцца назад; прымчацца. Гл. *Джгаць.*

А цяпер бач ты яго, сам [Мікалай Мікалаевіч] прыджгаў; мабыць, нешта прыспічыла. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка) Вунь і тая, што ўцякла, кажуць, прыджгала... (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга)

**Прыпытко́ўваць** *дзеясл., незак.* Выведваць.

[Вінцэнты] усё прыпыткоўваў па людзях, дзе што чуваць на свеце, ці не гавораць дзе пра што добрае, ці не ідуць адкуль навіны. (*К. Чорны.* Лявон Бушмар)

Параўн.: *припытывать, припытаць* — вышукваць, выведваць у іншых (*Насовіч,* 508).

**Пры сво́йцы** *прысл.* Па-свойму, пры сабе.

— Ну то давай памяняемся.

— Нашто нам мяняцца. Няхай будзе пры свойцы. (*К. Чорны.* Хлеб)

Параўн.: *па-свойцы* — кожны сваім, не мяняючыся (біць яйкі) (*Сцяцко,* 118).

**Прысябры́цца** *дзеясл., зак.* Стаць вельмі блізкім, зблізіцца, прысуседзіцца.

«Ой, выбачай! — Таня яшчэ соннымі вачыма кінула на яго [Юзіка] сарамлівы позірк і, злёгку зачырванеўшыся, борздзенька папраўіла сваю прычоску.— Прысябрылася! І ты таксама. Нечага сказаць, абое роўныя

сышліся. Што скажуць людзі?» (*Г. Далідовіч.* Дамашанская каралева)

Параўн.: *прысебрыцца* — паддобрыцца і нешта атрымаць, узяць (*Янкоўскі,* III, 102).

**Прыцелепак** *наз., м.* Падлізнік, прыхвасцень.

Альбо якім прыцелепкам прыходзіцца князь Глеб сляпой Марысьцы, што нарыхтавала ўжо булку хлеба і кусок кужалю, якога хапіла б «велікамучаніку» на добрыя штаны? (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *целяпайла* — чалавек, які хапае рукамі што-небудзь раней іншых (*Насовіч,* 692).

**Прыцюцькацца** *дзеясл., зак. Зневаж.* гл. *Прысябрыцца.*

...Выходзь зараз жа з хаты! Чаго прыцюцькаўся? Плёткі пра Кузняцова распускаць? (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

**Прычапурыцца** гл. *Паднядзеліцца.*

**Пудэлак** *наз., м.* Скрынка; увогуле якая-небудзь пасудзіна.

Гэта такая штучка, што як адну макавінку з пудэлачку за язык паложыш і — капут... (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі). Старая была пільна занята анучамі, бляшанымі пудэлкамі, папраўляла нешта долу. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні)

Параўн.: *пудэлак* — скрыначка (*Сцяшковіч,* 402), пенал (*Жыдовіч,* II, 133).

**Путнейшы** *прым.* Лепшы.

То прыбрала б ты, Зоська, крыху ў хаце. Прыкінула б ложак путнейшай посцілкай. Можа ж зойдзе. (*У. Кузьмянкоў.* Вяртанне)

Параўн.: *путный* — добры (*Бялькевіч,* 361).

**Пуцалаваты** *прым.* Мардаты.

Хлопец у карычневай суконнай куртцы з пуцалаватым тварам заварушыўся, зміргаў шэрымі вачыма... (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *пуцалаваты, пуцаты* — мардаты (*Сцяцко,* 131; *Лепешаў,* 48).

**Пшанічнік** *наз., м.* Пірог ці блінец з пшанічнай мукі.

... Як праз сон бачу: стаіць мая Аўдоля з патэльняй ля стала, частуе мяне асцюковымі аўсянымі праснакамі і суцяшае: «Не падай духам, Базыль! Еш на зда-

роўе. Вернуцца нашы, дык я цябе і пшанічнікамі парадую». (*А. Бажко.* Позняе ворыва)

**Пяко́лак** *наз., м.* Частка печы, якая найбольш награваецца.

Бацька нават не змаргнуў вокам. Саскочыўшы з палацяў ён стаяў ля пяколка і спакойна зашпільваў сарочку на сваіх валасатых шырокіх грудзях. (*А. Бажко.* Позняе ворыва) У хаце нікога не аказалася, адна гэта забытая бабуля сядзела на печы, звесіўшы на пяколак босыя ногі. (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

Параўн.: *пяколак* — выступ рускай печы (*Каспяровіч,* 259; *Юрчанка,* 167; *Шаталава,* 146), пячурка (*Бялькевіч,* 377), комінак (*Сцяшковіч,* 406); *пяколка* — гзымс над печкаю (*Бялькевіч,* 377).

**Пялёхкацца** *дзеясл., незак.* Плюхацца ў вадзе.

Хлопчыкі зноў браліся «лавіць рыбу». Пялёхкаліся ў вадзе і настаўлялі кашулькі, як рыбалоўныя сеткі. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *пялёхацца, пялёскацца* — плюхацца (*Каспяровіч,* 260; *БРС-62,* 770).

**Пярэ́сцігі** *наз., мн.* Дарога напрасткі.

Але, як на злосць, праходзілі яны вуліцы і перавулкі, зварочвалі ў глухія завулкі, рабілі пярэсцігі, хітравалі, а нічога не выходзіла. То сям, то там спатыкалі парачкі, якія ці ішлі, ці сядзелі; або Янка, або Васіль угляadaліся ў твары, пазнавалі, давалі добры вечар, пытаць жа аб Зосі з Рыгорам не хацелі. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *напярэсціг(к)і* — наперарэз (*БРС-62,* 492; *Янкоўскі,* I, 125); *пярэсцікі* — больш простая дарога (*БРС-26,* 266).

**Пясо́шнік** *наз., м.* Гарышча.

Дзед нават хаваў вупраж, плуг, а на пясошніку, пад лежаком,— сталёвыя восі... (*Б. Сачанка.* Не, не ўсё роўна)

Параўн.: *пясотнік, пясочнік, запясошнік* — гара (*ДАБМ,* карта № 229, с. 777).

**Пятнасто́ўка** *наз., ж.* Пятнаццацігадовая дзяўчына.

Тады яна робіць «кніксэк» і ўсміхаецца, як пятнастоўка. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Дый шчасце й не любіць, каб пра яго ведалі многія, яно цнатлівае да па-

лахлівасці, як дзяўчынка-пятнастоўка... (*Б. Сачанка.* Варэйка золата)

Параўн.: *пятнастоўка* — вельмі маладая дзяўчына (гадоў пятнаццаці) (*Сцяцко,* 133; *Сцяшковіч,* 408); немаладая дзяўчына, якая вельмі маладзіцца (*Сцяцко,* 133).

**Пяхо́там** *прысл.* Пяшком.

— А куды ідзеш?

— У Мінск.

— У Мінск? Пяхотам?

— Ехаць не маю за што. (*Я. Колас.* На прасторах жыцця)

Параўн.: *пяхотам* — пешшу (*Жыдовіч,* II, 136).

**Пяхце́р** *наз., м. Пераң., груб.* Няўклюдны чалавек.

Гэй ты, пяхцер, разлёгся тут бабай разанскай, нельга і да арбы падысці... (*М. Лынькоў.* Над Бугам)

Параўн.: *пяхцер, пяхцель* — вяровачная сетка, у якую кладуць сена, калі едуць у дарогу (*Бялькевіч,* 379; *Шаталава,* 148).

**Пячо́нікі** *наз., мн.* Спечаная ў агні бульба.

Міцька, прынясі ламачча — выграбеш з прыску самы вялікі пячонік. (*Б. Сачанка.* Мама) [Міхась] з братам Алёшкам пяклі на паляне пячонікі... (*Б. Сачанка.* Адведкі)

Параўн.: *пэчонкі, печонікі, печонцы, печонка, печонкі, печункі, пячонікі* — печаная бульба (*Вештарт,* 395).

**Пяя́ць** *дзеясл., незак.* **1.** Спяваць.

Песню п'яных студэнтаў з «Фауста» Гётэ вывучыў мяне пяяць немец-салдацюга рыжы Рудольф. (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары)

— А якая ж песня цікавіць вас?

— Ды хоць якая, абы ты пяяла. (*П. Галавач.* Загубленае жыццё)

**2.** *Пераң.* Гаварыць, паведамляць.

Сёмка адчыніў акно і падазваў хлапчука. Той шустра і рухава падбег к акну і тоненькім, рэзвым галаском прапяяў: «А то Юзя з Гапай б'юцца!..» (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) [Васілю] прыйшла ўпартая злосць: «Прыставілі б табе абрэз да грудзей, паглядзеў бы я што б ты запяяў... (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *пяяць* — спяваць (*Насовіч,* 543; *Гарэцкі,* 196; *Каспяровіч,* 260; *Жыдовіч,* II, 136).

**Рад** *наз., м.* Пракос.

Праз некалькі хвілін Міця дабрыў да высахлай балаціны, якую ўчора кончыў касіць. Рады — вузенькія шнуркі ад купіны да купіны — няроўныя. (*І. Навуменка.* Вецер у соснах) Трава... клубамі скочвалася з-пад ляза ў тоўстыя, бухматыя рады. (*М. Капыловіч.* Сірата)

Параўн.: *рад* — пракос (*Шаталава,* 149).

**Радоўка** і **Ра́та** *наз., ж.* Чарга.

Тую ноч была радоўка пільнаваць хворую прафесару з Аўгеняю... (*М. Гарэцкі.* Стары прафесар) Сяляне гадавалі Сяргея радоўкай. (*А. Бажко.* Позняе ворыва) Па-трэцяе, у Захара Лемеша ёсць патайная думка адстаршыняваць адразу, без перапынку, тры раты. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *радоўка* — чарга пасвіць скаціну (*Бялькевіч,* 398; *Жыдовіч,* I, 114), чарговае ўтрыманне нанятага пастуха жыхарамі вёскі (*Сцяшковіч,* 413), чарга (*Шаталава,* 149); *рата* — падатак (*Жыдовіч,* I, 117), частка плацяжу, доўгу (*Янкоўскі,* III, 110), чарга (*Жыдовіч,* II, 141; *Шаталава,* 152).

**Разбабе́лы** *дзеепрым.* Зморшчаны, разлезлы.

...Ля самай лескі, што аддзяляла Зазыбаў гарод ад сядзібы Аўхіма Касперука, плакаў ад дажджу, як свінцовымі слязамі, разбабелы свойскі мак. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі).

Параўн.: *бабяць* — маршчыніцца (*Сцяцко,* 20).

**Разбазы́ранасць** *наз., ж.* Нядбаласць, распуста.

Тамаш абазваўся: «Гэта гультайства, разбазыранасць». (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *разба́зыраць* — распусціцца, разлайдачыцца (*Сцяцко,* 135; *Янкоўскі,* III, 106).

**Разбайдава́ны** і **Разгэпаны** *дзеепрым.* Разбіты, раз'езджаны.

З намі на старых разбайдаваных калёсах, звесіўшы з драбінак ногі і дугою выгнуўшы спіну, ехаў і далёкі наш родзіч, мой цёзка Змітро Жолуд. (*Б. Сачанка.* Баравое рэха) Там ужо дзірван, а тут старыя разбайдаваныя заднія колы шапацяць і аж трашчаць у густым жвіры... (*І. Пташнікаў.* Лонва) Вялізныя карыя вочы скіраваны на капот і як бы далей за скрыўленае крыло,

у разгэпаныя каляіны дарогі. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

**Разбро́хаць** і **Разбэ́хаць** *дзеясл., зак.* Разбіць, зрабіць непраезджай ці гразкай дарогу.

Дарога разброхана, і ехаць было нельга. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) [Восіп] плюнуў, у самую каляю патрапіў, што разбэхалі вуліцай, возячы гной. (*М. Лынькоў.* Світка)

Параўн.: *разбрухітаць* — раскідаць, парассоўваць (*Сцяцко,* 135); *разбахаць* — залішне разбавіць (*Сцяцко,* 135); *разбэхыць* — разбіць (*Бялькевіч,* 381).

**Разбэ́хаць** гл. *Разбро́хаць.*

**Разво́ды** *наз., мн.* гл. *Ка́ры.*

...За ім [Міронам] на сваіх доўгіх разводах соўгаўся Валодзя Панок... (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *развод* — воз, разведзены ў даўжыню (*Сцяшковіч,* 415); *разводы* — вялікі воз (*Шаталава,* 150).

**Разга́ч** *наз., м.* Дзяркач.

Па шкле шорхала, грэбала, як венікам-разгачом, бы там хто хацеў змесці снег. (*І. Пташнікаў.* Чакай у далёкіх Грынях)

Параўн.: *разгач* — галінка, адростак (*Жыдовіч,* II, 138), зношаны венік (*Янкоўскі,* I, 159).

**Разгэ́паны** гл. *Разбайдава́ны.*

**Расаха́ты** *прым.* Вілападобны.

Да экзаменаў рыхтаваліся дома і разам. Выбіралі зацішнае месца пад старою расахатаю бярозай... і пралежвалі там цэлымі днямі. (*Б. Сачанка.* Мальвіна)

Параўн.: *расахаты* — галінясты (*Сцяшковіч,* 420).

**Раско́л, Ро́здур, Рышта́нт** і **Рэ́спуст** *наз., м.* Распуснік, хуліган.

«Расколы, расколы! — трос галавою дзед Марцін.— Не хочаш ты богу маліцца, маліся чорту лысаму, але навошта гэты здзек над святынню?» (*Я. Колас.* На прасторах жыцця) «А ты вазьмі такога роздура ды трошкі на калені,— гаворыць маці пра Толіка, маленькага Шарэйку.— Або лінейкай пастраш». (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее) ...Не дужа ты ў маленстве паслухмяны — рыштант. Перад вотчымам, перад мачыхай — ты і так рыштант. Шапкі перад старастам не скінуў... рыштант,

перадураднікам — рыштанцюга. (*М. Лынькоў.* Салавей-разбойнік) «Паганяй, рыштант! — закрычала Наста як толькі магла і папярхнулася.— Смерці захацеў!..» (*І. Пташнікаў.* Тартак) Хацела не пусціць, ды пабаялася, каб не зрабіў сабе чаго: так плакаў, рэспуст, і страшыў яшчэ, намякаў... (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *расколіна* — нахабнік, хуліган (*Янкоўскі,* II, 152; III, 108; *Лепешаў,* 48); *роздур* — 1) раздуранасць, 2) раздураны (*Янкоўскі,* III, 111); *(а)рыштанец* — 1) рыштант, 2) хуліган (*Янкоўскі,* II, 113).

**Рассыпу́шка** *наз., ж.* Разварыстая, рассыпчатая бульба.

Вось глядзі: агуркі суравыя і маласольныя — колькі хочаш, бульба-спяшо́к-рассыпу́шка — колькі хочаш. (*А. Куляшоўскі.* Гартаванне)

Параўн.: *сыпкая* — сопкая (*Янкоўскі,* III, 130).

**Растарэ́кваць** *дзеясл., незак.* Весці гамонку; пляткарыць.

Пакуль дзядзькі гаварылі з Міканорам, а жанкі растарэквалі каля прыпека, матка з Вольгай і Насцяй, а потым і з бацькам узяліся клапаціцца каля стала. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *прастарэкваць* — гаварыць многа і без ладу (*Янкоўскі,* II, 141; *Варава,* 117).

**Расхандэ́саць** *дзеясл., зак. Груб.* Разбіць, размалаціць.

«Што так позна? Давай хутчэй. Ігар, мігам па ваду. Ды не расхандэсай слоік»,— распарадзіўся Віталь. (*У. Кузьмянкоў.* Вяснушка)

**Ра́та** гл. *Радо́ўка.*

**Ро́вар** *наз., м.* Веласіпед.

І тут, як на ліха, з-за рога выплывае тая самая пані Ядзя. Убачыла ровар, мяне ля камля, ды так і аслупянела. (*В. Быкаў.* Абеліск)

Параўн.: *ровар* — веласіпед (*Сцяцко,* 138; *Сцяшковіч,* 425; *Шаталава,* 153).

**Ро́здур** гл. *Раско́л.*

**Руба́шка** *наз., ж.* Мужчынская сарочка.

Ён намерыўся схаваць сала пад рубашку. (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі)

Параўн.: *рубашка* — верхняя кашуля (*Сцяцко,* 138),

кашуля (*Сцяшковіч,* 427), сарочка (*ДАБМ,* карта, № 328).

**Рубе́ль** *наз., м.* гл. *Па́рубень.*

Назаўтра сусед лаецца, не знайшоўшы на месцы жардзіны, а ў Наздрэйкі рубель новы — любата. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы) Карчы ладуюць воз. Яўхім чапляе перадок рубля за вяроўку... (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Ад расчыненых на дзве палавіны варот з рублём і вяроўкай ад'язджала фурманка. (*М. Ракітны.* Селькоры) Сама Сахвея, дзябёлая, вастраносая, таксама завіхаецца ля запражкі. Яна прыцягнула аднекуль леташні бярозавы рубель, заматала на ручкі калёс тоўстыя вяроўкі, вынесла з сенцаў сякеру і жалезныя вілы. (*Б. Сачанка.* Стажок сена) Васіль, каб не адстаць ад людзей, на хаду прывязаў да воза рубель і сапхнуў яго на зямлю. (*В. Дайліда.* Радасць) Нарэшце беланогі тыцкаецца разгарачанай храпай у рубель пярэдняй павозкі... (*І. Хадановіч.* Раннія яблыкі)

Параўн.: *рубель* — тоўстая моцная жэрдка ўціскаць воз (*Шатэрнік,* 247; *Калоша,* 158; *Янкоўскі,* І, 162; *Сцяцко,* 138; *Жыдовіч,* ІІ, 141).

**Ру́чка** *наз., ж.* Прылада ў калёсах, да якой прымацоўваюцца драбіны.

[Чарнушка] устаў яшчэ да ўсходу позняга ў гэту пару сонца, запрог каня, вынес адну за другою дзве звязаныя авечкі, прывязаў у задку воза да ручак. (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Адна драбіна з'ехала з ручкі на кола, і яно, павольна круцячыся, шоргаецца аб дрэва. Шорх-шорх, шорх-шорх... (*Б. Сачанка.* Не, не усё роўна)

Параўн.: *ручка* — частка калёс з драбінамі (*Масленікава,* 186); *ручкі* — драўляныя брускі, якія ўбіваюцца ў падушку калёс (*Шаталава,* 154).

**Ры́хтык** *прысл.* і *часц.* Якраз; якраз як.

Нешта я скажу табе, мая кумка... Нeяк была я ў полі, аж бачу — ідзе твой Кастусь з Алесяй. Гавораць штосьці, рыхтык галубкі. (*С. Александровіч* Ад роднае зямлі) Марыля жыла адна з дзесяцігадовым Тонікам, які быў рыхтык колішні кравец... (*В. Адамчык.* Салодкія яблыкі)

Параўн.: *рыхтык* — якраз, якраз як, быццам як, нібы (*Сцяцко,* 139), дакладна такі (так) (*Янкоўскі,* ІІ, 154); *рыхцік* — абсалютна аднолькавы (*Шаталава,* 155).

**Рышта́нт** гл. *Раско́л.*

**Рэдзь** *наз., ж.* Столка (*Янкоўскі,* I, 164).

Тут добрая дратва патрэбна, ды ў дзве ці тры рэдзі. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні) Параска зняла з кійка цупкае палотнішча, склала яго ў некалькі рэдзяў, схавала пад кажушок... і берагам Нератоўкі пабегла ў Карпілаўку. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *рэдзь* — знешнія сценкі сеткі, абарца з рэдкага палатна, дзякуючы якім рыба робіць мех і заблытваецца (*Баханькоў,* 224), столка (*Яўневіч,* 48).

**Рэ́спуст** гл. *Раско́л.*

## С

**Сага́н** *наз., м.* Чыгун.

Хоць шляхціц цёмны, як саган, затое ж сам сабе ён пан. (*Я. Колас.* Новая зямля) А мама гаворыць: «Ты ўжо ўмееш упраўляцца. Толькі... як будзеш у печы паліць... не падымай на прыпек... вунь таго вялікага сагана — хай бацька сам падымае». (*Н. Тарас.* Асіны) ...Сухія дровы шугалі ў печы вясёлым агнём, дружна трашчалі і стралялі гарачымі сучкамі. Вада шумела ў саганах, лілася на спод, шыпела, падымалася парай. (*Г. Далідовіч.* Сямён)

Параўн.: *саган, цаган* — чыгунны гаршчок (*Каспяровіч,* 274; *Жыдовіч,* I, 119; *Сцяцко,* 140; *Сцяшковіч,* 433; *Шаталава,* 156).

**Сальцісо́н** наз., *м.* гл. *Каўбу́х.*

...Нават не дакрануўшыся ні да хлеба, ні да сальцісону,— закурыў пан доктар папяроску... (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары)

— Чым пачастуеш? — з усмешкай пытаўся Апанас.

— Чым? Вось каўбаска, сальцісончык, сальца харошае, паляндвічка, кумпячок, сырок, селядзец, нават рыбка смажаная. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *сельцісон* — від свіной каўбасы, прыгатаванай асобым спосабам (*Бекіш,* 105); *сельтесон, сольтисон, сальцісон, салцосон, салцісон, сэльцісон* — зельц, свіны страўнік ці тоўстая кішка, напоўненыя адваранымі ўнутранасцямі і спрасаваныя пад грузам (*Вештарт,* 403).

**Самату́жкі** *наз., мн.* Саначкі.

Я борзда... дастаў саматужкі, і мы паехалі. (*Б. Сачанка.* Не, не усё роўна) Дарога на вуліцы была добрая, цупкая, выкаўзаная, і саматужкі, павіскваючы палазамі, аж самі беглі, хоць на іх ляжала ладная вязка сена. (*М. Капыловіч.* Па хлеб)

Параўн.: *саматужкі, саматужэчки* — ручныя санї (*Масленікава,* 186); *саматужкі* — малыя саначкі (*Шаталава,* 157).

**Самахо́ць** *прысл.* Па добрай волі (*Сцяцко,* 141).

...Ты — пісаны, а я няпісаны, самахоць прывалокся. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *самохаць* — дабравольна (*БРС-62,* 838).

**Саўсі́м** *прысл.* Зусім.

Нягледзячы на тое, што Рыгор не спаў амаль усю ноч, а толькі прыдрэмліваў злёгку, ён чуў сябе бадзёра, і саўсім нясонна. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Саўсім адтаялі вокны. (*М. Гарэцкі.* Зіма) ...Часам можа быць, што, ці то суджана гэта, ці што, але чалавеку саўсім іншае пачне здавацца, як раней здавалася... (*К. Чорны.* Зямля) Ну, пачаў так, што я саўсім нічога не разумею (*Я. Скрыган.* Скажы адно слова) А здаецца, саўсім нядаўна якраз тут, дзе цяпер стаіць Мішка, ляжалі ачэсаныя дзеравіны... (*В. Адамчык.* Дзікі голуб)

Параўн.: *саўсім* (*БРС-26,* 285; *Каспяровіч,* 277; *Шатэрнік,* 253; *Жыдовіч,* І, 121); *сусім* (*Яўневіч,* 48; *Бялькевіч,* 428); *сусём* (*Жыдовіч,* ІІ, 156).

**Сашмыкну́цца** *дзеясл., зак.* Зашмаргнуцца.

Наста паправіла пад мехам пугаўё, яно было сагнулася, і маглі сашмыкнуцца лейцы, і сашчапіла на каленях рукі. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

**Светлата́** *наз., ж.* Светлае месца; светлыня.

З моцным хваляваннем, разгублены, сунуўся па яе слядах у купэ, у светлату, якая спачатку прымусіла яго прыжмурыць вочы, пасля паказала, што тут яны будуць не адны. (*Г. Далідовіч.* Дамашанская каралева)

**Се́дас** *наз., м.* Сядзіба; заселенае месца разам з зямлёй.

...Маці жыла пры старэйшым сыне, які меў на гэтым жа седасе сваю хату... (*А. Кулакоўскі.* Расце мята пад акном)

**Се́лішча** *наз., н.* Заселенае месца або месца, дзе раней было якое-небудзь пасяленне (ТСБМ-72). Гл. *Се́дас.*

Вось і гумно, адна з мясцін на родным селішчы, якая заўсёды ўспамінаецца з прыемнасцю. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) [Дзед] прыехаў раней і пасяліўся ў склепе на сваім старым селішчы. (*Б. Сачанка.* Не, не ўсё роўна) Селішча тваё, Максім, курадымам пайшло. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *селішча* — 1) сядзіба (двор, будынкі), 2) двор, сядзіба, 3) месца, дзе быў двор, сядзіба (*Янкоўскі,* II, 158; *Масленікава,* 183).

**Семна́ццатка** *наз., ж.* Семнаццацігадовая дзяўчына.

«Не чырванейся, зяць, як тая семнаццатка!..— смяецца Ячны... (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

Параўн.: *семнастоўка* — 1) маладая дзяўчына (год 17), 2) немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца (*Сцяцко,* 143).

**Се́чанка** *наз., ж.* Здробленая салома; сечка.

Усцiння спярша запарыла сечанку карове, занесла ў хлеў, пасля пачала таўчы бульбу. (*І. Чыгрынаў.* Усціння)

Параўн.: *сечынка* — дробна пасечаная трава ці ўвесь капусны ліст для свіней (*Бялькевіч,* 404); *сечанка* — 1) падушка з сечанага пер'я, 2) сечаная бульба ці гароднiна (*Жыдовіч,* II, 146); *сечка* — дробна парэзаная салома (*Сцяшковіч,* 447).

**Сённечы** *прысл.* Сягоння.

Ды ведаю, чаму ж. Яна ўжо маме маёй гаварыла: «Вярнуўся твой Васіль, застаўся, богу міламу дзякаваць, жыў ды здароў — і няхай бы ціхенька сядзеў, пакуль сядзіцца. Свет, кажа, сённечы кручаны. Панкі вунь, людзі казалі, акапаліся пад Наваградкам, а яны пра калгас». (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

Параўн.: *сёнечы* — сёння (*Бірыла,* 107).

**Сіга́ста** *прысл.* Вялікімі крокамі.

...Сігаста, вырабляючы па снягу самыя мудрагелістыя петлі... праскакаў заяц. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга)

Параўн.: *сіг, сігень* — крок (*Бялькевіч,* 404).

**Скаба́** *наз., ж.* Рабрына (*ТСБМ-72,* 307).

Тут, на дзедавай ялавіне, я пасвіў сваю Чарнавуху; вушы ў яе папраўдзе былі чорныя, і дзве чорныя плямы, велічынёю з авечыя аўчыны, былі на скабах. (*В. Адамчык.* Два злоты)

Параўн.: *скаба* — рабрына (*Сцяшковіч,* 450).

**Скара́ч** *наз., м.* Трапкач; ручнік (*БРС-62,* 857).

«Змоўкні, кажу!» — уз'елася маці і, схапіўшы скарач, хвасянула драбкамі па плячах. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *скарач* — 1) трапкач, 2) ручнік (*Уладзімірская,* 262, 312).

**Скачу́рыцца** *дзеясл., зак.* Скурчыцца.

...Яна [цётка Люды] супакойвала і ўладкоўвала свайго трэцяга ці чацвёртага прымачка, які скачурыўся яшчэ ад першых тостаў за маладых. (*А. Кулакоўскі.* Расце мята пад акном)

Параўн.: *кочурицьца, окочурицьца* — курчыцца (*Насовіч,* 250); *скачурыцца* — здохнуць (*БРС-26,* 284); *акачурыцца* — памерці (*Бялькевіч,* 50).

**Скры́ня** *наз., ж.* Прыстасаванне на калёсах для перавозкі сыпкіх матэрыялаў.

Хлапчук-вазак пад'ехаў са скрыняй да Веньяміна. (*І. Навуменка.* Бульба)

Параўн.: *скрыня* — збіты з дошак кузаў, які ставяць у калёсы для перавозкі сыпкіх матэрыялаў (*Масленікава,* 187).

**Слуха́ўкі** *наз., мн.* Навушнікі.

...Там, у хаце, было радыё са слухаўкамі, пэўна, гэтакае самае, як у майго дзядзькі, і калі я, бывала, у нядзелю прыходзіў да яго, дзядзіна надзявала мне на галаў і вушы блішчастую дужку з чорнымі круглымі баначкамі: у слухаўках нешта трашчала, шкраблося, як хрушч у пустой каробцы ад запалак, а потым чуваць было — спявалі. (*В. Адамчык.* Два злоты)

**Смажэ́нікі** *наз., мн.* Смажаная бульба.

Днём бабка пасадзіла іх [настаўніцу і Сашу] і накарміла капустай і смажэнікамі з новай бульбы. (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі)

Параўн.: *смажонікі* — смажаная бульба (*Янкоўскі,* I, 169; *Бялькевіч,* 412); *смажок* — бульба з прыгаркаю (*Шаталава,* 163).

**Смоўж** *наз., м. Перан.* Чалавек, які нізкапаклоннічае, падхалімнічае; чалавек-слізняк.

Вера... расказвала... аб Вейсе, аб людзях-смаўжах, людзях без сэрца, што падаліся на сабачую службу да фашыстаў... (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні) «Законы! Даўно ты пазнаў іх, пракляты смоўж? — міжвольна па-

думаў Сотнікаў.— Нядаўна яшчэ, мабыць, зубрыў зусім другія законы, а цяпер вось перакваліфікаваўся, спрытнюга!» (*В. Быкаў.* Сотнікаў)

**Смыкну́цца** *дзеясл. зак.* гл. *Перасмыкну́цца.*

Ён [Васіль] заўважыў, як у маці жалліва смыкнуліся куточкі губ, і падумаў, што яна вось-вось заплача. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *смыкаць, смыкнуць* — тузаць, тузануць (*БРС-62,* 870), прасці (*Шаталава,* 163).

**Со́пуха** *наз., ж.* Сажа.

...А пры боку трубы высачэзныя-высачэзныя — цягнуцца к самаму небу і бессціхання сапуць чорнаю сопухаю... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *сопух, сопуха* — сажа ў коміне (*Бялькевіч,* 414; *Сцяшковіч,* 463; *Сцяцко,* 149).

**Со́пушны** *прым.* Чорны.

А праз хвіліну перад Рыгорам мільганула сопушная цем калідора, і ён павярнуўся да выйсця. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *сопуха* — сажа (*Гарэцкі,* 215; *БРС-26,* 295).

**Со́шка** *наз., ж.* **1.** Прыстасаванне для гатавання ежы на кастры.

Варыва забулькала, і рыбак зняў казанок з сошкі і паставіў на траву. (*Б. Сачанка.* У жыцці)

**2.** Прылада, з дапамогай якой абганяюць бульбу; акучнік.

Кастусь не зважаў на матчыны ўгаворы: з ахвотаю завіхаўся на дрывотні, абганяў сошкаю бульбу, ездзіў на начлег... (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі) Каля запрудаў, за грэбляю, даўгінаўскія падзёншчыкі, нягледзячы на хлюпату, абганялі сошкамі бульбу. (*А. Бажко.* Перад вераснем)

Параўн.: *сошкі* — вілаватыя палкі, якія становяцца па баках калёс (воза), калі кладуць сена (*Бялькевіч,* 414); *сошка* — акучнік (*Сцяшковіч,* 465).

**Спазры́цца** *дзеясл., зак.* Спадабацца на погляд (*БРС-26,* 216). Гл. *Паза́рыцца.*

Таццяна аж расплылася ад задавальнення: «А можа, дасць бог, ніхто і не спазрыцца на нас, на старых...» (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *спазрыцца* — пакваліцца (*Сцяшковіч,* 465); *спазрыць* — угледзець (*Жыдовіч,* I, 126).

**Спамі́ж** *прыназ.* Між, паміж (*БРС-62,* 875).

Адно мяне ўзрадавала: па прапанове камфракцыі Савет прыняў пастанову — абвясціць другую забастоўку; калі немцы заўтра, да дзесятай гадзіны вечара, не выпусцяць усіх палітычных зняволеных, а ў першую чаргу — арыштаваных чыгуначнікаў, спаміж якіх шмат членаў Савета. (*М. Гарэцкі.* Віленскія камунары)

Параўн.: *спаміш* — прыназоўнік, мае значэнне месца і напрамку дзеяння (*Сцяцко,* 150).

**Спаражава́ць** *дзеясл., зак.* Спаралізаваць.

Але апошнія два гады жыцця ў Рызе не маглі спаражаваць яго [Рыгора] любові да сілцоўскае мяшчанкі — дзедзічкі. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *спарыжаваць* — разбіць палярушам (*Шатэрнік,* 262; *Янкоўскі,* I, 170; *Жыдовіч,* II, 151); *спарыжаваны* — паралізаваны (*Сцяшковіч,* 465).

**Спа́саўка** *наз., ж.* Канец лета, сярэдзіна жніўня.

Блізілася спасаўка. У садах спелі і глуха падалі летнікі. На градах спорна цвіў позні мак-самасейка. Гаркавата пахла агурочнікам і кропам. (*У. Кузьмянкоў.* Вяртанне)

Параўн.: *спасоўка* — гатунак груш (*Аляксейчык,* 72).

**Спо́паразку** *прысл.* З ходу, адразу.

Тады Завішнюк спалохаўся, саскочыў з калёс, падбег да яго [каня], спопаразку паправіў мокры хамут і доўга гладзіў каня па шыі, па мордзе. (*І. Пташнікаў.* Лонва) Некаторыя з іх [карнікаў] так і падалі не разагнуўшыся, а другія спыняліся, нібы ўзбіліся на пратарчаку, спопаразку ўзмахвалі рукамі, а потым грузна асоўваліся набок ці ападалі дагары. (*У. Кузьмянкоў.* Іх аставалася трое)

**Спра́га** *наз., ж.* гл. *За́саўкі.*

...Пётра падняў вышэй жэрдкі ў спразе і пакіраваўся на другое кукурузнае поле. (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

**Спрос** *наз., м.* Той, хто робіць допыт, пытае і перапытвае.

— Ты што, адказаць не можаш па-чалавечы?

— А ты спрос?

— Спрос.

— Дык ведаеш што... (*У. Кузьмянкоў.* Іх аставалася трое)

Параўн.: *спрос* — запытанне (*Бялькевіч,* 426).

**Спрэзентава́ць** *дзеясл., зак.* Падараваць.

Але ў галаве яго [дзеда Талаша] на скорую руку з'явілася новая думка: садраць з воўка скуру, покі ён не акачанеў,— гэта будзе дзедаў трафей, а кабана спрэзентаваць чырвоным байцам. (*Я. Колас.* Дрыгва)

Параўн.: *справентаваць* — падараваць (*Жыдовіч,* II, 152).

**Спрунéць** *дзеясл., зак.* Разбіцца громам; спрахнуць.

Назаўтра Юліку Барановічу было дрэнна з нагою.

— Вільгаць гэтая, адліга, дык яно і горш... Каб яна спрунела, гэтая жытка... (*К. Чорны.* Зямля)

**Спяшóк** *наз., м.* гл. *Паспéшка.*

Вось глядзі... бульба-спяшок-рассыпушка — колькі хочаш. (*А. Кулакоўскі.* Гартаванне)

Параўн.: *сьпешка* — гатунак ранняй бульбы, якая скора расце, спее (*Яўневіч,* 51).

**Стажары́шча** *наз., н.* і **Сцяжáрня** *наз., ж.* Адонак у стозе.

Прытаіўся дзед у хмызняку і асцярожна ўзіраецца перад сабою. Стажка не было. Адно толькі стажарышча, прысыпанае снегам, чарнелася засохлымі дубовымі галінамі. (*Я. Колас.* Дрыгва) ...На далёкіх паплавах тырчаць пустыя сцяжарні... (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі) Людзі завінуліся навокал, шукаючы жардзіны ці якой хварасціны са сцяжарні, каб змайстраваць насілкі і вынесці нябожчыка ў больш зручнае месца на пахаванне. (*М. Лынькоў.* Астап)

Параўн.: *стогавішча* — месца, дзе стаяў стог (*Сцяцко,* 154); *стажарышча* — стажар'е (*Сцяшковіч,* 469); *стажарынне* — стажар'е (*Шаталава,* 166); *сціжар'е, сцяжар'е, сцяжара, сцяжар'я* — стажар'е (*Жыдовіч,* II, 132; *Сцяшковіч,* 584).

**Стальніца** *наз., ж.* Дошка ў стале; верхняя частка стала (*Жыдовіч,* I, 128).

Валенты забарабаніў кіпцем па стальніцы, каб не так заўважылі, што рукі яго тыхаюць. (*М. Гарэцкі.* Зіма)

Параўн.: *стальніца* — верхняя частка стала (*Сцяшковіч,* 470).

**Старажóўка** *наз., ж.* Будынак для вартаўніка.

Чмаруцька быў так заняты сваёй працай, што і не заўважыў, як да яго ў старажоўку зайшлі. (*М. Лынькоў.* Векапомныя дні)

Параўн.: *старажоўства* — варта (*Жыдовіч,* I, 128).

**Старана́** *наз., ж.* і **Сто́уп** *наз., м.* гл. *Запе́ра, Застаро́нак.*

[Віктар] праціснуўся ў гумно, абмацаў старану з жытам і ўзлез. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Не варушачыся, каб не спалохаць іх [вераб'ёў], Юзік сказаў:

— А памерзлі... Хадзем, Юрка, дамо ім аўса.

— Знойдуць і самі. У нас у гумно паналазяць заўсёды пападстрэшшу і адно стаўпы гнюсяць (*К. Чорны.* Зямля)

«Дзе іх [клункі] схаваць»,— меркаваў ён [Патапчык], аглядаючы пустыя заперы і стаўпы са збожжам і канюшынаю... (*А. Чарнышэвіч.* Світанне)

— А дзе, ты кажаш, заварушылася?

— Во на гэтым стаўпе. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *старана* — пазуха ў гумне, дзе складваецца хлеб у снапах (*Насовіч,* 616), бок гумна (*Юрчанка,* 190; *Сцяцко,* 153), месца для сена, саломы (*Корань,* 154; *Шаталава,* 167); *стоўб, стоўп* — слуп (*Насовіч,* 615; *Гарэцкі,* 221; *Янкоўскі,* III, 125); *стоўпіць* — змясціць (*Гарэцкі,* 321); *стоўп* — 1) саха калодзежнага жураўля, 2) кветканоснае сцябло (цыбулі, шчаўя) (*Шаталава,* 168).

**Стаўбу́р** *наз., м.* Кавалак дрэва.

Чорны, як вугаль, тоўсты, роўны, гладкі дубовы стаўбур ляжаў упоперак ракі. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *стаўбур* — сцябло (без лісця) (*Сцяцко,* 152).

**Стаўпе́ц** *наз., м.* Частка грабель, да якой прымацоўваюцца зубы (*Янкоўскі,* II, 168).

Братка, дай свярдзёлка. Граблі раблю, дык няма чым дзіркі папракручваць у стаўпцы. (*К. Крапіва.* Мядзведзічы) Але раптам грабільна ў маіх руках пакручваецца, і я ўдараю канцом стаўпца па камені, абросшым пажоўклаю травою. Стаўпец адлятае, а я здзіўлена гляджу на грабільна, пакручваючы ў руках. Потым пачынаю прымяраць стаўпец да развілак. «Не такая вялікая бяда,— думаю сабе, трэба толькі схадзіць у хату, выбіць з стаўпца адламаныя канцы і зрабіць у грабільне новыя зарэзы, так як іх робіць тата». (*А. Пальчэўскі.* Калі ападала лісце) Ля сажалкі, абапёршыся на стаўпец грабель, як бы нечым устрывожаная, стаяла Зоня. (*В. Адамчык.* Зоня)

Параўн.: *стаўпец* — прылада, пры дапамозе якой вя-

жуць ніцяныя петлі (*Жыдовіч,* I, 128—129), падстаўка для ручнога трапання льну (*Сцяцко,* 153—154), папярочная палка грабель (*Сцяшковіч,* 472; *Шаталава,* 167).

**Сто́пка** *наз., ж.* Будынак для захавання бульбы, гароднiны.

Высокі мажны Максім Ус прыціснуўся да сцяны стопкі і без промаху біў з вінтоўкі па жаўнерах. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка) Бацька... вышмыгнуў у стопку і неўзабаве вярнуўся ў хату з бутэлькай. (*В. Адамчык.* На крыжавых дарогах) Чамусьці незвычайна доўгімі здаліся сцены хлява, стопачка, прабежка да першай яліны. (*А. Кудравец.* Барвовыя сумёты)

Параўн.: *істопка, стопка, сьцёпка* — памяшканне для захавання гароднiны і карняплодаў (*Каспяровіч,* 293); *стобка, сцёбка* — варыўня (*Хрэстаматыя,* 335); *сцёпка* — кладоўка, варыўня (*Клімчук,* 70; *Ніканчук,* 90; *Сцяцко,* 157).

**Сто́пкі,** *наз., мн.* гл. *Недато́пкі.*

І заўважыла [Анна Сцяпанаўна], што ні ў кога не было такіх стопкаў, як у яе, людзі абуваліся нармальна... (*А. Кулакоўскі.* Расстаёмся ненадоўга)

Параўн.: *стопак* — стаптаны лапаць (*БРС-26,* 301); *стэпцы* — сходы (*Сцяцко,* 155).

**Стоўп** гл. *Стара́на.*

**Страла́** *наз., ж.* гл. *Асве́р, Ко́варат.*

Вось тут ля стралы прывяжам да рання, а потым — у воласць. (*П. Галавач.* Суседзі) Пасадзілі на пясок ля стралы калодзежнай, залажылі пад пахі пастронак і, моцна завязаўшы вузлом на плячах, абкруцілі пастронак кругом стралы. (Там жа)

Параўн.: *страла* — вага (*Янкоўскі,* II, 168), канец жураўля ў калодзежы (*Жыдовіч,* II, 154), журавель (у калодзежы) (*Шаталава,* 168).

**Стру́шанка,** *наз., ж.* Трасянка.

[Гвардыян] абарочваецца напаўзвароту ад дзвярэй і дае апошні загад жонцы: «Як прыйдзе Панас — хай ідзе струшанку трэсці». (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Струшанка ляжала ля сцяны ў каровы пад нагамі — шапацела, калі ступала па гнаі Наста. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *(с)трушанка* — трасянка (*Насовіч,* 619; *Янкоўскі,* I, 183; *Юрчанка,* 191; *Бялькевіч,* 422), сена і салома, змешаныя (стрэсеныя) разам (*Яўневіч,* 50).

**Стрымбу́к** і **Стрымбу́ль** *наз., м.* Сцябло без лісця.

Мішка глядзеў на... стрымбукі сухога быльніку, што тырчаў па белым снезе на адкосе... (*В. Адамчык.* Хата) Там, на няўскопаных градах, звінелі сухімі галоўкамі стрымбулі высокіх кветак, што сяяліся самі па сабе і цвілі да позняе восені... (Там жа)

Параўн.: *стрымбуль* — стрэлка, кветканоснае сцябло цыбулі (*Лепешаў,* 49).

**Стрымбу́ль** гл. *Стрымбу́к.*

**Стугане́ць** *дзеясл., незак.* Стукаць, бразгаць.

Сляпы ад злосці ехаў Глушак мястэчкам, стуганеў жалезнымі абадамі па бруку. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

**Ступа́к** *наз., м.* Падэшва нагі, ступня.

Памятаю, як тата панура сігаў па вуліцы вёскі, а ўслед за яго вялікімі босымі ступакамі я трухаў подбегам. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее) «Ступак у мяне нічога не разбірае,— апраўдваўся ён [Нічыпар] перад людзьмі.— Па шышках буду хадзіць, па шыпульках — не чуе». (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі) Члап, члап, члап — хлюпаў каля хаты босымі ступакамі пан Антось. (*А. Бажко.* Перад вераснем) Пасля першага дня балела ўсё цела, як пабітае, кожны мускул адзываўся болем, пачынаючы ад шыі і канчаючы ступакамі. (*У. Дамашэвіч.* Горад прыйдзе сам...) Санітары ўнеслі Лявона ў калідор, хацелі сцягнуць чобаты, але яны папрымярзалі да ступакоў. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *ступак* — ступня (*Сцяцко,* 155; *Сцяшковіч,* 477; *Шаталава,* 170).

**Ступі́ца** *наз., ж.* Калодка ў коле.

Летам тут таксама дарога несамавітая — жоўты сыпучы пясок па самую ступіцу. (*Б. Сачанка.* Пакуль не развіднела)

Параўн.: *ступніца, ступіца* — калодка ў калясе, у якую забіты спіцы (*Бялькевіч,* 424).

**Стыда́цца** *дзеясл., незак.* Саромецца.

«...Выходзячы з гэтага, мы адварочваемся ад свайго роднага, не шануем яго, мы стыдаемся яго!» — слова «стыдаемся» Лабановіч прамовіў з націскам, пры гэтым выраз яго твару змяніўся, а ў вачах загарэўся агеньчык нейкай злосці. (*Я. Колас.* На ростанях) Тады За-

зыба ў сваёй неспадзяванай, але недаверлівай радасці паглядзеў на Маштакова і адразу панікнуў: сакратар райкома, нібы стыдаючыся чаго, плюскаў вачамі, спяшаючыся адвесці іх убок. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *стыдацца* — саромецца (*Сцяшковіч*, 478); *стыдзіць* — саромець (*Сцяцко*, 155).

**Сты́днік** *наз., м.* Сараматнік.

«Паважаў бы чалавека, стыднік ты»,— накінулася на Чачыка Кася. (*І. Пташнікаў.* Іллюк Чачык)

Параўн.: *стыдзька* — сарамлівы (*Насовіч*, 620); *стыднік(-ніца)* — сараматнік(-ніца) (*Жыдовіч,* I, 130).

**Стыка́цца** *дзеясл., незак.* Бываць, знаходзіцца (*Юрчанка*, 192).

У той год з вясны вельмі дажджыла і ўсюды панарастала шмат травы. І ён не стыкаўся дома — усё бегаў то з касою, то з граблямі і рабіў сена... (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга)

Параўн.: *(не)стыкацца* — быць дзе-небудзь вельмі мала (*Янкоўскі,* III, 126); *стыкацца* — бываць, знаходзіцца (*Сцяшковіч*, 478).

**Су́днік** *наз., м.* Шафка для захавання посуду, малака, хлеба і інш.

Стракаценькая кучарка скокнула з лаўкі на край паліцы, і адтуль пасыпаліся на суднік Пархвенавы соннікі і аракулы. (*М. Гарэцкі.* Зіма) І на мяне тата крычыць. Пазаўчора мне вельмі захацелася было сала, дык я сам палез у суднік ды адрэзаў сабе кавалачак, дык тата... калі дасць мне нечым па руках, дык я аж заплакаў. (*К. Чорны.* Зямля) А ён, Ратушняк, сядзеў на рагу стала, глядзеў пад суднік на сляпы магазын, на сляпы агонь... (*І. Пташнікаў.* Агні)

Параўн.: *суднік* — скрынка для пасуды, буфет (*Каспяровіч,* 295), шафа для кухоннай пасуды (*Бялькевіч,* 425), кубелец (*Сцяшковіч,* 479).

**Су́парат** і **Супо́рат** *наз., м.* Сапернік; праціўнік.

— Ну? — справіўся Рыгор.

— Твой супарат выйшаў ад Прыдатных.

— Бераг? — праверыў Пятрусь.

— А які ж чорт... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны).

У вялікай злосці яны [Хомкі] могуць забіць свайго супарата. (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь) Мартынава сэрца

забіла трывогу. Васіль — супорат небяспечны. Мартын — бабыль. (*Я. Колас.* Дрыгва)

Параўн.: *супар* — супернік, канкурэнт (*Насовіч,* 623; *БРС-26,* 304); *супарат* — праціўнік (*Гарэцкі,* 223); *супурат, супырат* — упарты чалавек (*Юрчанка,* 192; *Бялькевіч,* 427).

**Супо́рат** гл. *Су́парат.*

**Суто́нець** *дзеясл., незак.* Змяркацца (*БРС-62,* 902). На двары сутонела. (*М. Лобан.* Гарадок Устронь)

**Суто́нне** *наз., н.* Змярканне, прыцемак.

Ішоў дзед Талаш з такім меркаваннем, каб на сядзібу папасці ў сутонне, каб лепш быць прыхаваным ад людскога вока. (*Я. Колас.* Дрыгва) Сіні ў перадранішнім сутонні, ён [снег] аж сляпіў вочы сваёй чыстай, некранутай белізною. (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) Але ў тым месцы, дзе паабапал сцежкі стаялі — як падняць чалавеку руку — маладыя елкі, дарогу перагарадзіла вялікая, бы нацягнутая з суравых нітак павуціна, якая ў лясным сутонні, здавалася, блішчэла. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *сутонак, сутонне* — змярканне (*Сцяшковіч,* 481).

**Суто́ньвацца** *дзеясл., незак.* Змяркацца.

За акном ужо сутоньвалася: у кутках у нумары гусла цемната. (*В. Адамчык.* Калі ападае лісце)

Параўн.: *сутаняцца, сутуняцца* — змяркацца, сутонець (*Жыдовіч,* І, 131; *Сцяшковіч,* 481).

**Суха́рыкі** *наз., мн.* Пячэнне.

Негаваркія яшчэ жанчыны каштавалі катлеты, булкі, сухарыкі, ківалі сваім мужчынам на яду, шапталі на вуха: «Закусвай, закусвай, каб не давялося цябе валачы дадому!» (*Г. Далідовіч.* Ліст да Олі)

Параўн.: *сухарка* — булачка з салодкага цеста (*Сцяшковіч*, 481).

**Сцё́жар** *наз., м.* Уваткнутая ў зямлю жэрдка, вакол якой кладзецца стог (*Янкоўскі,* І, 178).

...Над пацямнелымі стагамі крычалі вароны і садзіліся на стромкія сцежары. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *сцежар* — падсцілка пад стог (*Сцяцко,* 167; *Выгонная,* 125; *Сцяшковіч,* 483); *стэжор, стэжар* —

жэрдка, вакол якой кладуць стог, падсцілка для стога (*Шаталава*, 172).

**Сцiба́ць** і **Сцiга́ць** *дзеясл., незак.* Ісці вялікімі крокамі.

Рыгор застаўся адзін. Ён хацеў гукнуць сваіх небажат — Зоську і Гуляша,— але ўспомніў, што, мусіць, паехалі ўжо. Тады засцібаў дарогаю. (*К. Чорны.* Нянавісць) ...Я бачыў, як вы сцігалі вуліцаю... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**Сцiга́ць** гл. *Сцiба́ць*.

**Сцяга́ч** *наз., м.* Чалавек, які не мае пастаяннага месца жыхарства; бадзяга.

Ты думаеш, мне гэты перамер цацка вялікая? Хто асеў на гаспадарцы, нават гэтыя сцягачы, якім зямлю гэтымі гадамі падавалі, няхай от яны скажуць! (*К. Чорны.* Зямля)

**Сцяжа́рня** гл. *Стажарышча.*

**Сыска́цца** *дзеясл., зак.* Знайсціся, адшукацца.

А тут яшчэ круціцца — сыскаўся са свету — гэты зладзюга Шыбянок. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Каля Пракопавай хаты спыніўся запылены «Масквіч». І пакацілася па вёсцы пагалоска: Пракопаў пляменнік сыскаўся. (*С. Грахоўскі.* Калі астаюцца свае)

Параўн.: *сыскацца* — вярнуцца (*Жыдовіч,* II, 157).

**Сыча́ць** *дзеясл., незак.* Сыцець.

Мяса ідзе на птушкаферму, а куры ад гэтага, знаеш, як сычаюць. (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

**Ся́нні** *прысл.* Сягоння.

«А я ўжо думала, вы сянні не прыйдзеце»,— прапела яна грудным голасам. (*І. Чыгрынаў.* Сонца на косах) А Іван Падзерын выйшаў на колькі хвілін у двор, вярнуўся адтуль і сказаў, пацепваючы плячамі: «Але ж і вечар сянні!» (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *сёні, сягання, сяньні* (*Жыдовіч,* II, 133; *Бялькевіч,* 439).

## Т

**Тава́р** *наз., м.* Буйная рагатая жывёла.

...Калі будуць з пашы гнаць тавар, я паеду дадому... (*Б. Сачанка.* Баравое рэха)

Параўн.: *тавар* (*Янкоўскі,* I, 180; *Хрэстаматыя,* 335; *Прач,* 169; *Сцяшковіч,* 492; *Шаталава,* 173).

**Та́ма(-ка, -цька)** *прысл.* Там.

А мы ўжо сянні збіраліся з бабамі ісці ў ямніцу глядзець сваіх мужыкоў. Тама ж цяпера лагер ваеннапалонных. Дак, можа, і наш чый тама. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі) «А я з Вуглоў. Смалякоў, Ігнат, а бацьку майго Іванам звалі. Значыць землякі мы. А ты чый будзеш тамацька?» — спытаў ён. (*І. Чыгрынаў.* Па дарозе дамоў)

Параўн.: *тама, тамацька* — там (*Бялькевіч,* 440); *тамака* — там (*БРС-62,* 915; *Жыдовіч,* I, 134); *тамыцька* — там (*Бялькевіч,* 441); *тамайка, тамачы* —там (*Сцяшковіч,* 493).

**Тарава́ты** *прым.* Добразычлівы, шчодры.

Ратавала адно — чалавек Харытоня быў тараваты, і калі сам чаго не меў, то зычыў па горла дабра суседзям. (*І. Чыгрынаў.* Залатая рука)

Параўн.: *тырыватый* — добры, шчодры (*Бялькевіч,* 449).

**Тарара́хкаць** *дзеясл., незак.* Тарахцець; працаваць з шумам.

У гумне тарарахкала арфа. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *тарарахъ* — выклічнік, які абазначае бой у што-небудзь (*Насовіч,* 620); *тарахаць* — тарахцець (*Каспяровіч,* 304).

**Тнуць** *дзеясл., зак.* Джыгануць; укусіць.

Пчала ледзь не тнула мне ў пяту... (*А. Бажко.* Перад вераснем)

Параўн.: *тнуць* — 1) ссякаць, 2) кусаць, джаліць, 3) заўзята праць (*Сцяшковіч,* 497).

**Трайні́к** *наз., м.* Вілы з трыма рагамі (зубамі).

Тады жанчына падскочыла да верамейкаўскага старшыні і цаўём трайніка піхнула ў спіну. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

**Трапа́шка** *наз., ж.* Трапло.

Па хлявах ды павецях Некрашоўкі адна перад другою ляскалі церніцы, стукалі трапашкамі... (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *трапашка* — прылада для трапання ільну (*Гуліцкі,* 129); *тряпышка* — прылада для трапання

льновалакна, трапло (*Юрчанка,* 197; *Бялькевіч,* 446); *трапачка, трапашка, трапушка* — трапло (*Сцяшковіч,* 500).

**Тру́бка** *наз., ж.* гл. *Ступіца.*

У калёсах левае пярэдняе кола без шыны. У другім паміж спіц устаўлена кароценькае пацясанае паленца, каб не ўгіналася шына. Патрэскаліся трубкі і вось-вось, здаецца, выпадуць спіцы, распадзецца кола. (*П. Галавач.* Вінаваты)

Параўн.: *трубка* — ступіца ў коле (*Насовіч,* 641); *трупка* — калодка ў коле (*Шаталава,* 178).

**Трупе́хнуць** *дзеясл., незак.* Гнісці, выветрывацца (*Гарэцкі,* 232).

Ды і сцены ў катуху ў гэтым ужо патрупехлі даўно, ледзьве ліпяць... (*М. Зарэцкі.* Вязьмо)

Параўн.: *трупехнуць* — гнісці, *трупехлы* — гнілы (*Насовіч,* 642; *Каспяровіч,* 312; *Юрчанка,* 198; *Бялькевіч,* 444); *трупехліна* — парахня (*Шаталава,* 178).

**Тру́пнуць** *дзеясл., зак.* Стукнуць, ударыць.

Град пабольшаў. Ён моцна сек мне па костачках, па пятах, і раптам па галаве востра трупнуў, і было чуваць, як адскочыла вялікая, з курынае яйцо, градзіна — я аж спатыкнуўся і адчуў, як на галаве пякучай гарачынёю наліваецца гуз. (*В. Адамчык.* Дзікі голуб)

Параўн.: *тропнуць* — ударыць (*Шаталава,* 177).

**Трупце́ць** *дзеясл., незак.* Трымцець, як пабіты гаршчок ці збан.

...Кірэй падышоў да брата, страсянуў яго руку, прытуліў да сябе і моцна пастукаў яго па плячах, нібы прабуючы на слых, які гук выдае яго цела — ці здаровае, ці не трупціць. (*У. Дамашэвіч.* Заклінаю ад кулі)

Параўн.: *трупцець, трумцець* — дрыжаць, калаціцца (*Шатэрнік,* 279; *Сцяцко,* 162; *Янкоўскі,* III, 133).

**Трэ́ска** *наз., ж.* Матэрыял, якім крыюць дах; дранiца, шчапа.

На двары мітусіліся людзі. Рабілі «трэску» на пакрыццё свірну і току. Конь быў запрэжаны, як пры малацьбе. Падганяў Рыгор, а яго маладуха падхоплівала з-пад нажа адлупленую ад асінавых калодак белую, як сыр, «трэску»... (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

**Турба́цыя** *наз., ж.* гл. *Ператрубацыя.*

«Ай, не, не трэба, не трэба: лішняя турбацыя», —

спыніў Рыгор. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) «Калі пан ужо верне нам затокі, мы прынясём самай лепшай рыбы нашаму настаўніку за турбацыю»,— гаворыць дзядзька Есып. (*Я. Колас.* На ростанях) А то, бачыце, сёння я чакаў; вам самім турбацыя вялікая і мне. (*К. Чорны.* Люба Лук'янская)

Параўн.: *турбацыя* — клопат, неспакой (*Насовіч,* 644; *Каспяровіч,* 314; *Сцяцко,* 163).

**Туркатáць** *дзеясл., незак.* Спяваць.

Дзядзечка, глянь, глянь! Вунь на каліне птушачка туркоча... Хто гэта? (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

Параўн.: *туркацець* — грымець калёсамі (*БРС-26,* 317).

**Турчáць** і **Турчэ́ць** *дзеясл., незак.* Крычаць, шумець.

Пад лесам і воддаль ад дарогі вісеў туман, падняўшыся ад зямлі. Турчэлі недзе далёка жабы, гудзеў дзікі голуб, ззаду, на Брадку, у тым баку, дзе нядаўна стралялі. (*І. Пташнікаў.* Тартак) На балотцы за голым і сіняватым алешнікам цвіла слепата, і недзе там турчаў, як хто ў вуха, туркач — на цяпло. (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *(рас-, за-)туркаць* — будзіць, трашчаць, крычаць (*Насовіч,* 644); *туркнуць* — затрубіць на вуха «тур» (*Каспяровіч,* 314), праляцець з шумам (*Бялькевіч,* 446); *турлычыць* — 1) неразборліва гаварыць, 2) спяваць (пра жаваранкаў) (*Юрчанка,* 199); *турчаць* — квакаць, бурчаць (*Сцяшковіч,* 506), цвыркаць (*Шаталава,* 179).

**Турчэ́ць** гл. *Турчáць.*

**Тхлáніць** *дзеясл., незак. Іран., груб.* Забяспечваць.

Значыцца, колькі цябе ні тхлань, усеадно табе нічога не паможа. Як у бочку без дна. А чаму? (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі)

Параўн.: *тхло* — аддушына (*БРС-62,* 931).

**Тылíкаць** і **Тылілíкаць** *дзеясл., незак.* Фальшыва іграць; пілікаць.

За сцяной, у кватэры Гайка, тылікаў фальшывую польку гармонік, ды цяжка, нібы салдацкімі ботамі, гопалі добра падпітыя госці. (*І. Шальманаў.* Пачынаўся дзень) Высіліся ўгару жураўлі студняў. Тылілікаў гармонік. (*З. Бядуля.* Салавей)

Параўн.: *тылілікаць* — 1) спяваць песню без слоў, 2) дакучаць спевамі (*Янкоўскі,* II, 178).

**Тылілі́каць** гл. *Тылі́каць.*

## У

**Уга́** *выкл., часц.* Ух, ого.

— Хіба ж мяне не ведаеце?

— Уга, хто цябе не ведае... (*М. Лынькоў.* Салавей-разбойнік)

Дзед паказаў рукой на салому: «Скармілі ж ужо багата, дый на подсціл багата пайшло. Саломы ў нас, уга, колькі». (*П. Галавач.* Спалох на загонах)

— О... дык ты сёння, брат, малайцом... Глядзі, мацi, чым не зяць!

— Уга! — з усмешкай развяла старая.— Не пазнаць... (*В. Дайліда.* Вясна, хлопцы, вясна)

**Угру́нь** *прысл.* Шпарка, бягом.

Угрунь пабег ён [кухар] да свае кухні... (*М. Гарэцкі.* Смачны заяц) [Карызна] угрунь дабег да школы, але на ганак узышоў спакваля, нібы раздумляючы. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) ...Думкі беглі угрунь адна за другой. (*П. Броўка.* Калі зліваюцца рэкі)

Параўн.: *угрунем, наўгрунь, угрунь* — хутка, шыбка, бягом (*Каспяровіч,* 317; *Яўневіч,* 37); *угрунь* — бягом (*Насовіч,* 651; *Бялькевіч,* 453; *Жыдовіч,* I, 140).

**Удо́дні** *прысл.* гл. *До́дніцай.*

Ён [Гушка] уставаў яшчэ ўдодні, клаўся апоўначы. (*К. Чорны.* Бацькаўшчына)

Параўн.: *удосвіцце* — досвіткам (*Юрчанка,* 203).

**Узбэ́нчыць** *дзеясл., зак.* Уздуць (пра жывот).

Колькі ж я піць буду? Каб узбэнчыло? Я ж толькі што напілася. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *узбэнчыць* — уздуць (*Сцяшковіч,* 511).

**Уко́цаць** *дзеясл., зак.* Забіць.

Навокал лес, тут за ноч можна не толькі Лейбу ўкоцаць, а ўвесь млын разам з паравіком перавезці. (*А. Чарнышэвіч.* Світанне)

Параўн.: *укоцыць, укакошыць* — забіць (*Бялькевіч,* 457; *Жыдовіч,* II, 164).

**Ула́дзіны** *наз., мн.* Змова, змовіны (*БРС-26,* 324).

«Што ж, уладзіны глядзець пойдзем?» — абярнулася Стэпа да Сёмкі. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

**Улóнне** *наз., н.* Калені.

Але Чубар адразу не стаў гукаць — проста спачатку сеў, паклаўшы на ўлонне вінтоўку... (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *улоння, улонне* — калені (*Бялькевіч,* 458; *Сцяшковіч,* 514).

**Улялю́шчыць** *дзеясл., зак.* Даць бізуноў, плётак і інш.

Пасля нас адпусцілі, а яму «двадзесце пенць»... І ўсе яму ўлялюшчылі, тыя ж паліцаі... (*І. Пташнікаў.* Лонва)

**Умалёгаць** *дзеясл., зак.* Упрасіць, гаварыць (*Жыдовіч,* II, 165).

Паволі, паволі ўмалёгалі яе. (*М. Лобан.* На парозе будучыні) Ледзьве ўмалёгаў яго [Цярэшку] Казік Ермаліцкі і такі прыехаў да бацькавага дому. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *малёгаць* — угаворваць, прасіць (*Бекіш,* 101).

**Умясцёх** *прысл.* Разам, гуртам.

І дзетвара галузавала умясцёх, заводзіла розныя гульні. (*М. Лынькоў.* Гой)

Параўн.: *умясьцёх* — супольна, разам (*Бялькевіч,* 460).

**Унё** *выкл., часц.* Вунь як!

Унё! Дак пашукаў бы! Можа і знайшоў бы, калі не вельмі пераборлівы. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *унё, унь* — вунь (*Янкоўскі,* I, 186; *Шаталава,* 182).

**Уну́рысты** *прым.* Пануры, негаманкі.

А што вочы такія ў цябе — дак мне ето, папраўдзе, да спадобы! Такіх ні ў кога няма болей! І сам ты — харошы, толькі што маўклівы, унурысты. (*І. Мележ.* Людзі на балоце)

Параўн.: *унурына* — плакса (*Каспяровіч,* 321); *унурыцца* — задумацца (*Сцяшковіч,* 515).

**Уны́ць** *дзеясл., зак.* Спалохацца; пасці духам.

Акаловіч уныў і варухнуў губамі. (*К. Чорны.* Пошукі будучыні)

Параўн.: *унываць* — падаць духам (*Бялькевіч,* 460).

**Урэ́пiцца** *дзеясл., зак.* Учапiцца (*БРС-62,* 963).

Другiя i зубамi, i рукамi ўрэпiлiся ў тое, што назва вёскi сваiм карэннем уваходзiць у слова «гайда». (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскi)

Параўн.: *урэпiцца* — ухапiцца (*Бекiш,* 107).

**Усе́нечкi** *займ.* Увесь.

Марыля стала дый паглядзела — усенечкiя людзi жнуць, толькi жменi калосся ды белыя хусткi мiльгаюць. (*Я. Брыль.* Птушкi i гнёзды)

Параўн.: *усенька, усенькае* — усе (*Гарэцкi,* 242); *усенькi* — увесь (*Сцяшковiч,* 516).

**Усердава́ць** *дзеясл., зак.* Раззлаваць, увесцi ў злосць.

Ну, вы мяне, панна Ядвiся, хочаце ўсердаваць, але вам гэта не ўдасца. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *сердавацъ* — злавацца (*БРС-62,* 851); *усердавацца* на каго — раззлавацца (*БРС-26,* 328); *усердзiць* — раззлаваць (*Насовiч,* 665).

**Усклы́чыцца** *дзеясл., зак.* Усхадзiцца, раз'юшыцца.

Але Лясніцкі раптам схапянуўся, усклычыўся, быццам яго ўкалола тое, што яна падышла суцяшаць. (*М. Зарэцкi.* Сцежкi-дарожкi)

Параўн.: *усклычыць, усклычваць* (*БРС-62,* 965; *БРС-26,* 328).

**Усту́пкi** *наз., мн.* Хатнi абутак, пантофлi.

Хоць боты абую, а то я на ногi ўступкi ўссунуць забылася. (*К. Чорны.* Трэцяе пакаленне)

Параўн.: *уступкi* — тапачкi (*Сцяцко,* 166; *Сцяшковiч,* 517).

**Уся́кся** *прысл.* Усяк, усяляк, па-рознаму.

— А настрой якавы, не чулi?

— Усякся. Большаю часткаю — добры, бадзёры. (*Ц. Гартны.* Сокi цалiны)

Параўн.: *усякава, усялякся* — усяк (*Бялькевiч,* 466; *Жыдовiч,* II, 167).

**Утну́ць** *дзеясл., зак.* Зайграць.

Падышлi вясковыя музыкi, Нямiравы прыяцелi, дзве скрыпкi i цымбалы. Музыкi ўтнулi танцы. (*К. Чорны.* Бацькаўшчына)

Параўн.: *утнуць* — зайграць гучна (*Сцяшковiч,* 518).

**Утхла́нiць** *дзеясл., зак. Iран., груб.* Забяспечыць. Гл. *Тхла́нiць.*

Хамскага горла ніколі не ўтхланіш. (*К. Чорны.* Лявон Бушмар)

**Ухадóкаць** *дзеясл., зак.* Закалоць.

Учора напрамілуй прасіўся, каб адпусціла памагчы Галаску кабана ўхадокаць. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *ухайдошыць* — забіць, знішчыць (*Юрчанка,* 208); *уходаць* — забіць (*Жыдовіч,* II, 168); *уходарыць* — прывесці ў парадак, прыбраць заколанага кабана (*Сцяцко,* 167).

**Уця́ць** *дзеясл., зак.* Уціснуць.

...Калі [мядзведзь] учуў пранозлівы свіст і рэў... уцяў голаў у плечы і прыспешным крокам пайшоў, азіраючыся... (*М. Лынькоў.* Баян)

Параўн.: *сцяцца, сцяць* — сціснуцца, сціснуць (*БРС-62,* 907).

**Учгýр** *наз., м.* Пояс.

Рукі звяжам. На мой учгур. (*А. Чарнышэвіч.* Світанне)

Параўн.: *гачкур, учкур, вичкур, очкур* — 1) шнурок, якім падцягваюць штаны, 2) мотуз, завязка для каўняра, сарочкі (*Сакалоўская,* 301).

**Ушалóпацца** *дзеясл., зак. Пагардл.* Закахацца (*Жыдовіч,* II, 169).

...Я ўжо і лейцамі гразіўся, і замуж хацеў за Невяроўшчыка аддаць, дык і ні блізка. Ушалопалася ў нашага парабка... (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *ушалопаць* — 1) раскумекаць, 2) убіць сабе ў галаву (*БРС-62,* 976).

**Уя́да** *наз., аг.* Надаедлівы чалавек.

Ну і ўяда ехала з намі. Век такое не бачыў. (*П. Пестрак.* Уяда)

Параўн.: *уядлы* — спрактыкаваны і нядобрасумленны працаўнік, які можа абманваць, абкрадаць, прысвойваць чужое дабро, але раскрыць яго цяжка ці не ўдаецца (*Янкоўскі,* I, 188).

## Ф

**Фáйны** *прым.* Прыгожы, добры.

«Файная баба!» — захапляўся Рысь, праводзячы Алеся з мястэчка. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды)

Параўн.: *файна* — добра, прыгожа, *файный* — добры, прыгожы (*Бялькевіч,* 468; *Сцяшковіч,* 521; *Шаталава,* 184); *файны* — харошы (*Сцяцко,* 168).

**Фарбо́ты** *наз., мн.* Карункі.

Любіць [дзед] любавацца на фарботы залаценькай павуціны, што бліскаюць на сонцы, цягнуцца, быццам плывуць і быццам сцелюцца ад поля... (*М. Гарэцкі.* Ціхая плынь)

Параўн.: *фарботы* — простыя, ручныя карункі з сумессю чырвоных нітак (*Насовіч,* 673), вязаныя ручным спосабам карункі (*Бялькевіч,* 478).

**Фаты́га** *наз., ж.* гл. *Пературба́цыя, Турба́цыя.*

— ...Сурвіла бярэцца пасля задатку нашу частку заплаціць, а мы яму будзем выплачваць, а за фатыгу яму адробім пакрысе.

— За фатыгу адробіце? А ці не прагадаў бацька? (*К. Чорны.* Бацькаўшчына)

Параўн.: *фатыга* — старанне (*Бекіш,* 108; *Сцяшковіч,* 523), турбота, клопат (*БРС-62,* 982).

**Фатыгава́цца** *дзеясл., незак.* Турбавацца, клапаціцца.

— Дзе ж пракурор?!

— Не захацеў фатыгавацца з-за нас... (*А. Бажко.* Позняе ворыва)

Не пашкадуй, як той казаў, кавалачка паперы і хвіліны часу ды вазьмі напішы ад мяне пару слоў брату... Зыдору, у Чарніцу. Пафатыгуйся... (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі)

Параўн.: *фатыгавацца* — клапаціцца (*Каспяровіч,* 326); *пафатыгавацца* — патурбавацца, паклапаціцца (*Шаталава,* 129).

**Фацэ́тна** *прысл.* Смешна.

Юлік Барановіч паглядзеў на курыцу і сказаў: «Ці не курч гэта на яе напала, вельмі ж яна ступае неяк фацэтна, прысядаючы». (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *фацэтна* — смешна, камічна, забаўна (*Жыдовіч,* I, 144).

**Фацэ́тны** *прым.* Смешны, камічны, пацешны.

На гэты раз дзверы расчыніліся болей урачыста, павольна і стала, і парог пераступіла даволі фацэтная і маляўнічая постаць штацкага чалавека са стрэльбаю. (*Я. Колас.* Дрыгва) А то яшчэ фацэтны Сабастыян надумае, што яна не верыць, што Ганне тут лепш, як у

родных бацькоў. (*К. Чорны.* Скіп'ёўскі лес) Так, выгляд мой быў даволі фацэтны... (*І. Навуменка.* Семнаццатай вясной)

Параўн.: *фацэтны* — камічны, смешны (*БРС-26,* 333; *БРС-62,* 982).

**Фо́рскаць** *дзеясл., незак.* Пырхаць; фыркаць.

За... возам, паклаўшы галаву аж на мяхі, і тупаў Буланчык. Адвесіў губу, форскаў, здавалася — хоча пераргрызці на калёсах мех: дастаць зярняты. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *порскаць* — фыркаць (*Насовіч,* 475; *БРС-26,* 242).

**Фуз** *наз., м. Перан.* Асадак; смецце.

«Э, глупства! — перапыніў настаўнік свае думкі.— Трэба абавязкова паехаць да сябра і крыху праветрыцца і скінуць той фуз, які патрошку пачынае ўжо набірацца». (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *фус* — адходы пры трапанні льну (*Жыдовіч,* І, 145); *фуз* — смецце на паверхні вады (*Сцяшковіч,* 524), адстой, асадак, ніжэйшы гатунак (*Жыдовіч,* II, 169).

## Х

**Хадні́к** *наз., м.* Палавік, дарожка (*Жыдовіч,* І, 145).

Бывала, цалюткі дзень, ад рання і да позняга, шаркае апоркамі на босую нагу па хадніках ці па каменю. (*М. Гарэцкі.* Дурны настаўнік)

**Хату́ль** і **Хаты́ль** *наз., м.* Заплечная ношка, мяшок.

Нейкая кабета, з белым палатняным хатулём на спіне, памалу дыбала па каляіне. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае) Сыркін уздыхнуў, але словам не азваўся. Пасядзеў, пакуль Чубар не зняў свае рукі з ягоных плячэй, тады падхапіў за самы вузельчык той хатыль, які браў апошні з воза, і пачаў прыспешваць сыноў. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *хатуль* — вузел, звязка (*Каспяровіч,* 328); *хатыль* — 1) плецены з бяросты кошык для хлеба, 2) кайстра, заплечны мяшок, торба (*Бялькевіч,* 470; *Юрчанка,* 210).

**Хаты́ль** гл. *Хату́ль.*

**Ха́ўкаць** *дзеясл., незак.* Цяжка дыхаць.

Ішоў [Панок] ззаду за ўсімі, дыхаючы, як рыба на пяску, ажно хаўкаў. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *хакаць* — цяжка, часта, перарывіста дыхаць (*Яўневіч,* 55; *Юрчанка,* 209); *хаўкаць, хоўкаць* — пазяхаць (*Жыдовіч,* II, 170).

**Хáцішча** *наз., н.* Месца, дзе стаяла хата.

Антон Ягоравіч пастаяў на сваім хацішчы, агледзеўся. (*І. Чыгрынаў.* На пыльнай дарозе)

Параўн.: *хатище, хатнищэ, хатышчэ, хатысько* — месца, дзе стаіць ці стаяла хата (*Корань,* 157).

**Хлабасцíна** *наз., ж.* Дубец, галінка, ламачына.

А ты, Варка, хлабасцінаю не махай: пятух акно высадзіць... (*М. Гарэцкі.* Зіма)

Параўн.: *хлыбазіна, хлыбасціна* — хварасціна, дубец (*Бялькевіч,* 474); *хлабыстацца* — шлёпацца (*Шаталава,* 186).

**Хля́ба** *наз., ж.* Паха.

Худая, з вострым крыжам і пустымі хлябамі карова... ішла па-старэчаму павольна і безуважна. (*В. Адамчык.* Срэбра на павуціне)

Параўн.: *хляба* — 1) дыхавіца, 2) паха (*Сцяцко,* 169), бакавая ўпадзіна паміж апошнім рабром і клубам (*Шаталава,* 187); *перахлябіцца* — рэзка патанець ад голаду, знясілення (пра жывёлу) (*Яўневіч,* 44).

**Хóднік** *наз., м.* Палавік.

І я стану жыць у хаце з белымі фіранкамі, з цёплай пафарбаванай падлогай, з мяккімі ходнікамі... (*В. Адамчык.* Урок арыфметыкі)

Параўн.: *ходнык, ходнік* — палавік (*Сакалоўская,* 316; *Жыдовіч,* 171).

**Хрáпа** *наз., ж.* Мёрзлая гразь.

На буланым стаенніку выехаў змрочны камендант, верхам праехалі афіцэры, следам па мёрзлай тугой храпе пратупалі падкаваныя боты салдат. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *храпа* — камякі мёрзлай гразі (*Нікапчук,* 92; *Сцяцко,* 170; *Сцяшковіч,* 583; *Шаталава,* 187).

**Хтóкала** *наз., аг.* Той, хто пры гутарцы часта перапытвае «хто?»

— У Лядах выцяг?

— Хто?

— Хтокала. (*П. Галавач.* Кнак)

Параўн.: *хтоцкі, хтокала* — той, хто пытае пра штонебудзь, хоць да гэтага і сам мае непасрэднае дачыненне (*Яўневіч,* 56).

## Ц

**Цаці́ўе** і **Цурбы́лле** *наз., н. Зборн.* гл. *Каліўё(е).*

Пад ёю [яблыняй] — лысы, дурны нямецкі гарбуз, ад якога пабэрсалася ў бакі яшчэ зялёнае цаціўе з рэдкімі шурпатымі лістамі. (*Я. Брыль.* Птушкі і гнёзды) Паміж голых яблыняў яшчэ прыкметны грады... і на іх стаіць пахілае кукурузнае цурбылле. (*І. Чыгрынаў.* Ці бываюць у выраі ластаўкі?)

Параўн.: *цецяўе* — сцяблінка травяной расліны без лісцяў (*Бекіш,* 108); *цяціўё* — націнне (*Сцяшковіч,* 544); *цырубальле* — сцяблы (*Каспяровіч,* 338); *цурбалле* — жорсткія сцябліны (*Янкоўскі,* III, 143).

**Цві́каць** *дзеясл., незак.* Ціўкаць.

Злева цягнецца заліўны луг, а справа, за ракой, каласіцца жыта. Там і цвікае начная песенніца — перапёлка... (*У. Кузьмянкоў.* Бацька)

Параўн.: *цвіркаць, цвыркаць* — ціўкаць (*Янкоўскі,* III, 142).

**Це́леш** *наз., м.* гл. *Стаўбу́р.*

Ужо канчаецца другі год, як Мікіта абрабляе зямлю Петруся. І за гэты час згінула з хляўца кадушачка і бярозавы целеш. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *цялеш* — 1) кавалак калоды, бервяна, 2) тоўсты чалавек (*Янкоўскі,* І, 193); *целеш, цялеш* — калода (*Юрчанка,* 216), тоўстае палена (*Шаталава,* 189).

**Це́перся** *прысл.* Даўно.

[Сымон Карызна] не ведаў таго, што яна [жонка] цеперся стаіць за дзвярыма. (*М. Зарэцкі.* Вязьмо) Ці цеперся носіцца Юзік са сваім намерам? (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *циперсь, цеперся* — даўно ўжо, вельмі даўно, калісьці, вунь калі, даўно (*Насовіч,* 687; *Каспяровіч,* 334; *Юрчанка,* 216; *Бялькевіч,* 480; *Сцяшковіч,* 537).

**Цёмначы** *прысл.* У вялікай цемнаце.

«Добры вечар,— прыветна адказаў ён [Хрыстафор Ігнатавіч].— Адкуль жа гэта цёмначы?» (*А. Кулакоўскі.* Тры зоркі)

Параўн.: *цямнатэча, цемнач* — цемра, цемната (*Сцяцко,* 171).

**Цілімкаць** і **Цiлiўкаць** *дзеясл., незак.* гл. *Цвікаць.*

У маці маёй нават ёсць моцнае падазрэнне, што ён [жаўранак] нікуды і не ляціць, а проста вылезе вясной з-пад мяжы і цілімкае... (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее) Птушаняты наперабой цiлiўкалi і жоўтымі кволымі дзюбкамі хапалі прынесены корм. (*Б. Сачанка.* Сляды)

Параўн.: *цілікаць* — чырыкаць (*Насовіч,* 689; *БРС-26,* 338).

**Цiлiўкаць** гл. *Цілімкаць.*

**Цóпаць** *дзеясл., незак.* Стукаць, тупаць.

Увіхаецца ля хат Мікіта, цопаючы кіем па зямлі... (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *цоп* — 1) нечакана схапіць, хоп, 2) нечакана стукнуць, выцяць (*Янкоўскі,* I, 192); *цопаць* — паціху стукаць, малаціць (*Янкоўскі,* III, 143).

**Цýпаць** *дзеясл., незак.* **1.** Стукаць цэпам пры малацьбе.

...А то мы з табою і ўдвух патроху цупалі б — мне кулі патрэбны, дык трэба жыта перамалочваць... (*К. Чорны.* Зямля) ...Што адзін чалавек, а што грамада! Вось табе прыклад. Ты адзін цупаеш цэпам і рукі дранцвеюць, падымацца не хочуць... (*Я. Колас.* Адшчапенец) Цапы ў калгасных гумнах, як і ў іншых, цупалі з рання да позняга вечара. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

2. Падаць.

Нідзе ні гуку. Толькі росы буйныя павіслі на лісцях дрэў і цупне на зямлю дзе-каторая расінка. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *цуп* — 1) туп, 2) пок, хлоп (*Бялькевіч,* 482); *цупаць* — спрабаваць ступаючы (*Каспяровіч,* 337); *цюпаць* — павольна, па-старыкоўску ісці (*Янкоўскі,* II, 192), парыць (у лазні) (*Юрчанка,* 217); *цюпыць* — падаць (*Бялькевіч,* 482).

**Цýпкі** *прым.* Цвёрды.

Якуб упяў у Зеленюка цупкі погляд сваіх хваравіта-бліскучых вачэй і зрабіў патугу ўсміхнуцца.

(*М. Зарэцкі.* Вязьмо) ...Стаялі групкамі салдаты. Курылі і паціху гаманілі, жавалі глёўкі хлеб, хтосьці прышываў гузік да цупкага мокрага шыняля. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *цубкі* — неэластычны; менш гнуткі, як звычайна (*Янкоўскі,* II, 191).

**Цурбы́лле** гл. *Цаці́ўе.*

**Цырбу́н** *наз., м.* Сцябло без лісця.

Конь падышоў да жолабу. Абмацаўшы ў жолабе, Юрка заўважыў: «Адны цырбуны». (*К. Чорны.* Зямля) «Трэба выйсці даведацца, у чым справа»,— адрываючыся ад сякеры, якою ён сек тытунёвыя цырбуны на махорку, падняўся з лавы Лявон. (*А. Васілевіч.* Шляхі-дарогі)

Параўн.: *цурбан* — кавалак дрэва (*Янкоўскі,* II, 191); *цурбаліна, цурбалка* — жорсткая і цвёрдая сцябліна (*Янкоўскі,* III, 143).

**Ця́мця** *наз., аг.* Няўдаліца.

Злосны і на ўвесь свет, і на самога сябе — «Пёрся, цямця, а тут і заняло!» — ён сеў і паехаў памалу. (*Я. Брыль.* Апошняя сустрэча) «Што вы, цётачка? — апраўдвалася тая, што ў кажуху.— Мой жа Парфіль такі цямця-лямця. Ён ніколі так не скажа на вас». (*С. Александровіч.* Ад роднае зямлі)

**Цярэ́спале** *прысл.* Напрасткі полем.

Сёння, яшчэ цёмненька было, ад настаўнічышынай Домны выйшаў Віктар і цярэспале пайшоў на Лапачоў Брод. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.: *цярэспаля* — напрасткі цераз поле (*Сцяцко,* 174).

## Ч

**Чабу́х** *гукаперайм., часц.* гл. *Бурдэ́нц.*

Зробяць, што трэба, а потым труп — чабух у балота. (*З. Бядуля.* Язэп Крушынскі)

Параўн.: *чабохаць* — біць па вадзе (*Каспяровіч,* 341); *чабухнуць* — кінуцца з разгону ў ваду (*Бялькевіч,* 487).

**Чалаве́к** *наз., м.* Муж.

Вярнуўшыся к калёсам, Глушак убачыў на двары насупраць Элю — Годлінага чалавека. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *чылавек* — 1) чалавек, 2) муж (*Бялькевіч,* 492).

**Ча́паць** *дзеясл., незак.* Ісці, рухацца з малой хуткасцю.

Конь чапаў, цюпаў. (*І. Пташнікаў.* Лонва)

Параўн.: *чэпаць* — хадзіць, дыбаць (*Сцяцко,* 177); *чапацца* — 1) бразгаць, пастукваць, 2) пакрысе варушыцца, рухацца (*Янкоўскі,* III, 144); *чапыцца* — цягацца, хадзіць (*Бялькевіч,* 488).

**Чарано́** *наз., н.* і **Чарэ́н, Чэ́ран** *наз. м.* Верхняя гарызантальная частка печы, чарэнь.

У кухні і была тая печ, у якой завалілася чарано. (*Я. Колас.* Адшчапенец) Дак жа, чарэн, мабуць, е? Ці заняты можа бацькам? (*І. Мележ.* Людзі на балоце) Ад разбуранай паліцыянтамі печы засталіся толькі чэран з прыпекам. (*П. Пестрак* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *чарана* — верх рускай печы (*Янкоўскі,* I, 194); *чарано* — чарэнь (*Сцяшковіч,* 546); *чарон, чарэн, чарынь, чэрон, чэрэн* — 1) под, дно печы, 2) верх печы, дзе можна ляжаць (*Корань,* 158); *чэрань* — чарэнь (*Сцяшковіч,* 553).

**Чарано́к** *наз., м.* Дзяржанне, ручка.

Тата ўсадзіў чаранок касы ў зямлю. (*А. Карпюк.* Дзве сасны) На асаблівую, э-э, раскошу не разлічвай... А хлеб, э-э, будзеш чаранком апалоніка рэзаць... (*А. Бажко.* Няпрошаныя госці)

Параўн.: *чаранок* у нажы (*Бялькевіч,* 493); *чэран* — тронак (*Сцяцко,* 177).

**Чарэ́н** гл. *Чарано́.*

**Чацвярту́шка** *наз., ж.* Бутэлька ёмістасцю 0,25 л.

Калі ён [Стась] вярнуўся ў хату, то на стале стаяла талерка з нарэзанай вяндлінай і чацвяртушка свойскай чырвонай гарэлкі. (*П. Пестрак.* Муж і жонка)

Параўн.: *чацьвяртушка* — чвэртка, чацвярцінка (*Юрчанка,* 219).

**Чвара́к** *наз., м.* Будынак, памяшканне.

...Бацька Абрама знайшоў часовы прытулак у графа Ельскага, бацькі цяперашняга графа Браніслава. Жыў у адным з чваракоў разам з парабкамі... (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *чварак* — чатырохвугольнае памяшканне без прыбудовы, барак (*Сцяшковіч,* 550).

**Чвáкаць** *дзеясл., незак.* Чаўкаць пры ядзе.

...Касперыч залажыў у рот апошні кавалак хлеба і сала, не спяшаючыся пачвакаў, глынуў з выглядам пераможцы і нават засмяяўся. (*Я. Колас.* На ростанях)

Параўн.: *чвякыць* — жаваць з цмоканнем (*Бялькевіч,* 490).

**Чвя́кнуць** *дзеясл., зак.* Шпурнýць.

...Глушак штосілы чвякнуў пастол пад лаўку. (*І. Мележ* Подых навальніцы)

Параўн.: *чвякнуць* — кінуць з сілай (*Жыдовіч,* І, 150), ударыць кулаком (*Шаталава,* 195).

**Чóбаты** *наз., мн.* Боты, чаравікі.

Санітары ўнеслі Лявона ў калідор, хацелі сцягнуць чобаты, але яны папрымярзалі да ступакоў. (*С. Грахоўскі.* Рудабельская рэспубліка)

Параўн.: *чобат* — бот, чаравік (*Бялькевіч,* 490); *чобаты* — мужчынскія чаравікі (*Сцяшковіч,* 550); *чаботы* — боты (*Жыдовіч,* ІІ, 175).

**Чóсанкі** *наз., мн.* Бітыя валёнкі.

Учора на дзялянкі прыехаў Сімацкі. У кароткім чорным кажушку, у чорных чосанках з галёшамі. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

Параўн.: *чосанкі, катанкі* — цвёрдыя валёнкі (*Жыдовіч,* І, 150); *чоска* — металічная шчотка для абдзірання лёну (*Шаталава,* 195).

**Чóўгаць** *дзеясл., незак.* Ісці з шумам.

Неўзабаве Яўхім і Сцяпан з косамі цераз плячо чоўгалі лапцямі к ражку, ад якога меліся пачынаць касіць. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *човхирь* — імгненнае выліванне вады (*Насовіч,* 700).

**Чýйна** *прысл.* Вельмі пільна.

Востра і чуйна глядзеў Макар у спіну Вадалея. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах) На паляне Анісім доўга таптаўся на месцы, чуйна ўслухоўваўся, з якога боку дзьме вецер... (*Б. Сачанка.* Дзік-бадзяга) А Юзік... палез у кішэню па самасад, чуйна ловячы насцярожаныя і цікаўныя позіркі. (*І. Хадановіч.* Юзік)

Параўн.: *чуйна* — чутна (*БРС-62,* 1015).

**Чу́ні** *наз., мн.* Самаробны абутак.

Дзед Талаш быў у кароткім кажушку, у суконных з раменнымі латамі майтках, абуты ў чуні. (*Я. Колас.* Дрыгва) Каля варот стаяла паласатая будка, і там хадзіў немец у доўгім белым кажусе, у плеценых саламяных чунях на ботах. (*В. Адамчык.* Раяль з адламаным вечкам) Ну, мусіць, пагаварылі там, у раёне, успомнілі Барадзіча і вырашылі ўзяць. Ноччу прыкацілі пад яго хату. А той, дурань, якраз абувае чуні. (*В. Быкаў.* Абеліск) ...Бліжэй да варот, расклаўшы на снезе чуні, стаялі і звалі да сябе ахвочых дзяды... (*М. Капыловіч.* Па хлеб)

Параўн.: *чухні* — вязаныя туфлі (*Каспяровіч,* 346); *чуні* — лапці, сплеценыя з аборак (*Бялькевіч,* 491), абутак, склееныя з гумы (*Жыдовіч,* I, 150; *Сцяшковіч,* 551), лапці з нітак (*Жыдовіч,* I, 150).

**Чысто́к** *наз., м.* Невялікая булка хлеба з апошняга цеста, паскрэбак.

Жонка мая дык і зусім вясёлая. Учора злётала да Станіславічыхі — у іх ёсць жорны. Змалола — на працадні нам у аванс далі два пуды — і сёння ранкам пякла. Потым пакрапала бοханы вадою і ўкрыла ручніком. Вялікія круглыя боханы. Тры боханы. І яшчэ маленькі — чысток. (*А. Савіцкі.* Палын — зелле горкае)

**Чэ́ран** гл. *Чарано́.*

## Ш

**Шабурша́ць** *дзеясл., незак.* Шамацець, шоргаць.

Ад цемені яшчэ цішэй. Чутна, як вожык лістом шабуршыць — на начную працу збіраецца. (*М. Лынькоў.* Радо) [Кульгавы] моцна патрос чамадан, узяўшы яго ў дзве рукі, паслухаў: «Гы, шабуршыць нешта!» (*І. Чыгрынаў.* Па дарозе дамоў)

**Шалабо́ніць** *дзеясл., незак.* Гаварыць абы-што; пустазвоніць.

«Ды будзе ўжо шалабоніць — хадзем, а то і гадзіннік таго не варт, каб аб ём столькі гаварыць»,— пазваў Сёмка таварыша. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *шалы-балы* — пустыя расказы (*Насовіч,* 705).

**Шалінóўка** *наз., ж.* Прыгожая квяцістая хустка.

У сенях яна [Зося] скінула з сябе старую пашарпаную світку, парудзелыя шкарбаны і зблеклую шаліноўку... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *шалінка* — шарсцяная хустка (*Касяровіч,* 348); *шаліноўка* — невялікая шарсцяная квяцістая хустка (*Сакалоўская,* 318; *Сцяшковіч,* 555), шарсцяная хустка без узораў (*Шаталава,* 197).

**Шалпатáнне** *наз., н.* Шамаценне.

Грамчэй і весялей трубіць ён [Пракоп] носам, больш лагодна прыслухоўваецца да шалпатання прусакоў у шчылінах, да шлёпання кропель з акна і ставіць гэта ў сувязь з адлігаю, што таксама яму на руку. (*Я. Колас.* Адшчапенец)

Параўн.: *шалпатаць* — варушыцца (*Янкоўскі,* II, 197).

**Шафáрня** *наз., ж.* Самаробная шафа (скрыня) з вялікімі шуфлядамі і перагародкамі.

Яны [чаравікі] стаяць на шафарні ў сенечках. (*І. Пташнікаў.* Лонва)

Параўн.: *шафарь* — расходчик (*Насовіч,* 707); *шафарня* — скрынка для збожжа (*Жыдовіч,* II, 179).

**Швóрыцца** *дзеясл., незак.* Шнырыць; мітусіцца; праціскацца.

[Дзядзька Есып] штосьці мармыча сам сабе, шворыцца рукою каля шапкі, намацвае брыль і верне шапку брылем на патыліцу... (*Я. Колас.* На ростанях) Кожнаму хацелася стуліцца, схавацца, знікнуць з вачэй, і таму інстынктыўна шворыўся кожны туды, адкуль менш відаць яго, дзе не звернуць на яго ўвагі. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *шворыцца* — мітусіцца, праціскацца кудынебудзь (*Сцяшковіч,* 558).

**Шканды́бáць** *дзеясл., незак. Іран.* Цягнуцца; шкробаць (нагамі).

Кабыла няхай пастаіць, а ты шкандыбай, брат, дахаты і нясі сюды новы хамут... (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее) Фурманка павярнула ў двор, а мы, памалу ступаючы пасля нязручнага сядзення, пашкандыбалі сабе па вясковай вуліцы. (*В. Быкаў.* Абеліск)

**Шкарбаны́** і **Шлапакí** *наз., мн.* Вялікі разношаны абутак.

...Яна скінула з сябе старую пашарпаную світку, парудзелыя шкарбаны... (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) Акуліна ўнесла пакунак, напусціла з двара холаду, навалакла шлапакамі снегу. (*Я. Брыль.* Сірочы хлеб)

Параўн.: *скрабакі* — падраныя, прычым вялікія боты, чаравікі (*Янкоўскі,* II, 198); *шкрэбуны* — старыя боты з адрэзанымі халявамі (*Шаталава* 200); *шлэпкі* — туфлі, зробленыя з тоўстых нітак (*Каспяровіч,* 352); *шлапакі* — пантофлі (*БРС-62,* 1024).

**Шлапакі́** гл. *Шкарбаны́.*

**Шлёгаць** *дзеясл., незак.* Біць, сцябаць.

Сёмка сядзеў побач таварыша, пашлёгваў пужкаю каня і не перашкаджаў яго думкам. (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны) «Но, зараза!» — крыкнуў ён [Кірыла] яшчэ мацней, шлёгнуў ляйчынаю і пагнаў воз цераз двор на прыгуменне. (*Я. Скрыган.* На Кірылавым хутары) Людміла шлеганула ляйчынай кудлатага з вялікім жыватом коніка... (*В. Дайліда.* Пасаг) Ну і гучна ж шлёгаў ёю [пугаю] Юзік! (*І. Хадановіч.* Юзік) Аканом кінуўся шляганууць нагайкаю па парабкоўскіх плячах, але парабак хістануўся ўбок... (*К. Чорны.* Бацькаўшчына) Максім пагойдваўся на шырока расстаўленых нагах, шлёгаў лазовым дубчыкам па адпрасаваных калошах штаноў і ўсміхаўся... (*А. Кудравец.* На балоце скрыпелі драчы) Лёнька сядзеў у куране і галінкаю клёну шлёгаў сябе па шыі — адганяў камароў. (*М. Капыловіч.* У ружовым тумане)

Параўн.: *шлёбаць* — секчы дубцом, плёткай ці кнутом (*Насовіч,* 712); *шлёг* — рэзкі нечаканы ўдар пугай, дубцом (*Янкоўскі,* I, 197); *шлёгаць* — сцёбаць (*Сцяцко,* 179); *шлёпаць* (*Жыдовіч,* II, 180); *шлёгнуць* — ударыць (*Шаталава,* 200).

**Штанда́ры** *наз., мн.* Дубовыя ці смалістыя хваёвыя круглякі, на якіх стаіць будыніна (*Янкоўскі,* I, 198).

Хата была ўехала ў зямлю, выгнулася сцяной, але дзядзька паклаў новыя падваліны, штандары, зрабіў прыбудоўку, перакрыў дах гонтамі... (*І. Навуменка.* Вецер у соснах)

Параўн.: *штандар, штандара* — невысокі драўляны слуп у фундаменце (*Юрчанка,* 225); *штандар, штандара, штандары* — 1) драўляны фундамент, 2) адзін з драўляных слупоў фундамента (*Корань,* 159).

**Што́кала** *наз., аг.* Той, хто пры гутарцы часта перапытвае «што?»

— Халера б на цябе, пішаш? У свята можна сказаць?

— Пішу. А што?

— Іш ты яго, што... штокала... (*М. Лынькоў.* Світка)

Параўн.: *штокало* — хто часта пытае «што» (*Насовіч,* 717).

**Што́ўхацца** *дзеясл., незак.* Штурхацца.

У кухні тупалі, штоўхаліся, грукалі збаны, глякі і бутэлькі, а ўвесь гэты шум пакрываўся і заглушаўся шумам вады. (*Я. Колас.* На ростанях)

**Шчабо́ўкнуць** *дзеясл., зак. Перан.* Шчоўкнуць.

— А на сходзе, глядзі ты! — гаворыць нехта.

— Каб каторы слоўца шчабоўкнуў супроць!.. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее)

Параўн.: *шчабоўкнуць* — упасці з шумам у ваду, утварыць гук «шчабоўк» (*Гарэцкі,* 257).

**Шчарбялі́** *наз., мн. Груб.* Зубы.

«А ну, падыдзі сюды! — абярнулася Аўдоля з дручком.— Вось пацягну па шчарбялях па тваіх, дык і хопіць з цябе». (*К. Крапіва.* Мядзведзічы)

Параўн.: *шчарбель* — шчарбаты (*Сцяцко,* 181).

**Шчо́пці** *наз., мн.* Кончыкі пальцаў; тры пальцы рукі, зведзеныя канцамі ў адно месца, каб штосьці ўзяць, памацаць.

«Здравія жалаем!» — важна сказаў ён [дзед Саёнак], вітаючыся са мной і дакрануўшыся шчопцямі пальцаў да маленькага, лакіраванага брыля сваёй вялікай, як рэшата, шапкі. (*Я. Брыль.* У Забалоцці днее) Язэп бярэ поўныя шчопці, асцярожна трусіць у газету і круціць ёмкую папяросу. (*В. Адамчык.* Свой чалавек) Тады Чубар успомніў, што вайскоўцы звычайна хаваюць самае «найпершае» на выпадак смерці ў патаемную кішэньку, што на поясе штаноў. Ён адкінуў край закарэлай гімнасцёркі і далікатна, быццам то быў не мёртвы, а жывы чалавек, стаў мацаць пальцамі, складзенымі ў шчопаць, абапал брызентавага пасака. (*І. Чыгрынаў.* Плач перапёлкі)

Параўн.: *шчыпці* — 1) шчыпцы, 2) ногці (*Юрчанка,* 226); *шчопці* — 1) драбок чаго-небудзь, як узяць у тры пальцы, 2) надта мала (*Сцяцко,* 181).

**Шчубо́ўкнуць** *дзеясл., зак.* Ударыць па вадзе (*Насовіч,* 722); плюхнуць, боўтнуць.

А там, пад той бок Дняпра, нешта раптам шчубоўкнула. (*М. Зарэцкі.* Сцежкі-дарожкі)

Параўн.: *шубоўтнуць* — нечакана ўляцець у глыбокую ваду з галавою (*Янкоўскі,* II, 200); *шчабоўкнуць* — упасці з шумам, боўтнуцца ў ваду (*БРС-26,* 352), неспадзявана кінуцца ці кінуць у ваду (*Жыдовіч,* II, 183).

**Шчыгу́льна** *прысл.* Вельмі цесна, у абцяжку.

З самага ранку Зыдор Пніцкі быў на пабудове. Святочная вопратка была на ім шчыгульна зашпілена. (*К. Чорны.* Ідзі, ідзі)

**Шчыгу́льны** *прым.* Цесна, шчыльна абцягнуты, падагнаны (*БРС-62,* 1032).

Ён [каморнік] доўга прыладжваў на нагах шчыгульныя гетры, дасціпна абцягваў іх рамянямі. (*К. Чорны.* Зямля)

Параўн.: *чыгульны* — цесны, недастатковы (*Каспяровіч,* 357), па назе (*Жыдовіч,* I, 155).

**Шчыт** *наз., м.* Верх страхі.

Той, хто будаваў яе [карчму], не лічыўся з ніякімі густамі. Каробка з цэглы, а на ёй дах з гонту — што можа быць больш простым? Ніякіх слупоў ля ганку. Суцэльная сцяна франтона, пабудаваная з цэглы, разам з шчытом упіраецца ў тонкі гонтавы дах. (*П. Пестрак.* Сустрэнемся на барыкадах)

Параўн.: *шчыт* — вяршыня дрэва (*Янкоўскі,* I, 200), франтон страхі (*Сцяшковіч,* 568), стык двухсхільнай страхі (*Каспяровіч,* 358).

**Шчэлепы** *наз., мн.* гл. *Па́шчакі.*

...Таня ўбачыла, як немец махнуў рукой у белай пальчатцы аднекуль знізу і ўдарыў Боганчыку пад шчэлепы. (*І. Пташнікаў.* Тартак)

Параўн.: *шчэляпы* — сківіцы ў жывёлы (*Жыдовіч,* II, 183; *Шаталава,* 204).

**Шэро́нг** *наз., м.* Шэраг, рад, шарэнга.

Двор у Маскалёвых меў мізэрны выгляд: маленькая хата, пры ёй сені, а да сяней — у адзін шэронг, як кажуць старыя,— прылеплены хлеў. (*У. Дамашэвіч.* Дзявочая клятва)

# Ы

**Ыгы́** *часц.* Так, але, ага (*Бялькевіч,* 506).

— На сонцы? — пытаўся ён [салдат].

— Ыгы.— Санька быў трохі старэйшы за Мішку і за мяне, але вельмі сарамлівы і нясмелы... (*І. Чыгрынаў.* Бульба)

— Гэта з Моладава, ці што?

— Ыгы. (*В. Адамчык.* Дзень ранняе восені)

«Ыгы»,— поўным ротам адказаў Кастусь. (*А. Кудравец.* Цітаўкі)

Параўн.: *ыгыкаць* — казаць «ыгы», *ыгыкала* — неразгаворлівы чалавек (*Бялькевіч,* 506).

# Э

**Э′кала** *наз., аг.* Заіка.

— Ты каго, даўганосы экала, клікаў?

— Я, э-э, секвестратара тут чакаў... (*А. Бажко.* Перад вераснем).

Параўн.: *хтокала, штокала ыгыкала* (*Бялькевіч,* 506).

# Я

**Якавы́** *займ.* Які.

А настрой якавы, не чулі? (*Ц. Гартны.* Сокі цаліны)

Параўн.: *якаво* — як (*Бялькевіч,* 508).

**Я′ма** *наз., ж.* Пограб; склеп пад хатаю ці асобна са зрубам і страхой.

Яна [маці] адвяла трохгадовую Вальку і закрыла яму цяжкім векам. (*С. Грахоўскі.* Жывое вогнішча) Каля парога сохла высыпаная з ямы картопля, стаяў кошык парэзанае ўжо на насенне. (*В. Адамчык.* Хата)

Параўн.: *яма* — склеп (*Сцяцко,* 183; *Сцяшковіч,* 574).

**Я′мка** *наз., ж.* Пячурка.

Значную частку хаты займала шырокая прысадзістая печ з ямкамі, пячуркамі, выступамі, карнізікамі і цэлымі катушкамі па баках, дзе хаваліся розныя рэчы хатняга ўжытку. (*Я. Колас.* Дрыгва) Рамонак

напараны ў ямцы стаіць. (*М. Лобан.* На парозе будучыні)

Параўн.; *ямка* — пячурка пры печы, куды выграбаюць жар (*Насовіч,* 727; *Сцяцко,* 183; *Шаталава,* 207; *Янкоўскі,* II, 203).

**Я'сік** *наз., м.* Падушачка.

На сярэдзіне палка ляжалі высока ўзбітыя падушкі, на самым версе якіх пакоіўся ясік. (*П. Галавач.* Праз гады)

Параўн.: *ясік* — маленькая падушачка (*Ралавец,* 82; *Янкоўскі,* I, 201; *Сакалоўская,* 319); *ясек, ясік, ясечка* — невялічкая падушачка (*Сцяцко,* 183; *Шаталава,* 207).

**Я'трыць** *дзеясл., незак.* Злаваць, узбуджаць.

Міканор быццам хваліўся, што не баіцца. Гэта задзірлівая ўсмешка, было прыкметна, ятрыла Яўхіма. (*І. Мележ.* Подых навальніцы)

Параўн.: *ятрыць, ятрыцца* — свярбець, балець, вельмі непакоіць (*Янкоўскі,* I, 202), хваляваць, нерваваць (*Сцяшковіч,* 576).

**Я'хкаць** *дзеясл., незак.* Брахаць гучна, скавытаць.

Там недзе ад злосці зайшліся і кінуліся сюды сабакі — і раптам сціхлі, пэўна, абнюхалі Дзікуця, і толькі чуваць было, як мякка скакалі і дыхалі, мусіць, высалапіўшы языкі. Потым замільгаў адзін, белы, і, яхкаючы, кінуўся Марціну на грудзі, закруціўся каля мяне, б'ючы хвастом па калошыне. (*В. Адамчык.* Дзікі голуб) Ганчак ужо ўзяў след, хутка знік і заяхкаў у ціхім заснежаным лесе. (*Г. Далідовіч.* Ласяня)

Параўн.: *яхыць* — брахаць (*Бялькевіч,* 509); *яха* — рэха (*Жыдовіч,* II, 184).

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ І АБАЗНАЧЭННІ

## Граматыка-стылістычныя паметы

*аг.*— агульны род
*адз.*— адз. лік
*асудж.*— асуджальна
*безасаб.*— безасабовы
*выкл.*— выклічнік
*гарэзл.*— гарэзліва
*груб.*— грубавата
*гукаперайм.*— гукаперайманне, гукапераймальнае слова
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе
*дзеясл.*— дзеяслоў
*ж.*— жаночы род
*жарт.*— жартаўліва
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.*— зборны
*злучн.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальна
*іран.*— іранічна
*лаянк.*— лаянкава
*м.*— мужчынскі род
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*наз.*— назоўнік
*неадабр.*— неадабральна
*незак.*— незакончанае трыванне
*перан.*— пераноснае значэнне слова
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*устар.*— устарэлае
*часц.*— часціца

## Спасылачныя працы беларускай лексікаграфіі і лінгвагеаграфіі [8]

*Аляксейчык* — *Аляксейчык Г. М.* З дыялектнай лексікі Навагрудчыны.— У зб.: З народнага слоўніка. Пад рэд. А. А. Крывіцкага, Ю. Ф. Мацкевіч. Мінск, «Навука і тэхніка», 1975. (У далейшым падаецца толькі назва зборніка.)
*Баханькоў* — *Баханькоў А. Я.* З рыбалоўнай лексікі Палаччыны.— У зб.: З народнага слоўніка.

[8] У слоўніку за ўмоўным абазначэннем працы рымскай лічбай абазначаецца том (выпуск), арабскай — старонка.

*Бекіш* — *Бекіш В.* З лексікі вёскі Кліманты.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэд. Ф. Янкоўскага. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1960. (У далейшым падаецца толькі назва зборніка.)

*Бірыла* — *Бірыла М. В.* З лексікі Чырвонаслабодчыны.— У зб.: З народнага слоўніка.

*БРС-26* — *Байкоў М., Некрашэвіч С.* Беларуска-рускі слоўнік. Менск, Дзяржвыд БССР, 1925—1926.

*БРС-62* — Беларуска-рускі слоўнік. Пад рэд. К. К. Крапівы. М., Дзярж. выд-ва замежных і нацыянальных слоўнікаў, 1962.

*Бялькевіч* — *Бялькевіч І. К.* Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны. Мінск, «Навука і тэхніка», 1970.

*Варава* — *Варава Г.* З лексікі вёсак Бабровічы, Замасточча, Катка, Слабодка.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*Вештарт* — *Вешторт Г. Ф.* Названия пищи в говорах Полесья.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря. М., «Наука», 1968. (У далейшым падаецца толькі назва зборніка.)

*Выгонная* — *Выгонная Л. Т.* Полесская земледельческая терминология.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Гарэцкі* — *Гарэцкі М.* Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік. Выд. 2-е. Вільня, Беларус. выдавецк. т-ва, 1921.

*Гуліцкі* — *Гуліцкі М.* З лексікі вёскі Зарытава.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*ДАБМ* — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, Выд-ва АН БССР, 1963. (Карты і каментарыі да іх.)

*Дуброўская* — *Дуброўская Е. Ф.* Прыслоўе ў гаворцы вёскі Вялікія Аўцюхі.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Жыдовіч* I, II, III — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Вып. 1. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1971. Вып. 2, 1974. Вып. 3, 1977.

*Зубрыцкі* — *Зубрыцкі С.* З лексікі вёскі Шклянцы.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*Калоша* — *Калоша Н.* З лексікі вёскі Лукі.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*Каспяровіч* — *Каспяровіч М. І.* Віцебскі краёвы слоўнік.

Віцебск, Выд. Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства, 1927.

*Клімчук* — *Климчук Ф. Д.* Специфическая лексика дрогичинского Полесья.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Корань* — *Корень Н. Д., Шушкевич М. С.* Полесская строительная терминология.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Крамко* — *Крамко І. І.* Мясцовыя словы адной прынёманскай гаворкі.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Крывіцкі* — *Крывіцкі А. А.* У слоўнік Мсціслаўшчыны.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Лепешаў* — *Лепешаў І. Я.* З лексікі вёскі Бершты Шчучынскага раёна.— У зб.: З народнага слоўніка.

*ЛГБГ* — Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, Выд-ва АН БССР, 1968—1969.

*Масленікава* — *Масленикова Л. И.* Из полесской терминологии транспорта.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Мацкевіч* — *Мацкевіч Ю. Ф.* Лексіка пчалярства.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Насовіч* — *Носович И. И.* Словарь белорусского наречия. Спб., 1870.

*Ніканчук* — *Никончук Н. В.* Из лексики полесского села Листвин.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Панюціч* — *Панюціч К. М.* Лексіка народных гаворак. Мінск, «Вышэйш. школа», 1976.

*Прач* — *Прач С.* З лексікі вёсак Парыцкага раёна.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*Прышчэпчык* — *Прышчэпчык А. М.* Лексіка Свержанскай гаворкі.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Ралавец* — *Ралавец М.* З лексікі вёскі Пустаселле.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Сакалоўская* — *Соколовская А. С.* Полесские названия одежды и обуви.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Сержпутоўскі* — *Сержпутовский А. К.* Грамматический очерк белорусского наречия села Чудино. Спб., 1911.

*Сцяцко* — *Сцяцко П. У.* Дыялектны слоўнік. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1970.

*Сцяшковіч* — *Сцяшковіч Т. Ф.* Матэрыялы для слоўніка

Гродзенскай вобласці. Мінск, «Навука і тэхніка», 1972.

*ТСБМ-72* — *Баханькоў А. Я., Гайдукевіч І. М., Шуба П. П.* Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мінск, «Нар. асвета», 1972.

*Уладзімірская* — *Владимирская Н. Г.* Полесская терминология ткачества.— В сб.: Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря.

*Усціновіч* — *Усціновіч А. К.* Асаблівая лексіка гаворкі аколіц Любчы.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Хрэстаматыя* — Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Мінск, «Навука і тэхніка», 1962.

*Цыхун* — *Цыхун Г. А.* Палескія назвы посуду, бочак, кошыкаў і іншых ёмістасцей.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Шаталава* — *Шаталава Л. Ф.* Беларускае дыялектнае слова. Мінск, «Навука і тэхніка», 1975.

*Шатэрнік* — *Шатэрнік М. В.* Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мінск, 1929.

*Шур* — *Шур В. В.* Матэрыялы для слоўніка жывёлагадоўчай лексікі Мазыршчыны.— У зб.: З народнага слоўніка.

*Юрчанка* — *Юрчанка Г.* Дыялектны слоўнік. Мінск, «Навука і тэхніка», 1966.

*Янкоўскі* I, II, III — *Янкоўскі Ф.* Дыялектны слоўнік. Вып. 1. Мінск, Выд-ва АН БССР, 1959. Вып. 2. Мінск, Выд-ва АН БССР, 1960. Вып. 3. Мінск, «Навука і тэхніка», 1971.

*Яўневіч* — *Яўневіч М.* З лексікі вёскі Кліны.— У зб.: Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы.

*Яшкін* — *Яшкін І. Я.* З лексікі вёсак Дудзічы і Азярычына Пухавіцкага раёна.— У зб.: З народнага слоўніка.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

**Абабурка М. В.** Лексічныя дыялектызмы ў празаічных творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў.— У зб.: Праблемы беларускай філалогіі. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1968.

**Абабурка М. В.** Ужыванне лексічных дыялектызмаў.— «Весн. Беларус. ун-та. Сер. 4», 1969, № 2.

**Абабурка М. В.** Адносна тэрміна дыялектызм.— У зб.: Вывучэнне беларускай мовы ў ВНУ БССР. Мінск, 1973. (Мінск, дзярж. пед. ін-т імя А. М. Горкага.)

**Абабурка М. В.** Дыялектнае слова ў мастацкім творы.— «Полымя», 1976, № 8.

**Аванесов Р. И.** Общенародный язык и местные диалекты на разных этапах развития общества. М., Изд-во Моск. ун-та, 1954.

**Адамовіч А.** Культура творчасці. Мінск, Дзяржвыд БССР, 1959.

**Анічэнка У. В.** Беларуская мова і дыялекты.— «Нар. асвета», 1960, № 1.

**Артеменко Е. П., Соколова Н. К.** О некоторых приемах изучения языка художественных произведений. Воронеж, Изд-во Воронеж. ун-та, 1969.

**Балахонова Л. И.** Диалектные по происхождению слова в современном литературном языке.— В сб.: Слово в русских народных говорах. Л., «Наука», 1968.

**Барсток М.** Якуб Колас и праблемы беларускай літаратурнай мовы.— «Полымя», 1954, № 3.

**Бельчиков Ю. А.** О нормах литературной речи.— В сб.: Вопросы культуры речи, вып. 6. М., «Наука», 1965.

**Будагов Р. А.** Индивидуальное в языке и стиле художественного произведения как историческая катего-

рия.— В сб.: Тезисы докладов межвузовской конференции по стилистике художественной литературы. М., Изд-во Моск. ун-та, 1961.

**Вайтовіч Н. Т.** Да пытання аб фарміраванні нацыянальнай літаратурнай мовы. (Аб суадносінах літаратурнай мовы і дыялектаў.) Мінск, Выд-ва АН БССР, 1958.

**Ветвицкий В. Г.** Диалектизмы как средство создания местного колорита в романе М. А. Шолохова «Тихий Дон».— В сб.: Михаил Шолохов. Л., Изд-во Ленингр. ун-та, 1956.

**Виноградов В. В.** О языке художественной литературы. М., Гослитиздат, 1959.

**Виноградов В. В.** Стилистика. Теория поэтической речи. Поэтика. М., Изд-во АН СССР, 1963.

**Винокур Т. Г.** Стилистическое развитие современной разговорной речи.— В сб.: Развитие функциональных стилей современного русского языка. М., «Наука», 1968.

**Гавриленко М. Л.** Роль диалектизмов в произведениях А. М. Горького при стилизации крестьянского диалога.— «Учен. зап. Горьк. ун-та», 1957, вып. 44.

**Германовіч І. К.** Лексічныя дыялектызмы і наватворы ў беларускай літаратурнай мове 20—30-х гадоў XX стагоддзя.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1963, № 1.

**Гілевіч Н. І.** Дыялектызмы ў прозе беларускіх пісьменнікаў сярэдняга пакалення.— У зб.: Беларуская мова і моваэнаўства, вып. 3. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1975.

**Глебка П.** Нататкі пра беларускую літаратурную мову.— «ЛіМ», 1950, 1 красавіка.

**Глушакова М. В.** Эстетика слова и эстетический идеал писателя.— В сб.: Язык и общество. Саратов, Изд-во Саратов. ун-та, 1967.

**Горбачевич К. С.** Изменение норм русского литературного языка. Л., «Просвещение», 1971.

**Грабчыкаў С. М.** З назіранняў над дыялектнымі варыянтамі ў лексіцы В. Дуніна-Марцінкевіча.— У зб.: З жыцця роднага слова. Мінск, «Навука і тэхніка», 1968.

**Дубоўка У.** Пра нашу літаратурную мову.— «Узвышша», 1927, № 2.

**Ефимов А. И.** Стилистика художественной речи. М., Изд-во Моск. ун-та, 1961.

**Жирмунский В. М.** Национальный язык и социальные диалекты. Л., Гослитиздат, 1936.

**Звегинцев В. А.** Экспрессивно-эмоциональные элементы и значение слова.— «Вестн. Моск. ун-та», 1955, № 1.

**Казлова Р. М.** Дыялектная лексіка ў палескіх раманах І. Мележа.— У зб.: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. 1. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1973.

**Казлова Р. М.** Праславянскія лексічныя дыялектызмы беларускай мовы.— У зб.: Беларуская мова і мовазнаўства, вып. 4. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1976.

**Калинин А. В.** Лексика русского языка. М., Изд-во Моск. ун-та, 1971.

**Ковтун Л. С.** О специфике словаря писателя.— В сб.: Словоупотребление и стиль М. Горького. Л., Изд-во Ленингр. ун-та, 1962.

**Козырев И. С.** Развитие и соотношение областной и литературной лексики со значением «внезапно» в русском и белорусском языках.— В сб.: Слово в русских народных говорах. Л., «Наука», 1968.

**Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І.** Эвалюцыя мовы беларускіх друкаваных выданняў новага перыяду.— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1967, № 3.

**Крапіва К.** Аб некаторых пытаннях беларускай мовы.— Збор твораў у 4-х тамах, т. 2. Мінск, 1956.

**Крывіцкі А. А.** Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі. Мінск, «Нар. асвета», 1961.

**Крывіцкі А. А.** Наша родная мова. Мінск, «Нар. асвета», 1974.

**Курилович Е.** Поэтический язык с лингвистической точки зрения.— В кн.: Очерки по лингвистике. М., Изд-во иностр. лит., 1962.

**Ларин Б. А.** Эстетика слова и язык писателя. Л., «Худож. лит.», 1974.

**Лобан М.** Некаторыя заўвагі аб мове.— «Полымя», 1951, № 3.

**Лужанін М.** Вачыма часу. Мінск, «Беларусь», 1964.

**Мележ І.** Крыніца творчасці.— «Звязда», 1961, 21 снежня.

**Олешкевич В. К.** О точности словоупотребления.— В сб.: Лексікалогія і граматыка. Минск, Изд-во Белорус. ун-та, 1969.

**Оссовецкий И. А.** Диалектная лексика в произведениях советской художественной литературы 50—60 годов.— В сб.: Вопросы языка современной русской литературы. М., «Наука», 1971.

**Петрищева Е. Ф.** Употребление стилистически окрашенных слов.— «Русский язык в школе», 1967, № 5.

**Пісьменнік** і мова. Выд. 2-е. Мінск, Выд-ва М-ва вышэйш., сярэдн. спец. і праф. адукацыі БССР, 1962.

**Прохорова В. Н.** Диалектизмы в языке художественной литературы. М., Учпедгиз, 1957.

**Рогожникова Р. П.** Варианты слов в русском языке. М., «Просвещение», 1966.

**Скрыган Я.** Ранішнія росы. Мінск, «Беларусь», 1965.

**Сцяшковіч Т. Ф.** З назіранняў над мовай К. Крапівы. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1961.

**Филин Ф. П.** Несколько замечаний о характере лексических диалектизмов.— В сб.: Вопросы славянского языкознания, вып. 1. Львов, 1948.

**Царанкоў Л.** Мясцовая лексіка ў літаратурным творы.— «ЛіМ», 1957, 23 лістапада.

**Цікоцкі М. Я.** Практычная стылістыка беларускай мовы. Ч. 1. Мінск, «Нар. асвета», 1962. Ч. 2. Мінск, «Нар. асвета», 1964.

**Цікоцкі М. Я.** Стылістыка публіцыстычных жанраў. Мінск, «Вышэйш. школа», 1971.

**Цікоцкі М. Я.** Стылістыка беларускай мовы. Мінск, «Вышэйш. школа», 1976.

**Чорны К.** Небеларуская мова ў беларускай літаратуры.— «Узвышша», 1928, № 5(11).

**Шакун Л. М.** Да вывучэння дыялектнай лексікі ў літаратурных крыніцах.— У зб.: Актуальные проблемы лексикологии. Мінск, Выд-ва Беларус. ун-та, 1970.

**Шведова Н. К.** К вопросу об общенародном и индивидуальном в языке писателя.— «Вопр. языкознания», 1952, № 2.

**Шкраба Р.** Літаратура і мова. Мінск, «Беларусь», 1968.

**Шмелев Д.** Литературный язык и язык художест-

веннной литературы.— «Рус. яз. в нац. школе», 1960, № 4.

**Юрэвіч У.** Слова і вобраз. Мінск, Дзяржвыд БССР, 1961.

**Янкоўскі Ф. М.** Аб працы Я. Коласа над мовай рамана «На ростанях».— «Весці АН БССР. Сер. грамад. навук», 1961, № 1.

**Янкоўскі Ф. М.** Пытанні культуры мовы. Мінск, Выд-ва М-ва вышэйш., сярэдн. спец. і праф. адукацыі БССР, 1961.

**Янкоўскі Ф. М.** Роднае слова. Выд. 1-е. Мінск, «Вышэйш. школа», 1967. Выд. 2-е, 1973. Выд. 3-е, 1978.

## ПАКАЗАЛЬНІК ПІСЬМЕННІКАЎ — АЎТАРАЎ ФАКТЫЧНАГА МАТЭРЫЯЛУ

*НИКОЛАЙ ВАСИЛЬЕВИЧ АБАБУРКО*

ДИАЛЕКТИЗМЫ В ПРОИЗВЕДЕНИЯХ БЕЛОРУССКИХ СОВЕТСКИХ ПИСАТЕЛЕЙ

КРАТКИЙ СЛОВАРЬ-СПРАВОЧНИК

На белорусском языке
Издательство «Вышэйшая школа»

Рэдактар *В. І. Аверкіна*
Вокладка *У. Я. Цэслер*
Маст. рэдактар *Л. М. Палякова*
Тэхн. рэдактар *М. М. Кіслякова*
Карэктар *Т. М. Руткоўская*

ІБ № 477
Здадзена ў набор 11.07.78. Падпісана да друку 20.04.79. АТ 03580. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум.-друк. арк. 5,265. Ул.-выд. арк. 7,39. Выд. № 76-194. Тыраж 1000 экз. Зак. 1415. Цана 75 кап.

Выдавецтва «Вышэйшая школа» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220048. Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, вул. Красная, 23.

## Памылкі друку

| Старонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 42 | 11 зверху | Тады засаўкі | Тады цераз засаўкі |
| » | 14 » | парсоўваюць | прасоўваюць |

Заказ 1415


Абабурка М. В.

А 13 Дыялектызмы ў творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў: Кароткі слоўнік-даведнік.— Мн.: Выш школа, 1979.— 144 с.

Кніга з'яўляецца першай спробай выяўлення і сістэматызацыі дыялектных слоў, якія праніклі ў творы беларускіх савецкіх пісьменнікаў.

Прызначаецца для студэнтаў філалагічных факультэтаў, выкладчыкаў і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, настаўнікаў і вучняў сярэдніх школ.

А $\frac{70103-089}{М\ 304(05)-79}$ —79 4С (Бе